Кастусь Рагойша • Антось Рагойша

# Нам сняцца сны пра Беларусь

Вершы, эсэ, успаміны

Мінск, «Кнігазбор», 2008

УДК 821.161.3
ББК 84 (4 Беи)
Р14

**Рагойша, К., Рагойша, А.**

**Р14** Нам сняцца сны пра Беларусь : вершы, эсэ, успаміны / Кастусь Рагойша, Антось Рагойша / Укл., падр. тэкстаў і каментар В. Рагойшы. — Мінск : Кнігазбор, 2008. — 152 с.
ISBN 978-985-6852-80-3.

Кнігу, падрыхтаваную прафесарам В. П. Рагойшам, склалі творы двух яго родных дзядзькоў, братоў бацькі. Гэта — юначыя вершы незаслужана рэпрэсаванага і рэабілітаванага пасля смерці Кастуся Рагойшы (1921–1964?), а таксама эсэ і ўспаміны Антося Рагойшы (1925–2007), з якіх чытач даведаецца пра шэраг цікавых момантаў з жыцця сялян заходнебеларускай вёскі пры Польшчы, «тых саветах» і ў час нямецка-фашысцкай акупацыі, пра сам род Рагойшаў. У кнігу ўключаны ўспаміны пра аўтараў кнігі іх родзічаў і сяброў. Агульны пафас кнігі — любоў да роднага кута і ўсёй Беларусі, імкненне сумленна і аддана паслужыць ёй.

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

ISBN 978-985-6852-80-3

# Кастусь Рагойша

*Іншай прагі не знаю*
*Й не зазнаю ў жыцці:*
*Толькі б роднаму краю*
*Працаваць і служыць.*



*Вячаслаў РАГОЙША*

## ДЗЯДЗЬКА КОСЦЯ

Так — «дзядзька Косця» — я называў у вочы малодшага бацькавага брата толькі двойчы ў жыцці. Першы раз у далёкім 1948 годзе, калі ён, будучы дырэктарам Пугачоўскай няпоўнай сярэдняй школы і адначасова — студэнтам-завочнікам трэцяга курса філфака Гродзенскага педінстытута, наведаў нас у новай, яшчэ далёка недабудаванай, ракаўскай хаце. Тады ён падараваў мне невялічкую кніжку вершаў Алеся Якімовіча «Улетку». Помніцца, тая кніжка мяне ўразіла найперш каляровымі малюнкамі. Магчыма, у тыя цяжкія пасляваенныя гады я ўпершыню ўбачыў у кніжцы не чорна-белыя, а каляровыя малюнкі. З таго часу дагэтуль помню на памяць усе вершаваныя надпісы пад тымі малюнкамі: «Улетку мы адпачываем, // Кніжкі новыя чытаем, // На палянцы ля дубравы // Ладзім гульні і забавы»; «Каб расла на градах густа // Лапушыстая капуста, // Агарод мы паліваем, // Пустазелле вырываем»; «Мчыцца ў небе самалёт. // Падвязі ты нас, пілот! // Самалёт крылом махае, // «Калі ласка!» — запрашае» і г. д. Відаць, я тады не мог прывыкнуць да новага для сябе местачковага асяроддзя, бо ў нядаўна адшуканым у хатнім архіве пісьме дзядзькі Косці да майго бацькі з перасыльнага турэмнага лагера ў Магілёве вычытаў такое пытанне: «Як маецца Слава? Ці прывык да «гарадскога» жыцця, да новай

прыроды, ці мае дружбакоў і ці ходзіць у школу?.. Можа калі ўбачу і не пазнаю. Сустрэцца надзеюся».

Надзея яго і мая збылася. Сустрэліся.

Другі і — на жаль! — апошні раз так — «дзядзька Косця» — звярнуўся я да бацькавага брата праз шэсць год, у 1954 годзе, калі ён вярнуўся з сібірскай турмы. Тады, пасля смерці Сталіна, яго, як і тысячы іншых гулагаўцаў, дачасна выпусцілі на волю. Але воля аказалася не той, пра якую марылася. Схуднелы, пастарэлы, з набытымі ў турме сухотамі, залішне сур'ёзны, негаваркі — такім мне запомніўся дзядзька ў тыя скупыя дні, калі гасцяваў у нас, каб у хуткім часе вярнуцца назад, адкуль прыехаў. На Бацькаўшчыне яму не дазволілі ўладкавацца на працу нават школьным вартаўнікам. Сам жа ён не захацеў выехаць у Літву, як гэта прапаноўваў яму ягоны сябар па настаўніцкай семінарыі Янка Багдановіч, каб выкладаць там у польскай школе. Хацелася служыць роднай старонцы!... Асабліва ранілі адносіны да яго як да «ворага народа». Казаў: «Паеду туды, адкуль прыехаў. Там усе такія. Там буду чалавекам...» Я ў той час ужо спрабаваў вершаваць. Ад бацькі і ягоных братоў ведаў, што дзядзька Косця ў свой час не толькі пісаў, але і друкаваў свае вершы. Так хацелася пачуць іх з яго вуснаў! Ды не да вершаў было. Свае ж вершаваныя практыкаванні паказаць яму не асмеліўся...

А не так даўно ў даведніку рэпрэсаваных дзеячаў культуры і педагогікі, укладзеным нястомным Леанідам Маракозым, прачытаў горкую інфармацыю: «Рагойша Канстанцін Іосіфавіч (1921, в. Пярэжары Валожынскага павета, Вілейскага ваяводства), педагог. З сялянскай сям'і. Меў незакончаную вышэйшую адукацыю (скончыў завочна тры курсы філфака Гродзенскага педінстытута). Працаваў дырэктарам Пугачоўскай няпоўнай СШ. У час 2-ой сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі, у 1943 г. скончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю. Арыштаваны 13.6.1948 у в. Пугачы. Асуджаны 20.9.1948 пазасудовым органам МДБ за «антысавецкую агітацыю» і «работу настаўнікам у час нямецкай акупацыі» да

10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення правоў. На волю выйшаў у 1954. Не атрымаўшы на радзіме працы, вярнуўся ў Ангарск, дзе і памёр, верагодна, 15.10.1964. Рэабілітаваны Вярхоўным судом РБ 21.1.1992. Асабовая справа Р. № 31985-с з яго фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі».

Мне дазволілі пазнаёміцца з гэтай асабовай справай. На жаль, многае ў ёй адсутнічае. У прыватнасці, як «рэчавыя доказы» ў свой час былі знішчаны пашпарт, прафсаюзны і нават даваенны камсамольскі білет арыштаванага (знамянальная дэталь: уласнік захаваў камсамольскі білет нават у суровы час нямецка-фашысцкай акупацыі!). І, што самае крыўднае, разам з іншымі дакументамі, як «не имеющий отношения к делу», быў знішчаны і агульны сшытак з вершамі. Відаць, у тых вершах следству не было за што «зачапіцца». А як бы цяпер яны ўзбагацілі наша ўяўленне пра Кастуся Рагойшу-паэта! Праўда, у справе цудам захаваліся рукапісы вершаў, дасланых у «Менскую газэту» і падпісаных псеўданімам «А. Веснаплынь». Напісаны яны былі ў пачатку снежня 1941 года па «ўказанні», як паказаў арыштаваны на адным з допытаў, нейкага Яцкевіча, прыслужніка нямецкай улады. Хутчэй за ўсё той Яцкевіч быў знаёмы з публікацыямі Кастуся ў перадваенных газетах, публікацыямі яўна прасавецкімі, і пад пагрозамі вымусіў да той творчасці, да пасылкі вершаў у беларускамоўнае акупацыйнае выданне. Больш, аднак, вершаў маладога паэта ў справе няма. Ды і ці друкаваліся вершы ў «Менскай газэце», невядома. Пра гэта, як заявіў на допыце аўтар тых вершаў, у яго звестак не было.

Што да саміх допытаў, то ў часе іх арыштаванаму інкрымінавалася «антысавецкая дзейнасць»: праца ў «створанай немцамі» пачатковай Пярэжарскай школе ў 1941–1942 гг., вучоба «ў арганізаванай «Беларускім нацыянальным камітэтам» Віленскай настаўніцкай семінарыі ў 1942–1943 гг., супрацоўніцтва з «антысавецкімі фашысцкімі газетамі», членства «ў антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі «Бела-

руская незалежная партыя»... Допыты часта працягваліся па некалькі гадзін, нярэдка ў начны час, хаця самі пратаколы — на дзве-тры старонкі, а на іх — усяго два-тры пытанні следчага (нейкага капітана Сцяпанава). Можна толькі ўявіць, ведаючы тагачасныя метады допытаў у турмах МДБ, што давялося зведаць за тыя гадзіны маладому настаўніку. Таму не дзіўна, што падсудны падпісаў (а можа, за яго падпісалі?) першы ж пратакол допыту, дзе агаварыў сябе, прызнаў сябе вінаватым. Пасланыя ж у «Менскую газэту» пад псеўданімам «А. Веснаплынь» вершы, рукапісы якіх, відавочна, знайшліся ў архіве газеты, фігуравалі ў справе як доказ таго, што падсудны «возводил клевету на Советскую власть, на вождя народов СССР и ВКП(б)». Што гэта, мякка кажучы, не зусім так, можна пераканацца, прачытаўшы сёння тыя, апошнія па часе напісання, вершы паэта — «Іншай прагі не знаю» і «Жыве Беларусь!»... Што да настойлівага жадання следчага Сцяпанава прыпісаць дзядзьку Косцю членства ў «Беларускай незалежнай партыі» і актыўны ўдзел у фашысцкім друку ўвогуле, то ў пратаколах допыту мы чытаем адны і тыя ж яго адказы: «не супрацоўнічаў», «не ўдзельнічаў», «не быў»...

Следчы, несумненна, хацеў «раскруціць» Кастуся Рагойшу на ўсе 25 гадоў лагераў. Не выйшла. 20 верасня 1948 г. на закрытым пасяджэнні Мінскага абласнога суда, на які пусцілі толькі заслухаць прысуд яго маці і брата Грышу і на якім ён ад пабояў і знясілення не мог нават стаяць (яго трымалі пад рукі два канваіры), яму аб'явілі: 10 гадоў турмы і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Тагачасны Вярхоўны суд БССР тое рашэнне пакінуў у сіле. А амаль праз паўвека Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда ўжо незалежнай Рэспублікі Беларусь, перагледзеўшы справу К. Рагойшы з пазіцыі новага часу і новых законаў, у сваёй пастанове запісала: «Как установлено по делу, Рагойша К. И. действительно в период немецкой оккупации работал в качестве учителя и обучался в учительской семинарии. Однако данное обстоятельство не может расцениваться как пособничество

врагу. Кроме этого, написанные им стихи не содержат призыва к свержению, подрыву или ослаблению Советской власти, а следовательно в его действиях отсутствует состав преступления…»

Такі лёс чалавека, які мог стаць калі не славутым, то вядомым беларускім паэтам, выдатным настаўнікам. Мог, калі б на ягоную долю выпаў іншы час, а не той, калі мільёны беларусаў трапілі ў бязлітасныя жорны ваенных падзей і сталінскіх рэпрэсій…

Я ўважліва перагледзеў даваенныя, у тым ліку даверасьнёўскія, выданні, дзе змяшчаліся творы Кастуся Рагойшы (з пачатку вайны ён пакінуў займацца паэзіяй). Гэта — заходнебеларускі віленскі часопіс «Шлях моладзі», маладзечанская раённая газета «Чырвоны сцяг», вілейская абласная «Сялянская газета»… Вершаў не шмат, але большасць з іх, нават напісаных паэтам у 17–18 гадоў, вызначаюцца жывапіснасцю і канкрэтыкай слоўнага малюнка. Мы бачым, як «Цераз пусткі і балоты Віхры топяць сёлы ў сне» («Загудзелі калаўроты»), як «Пад пакацістай гарою, На пустыннай нетры… Пясчынкі пераборам Прабіраюць ветры» («…Пад пакацістай гарою»). Відавочна, вершы маладога паэта рэдакцыям падабаліся. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць перапіска з ім на старонках «Шляху моладзі». Вось некаторыя «адкрытыя лісты» да яго з «Паштовай скрынкі» выдання: «**К. Рагойшы**. Матэрыялы атрымалі. Дзякуем. Будзем старацца выдрукаваць» (25 ліпеня 1938 г.); «**К. Рагойшы**. Падпіска аплачана за ўвесь год. Усе нумары высылаем. Вершы будзем друкаваць, бо ўжо прыйшла Вашая калейка. Ліст «Ch. D» перадалі. Прывітанне!» (25 верасня 1938 г.); «**К. Рагойшы**. Вершы і пісьмо атрымалі. Дзякуем. Будзем пакрысе друкаваць. У справе недаатрымання «Шляху моладзі» ўсё ж падалі мы скаргу ў Дырэкцыю поштаў. Усе нумары, якія прасілі, былі высланы паўторна, але, відаць, і іх Вам не аддалі. Прывітанне!» (25 студзеня 1939 г.). Пра прыязныя адносіны да Кастуся Рагойшы як аўтара і падпісчыка «Шляху моладзі» сведчыць і такі факт. У 1938 г. у якасці ўзнагароды

часопіс на сваім конкурсе прысудзіў яму — сярод дзесяці асобаў (а там былі Сяргей Крывец з Беластока, Ганна Новік з Куранца і інш.) — «Беларускую бібліятэчку»…

Мясцовыя польскія ўлады па-свойму заўважылі здольнага юнака з Пярэжар, які выдатна вучыўся ў Ракаўскай польскай сямігодцы, пісаў вершы на беларускай мове і дасылаў іх у заходнебеларускія віленскія выданні. Пачаліся ўгаворы «пернікам», запалохванні «пугай» — перайсці ў творчасці на польскую мову. Калі гэта не дапамагло, сталі пагражаць перасяленнем усёй рагойшынскай сям'і з «крэсаў» у глыб Польшчы. Сталі знішчаць (паліць у печы ў прысутнасці Косці і яго родных) дасланыя з Вільні беларускія кнігі і перыядычныя выданні. Накладалі на сям'ю штрафы за абы-што, праводзілі вобыскі. Аднойчы пасля такога вобыску арыштавалі і пасадзілі на два месяцы ў турму бацьку — за быццам бы схаваны ў прысядзібным металаломе «наган» (на самай справе — нейкую іржавую рулю, магчыма, і не ад нагана)…

Лёс — жыццёвы і творчы — дзядзькі Косці рэзка змяніўся пасля 17 верасня 1939 года. У лютым 1940 г., маючы за плячыма сем класаў Ракаўскай польскай школы, ён паступае ў Маладзечанскае педвучылішча. І адразу, як засведчыў нейкі П. Буталаў у допісе «Да гадавіны Маладзечанскага педвучылішча» («Чырвоны сцяг», 13 лютага 1941 г.), трапляе ў лік васьмі круглых выдатнікаў педвучылішча. Паралельна з выдатнай вучобай піша вершы, друкуе іх спярша ў мясцовай раённай газеце «Чырвоны сцяг», а пасля і ў абласной вілейскай «Сялянскай газеце» (Вілейка стала абласным цэнтрам у пачатку снежня 1939 г. — пасля таго як Віленская вобласць БССР і сам горад Вільня, дзе пачала выходзіць абласная газета на беларускай мове «Віленская праўда», былі перададзены Літве). Пра што піша малады паэт? Успамінае горкае мінулае («Мінулае»), радуецца новаму жыццю («Захапляецца сэрца прыволлем», «Змяніўся твар вёскі»), вітае асушэнне спрадвечных багнішчаў-балот («Асушым балоты», «Наступ на балоты»), апявае дружбу народаў («Прывітанне рэспублікам

брацкім»). Вядома, не ўсё напісанае маладым паэтам было на належным узроўні. Як, дарэчы, і ў самых вядомых у тагачаснай Заходняй Беларусі паэтаў — Максіма Танка, Міхася Васілька, Міхася Машары і інш., у творчасці якіх у першыя савецкія гады стала пераважаць дэкларатыўнасць, лозунгавасць, танна зразумелая надзённасць. Зрэшты, да гэтага тады заклікала і літаратурная крытыка. Так, у тым жа нумары «Сялянскай газеты» (29.04.1941 г.), дзе публікаваўся ў «Літаратурным кутку» верш «Наступ на балоты», быў надрукаваны рэдакцыйны артыкул «Аб вершах» (напісаны, верагодна, Максімам Танкам, які ў той час вёў у газеце літаратурны аддзел). Вось што ў ім пісалася: «Сярод прысылаючых нам свае вершы ёсць такія аўтары, якія пішуць на актуальныя тэмы, неабходныя іменна сёння. Рагойша К., Макараў П., Барысенка А. умеюць выбраць тэму, сказаць аб прадмеце канкрэтна, хаця і не ва ўсіх выпадках мастацка гладка. Тав. Рагойша напісаў верш аб асушцы балот «Наступ на балоты». Тэма актуальная. Усё сялянства Беларусі з вялікім энтузіязмам адгукнулася на пастанову партыі і ўрада аб асушэнні балот, якія вякамі ляжалі чорным цяжарам на плячах сялянства. Аднак аўтар не аддаў належнай увагі мастацкай старане верша. Таму ў ім сустракаюцца недагаворкі, стылістычныя пагрэшнасці».

Выказанае ў вершах Кастусь Рагойша падмацоўваў допісамі ў маладзечанскай раённай газеце, з якой пачаў стала супрацоўнічаць. У прыватнасці, у «Чырвоным сцягу» з'яўляюцца яго допісы пра Маладзечанскае педвучылішча («Урэшце, я авалодаў роднай беларускай мовай, якая пры польскай уладзе так жорстка праследавалася»; 6 ліпеня 1940 г.), пра вечар у педвучылішчы, прысвечаны Дню канстытуцыі (11 снежня 1940 г.), пра іспыты ў Лебядзёўскай НСШ (28 мая 1941) і інш. Яго публікацыі ў газетах з'яўляюцца рэгулярна ажно да самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Так, у маі 1941 г. у «Чырвоным сцягу» ўбачыў свет верш «Захапляецца сэрца прыволлем» (18 мая), а ў абласной вілейскай «Сялянскай газеце» — «Змяніўся твар вёскі» (14 мая) і «Раскрываем тар-

фяныя нетры» (27 мая). У чэрвені — вершы «Асушым балоты» («Чырвоны сцяг», 8 чэрвеня), «Нівы зеленню пакрываюцца» («Сялянская газета», 1 чэрвеня) і «Мы да новай ідзём перамогі» (там жа, 8 чэрвеня). І ўжо не можа не ўразіць такі факт: нават 22 чэрвеня (!), у дзень нападу Германіі на СССР, у «Чырвоным сцягу» друкуецца яго нататка «Кіраваць меліярацыйнымі працэсамі»…

Можна сабе ўявіць псіхалагічны стан маладога паэта і журналіста, калі ён, як і многія, заспакоеныя афіцыйнай савецкай прапагандай, што вайны не будзе, а калі яна здарыцца, то ворага адразу станем біць, прычым на яго тэрыторыі, — ужо на чацвёрты дзень убачыў немцаў у Маладзечне… Шок быў настолькі вялікі, што загасіў усе іскры натхнення, цягу да творчасці. І не толькі да канца вайны, але і да канца жыцця…



# ВЕРШЫ

* * *

Пад пакацістай гарою,
на пустыннай нетры,
дзе пясчынкі пераборам
прабіраюць ветры —

узрасла там кучаравай
постаццю лазінка;
гнецца, бураю схіляна,
беднай сірацінкай.

Ля яе каберцам стала
парастаць травічка.
Людзі, знайце, што цячэ тут
блізенька крынічка.

*[1938 г.]*

## ГРАНІТЫ

Ці ідзеш ты баразною,
Ці сцяжынкай палявой,
Ці пуцінкаю лясною —
Ў камень вытнешся нагой.

Ну ж і іх, дзе ні зірні ты…
Эх, каменны наш разлог!
Ўсюды цвёрдыя граніты
На зямлі ў яе пластох.

Гэй, ламы, лапаты, важце
Камень той з зямных пластоў!
А з гары валіце, жарце
Вы, мільёны малатоў!..

Гэй, збярыце, што пабіта,
На расчышчаны прастор —
З беларускіх мы гранітаў
Тут збудуем хмарадзёр!

*в. Пярэжары,*
*1938 г.*

## ЗАГУДЗЕЛІ КАЛАЎРОТЫ

Блішчаць зораў пазалоты
Ў цьме калядных чорных сноў…
Загудзелі калаўроты
Па радзімых сёлах зноў.

Уздых вольны на палетках
Зледзянеў ў курган шарын…
У лучынавых рассветах
Ў казцы вольнай успамін…

Цераз пусткі і балоты
Віхры топяць сёлы ў сне…
Загудзелі калаўроты,
Загудзелі, гэй, усе!

У бяздоллі, у бязволлі
Дзён прыгоннае пары
Снуём ніці к яснай долі,
К дынамітнае зары!

Рук без ліку, рук гаротных —
Ўзварушыўся працы мах.
Загудзелі калаўроты…
Гэй, снуём радзімы сцяг!

З цьмы далін з душой пявучай
Ўзмах асновы, шыр ткання
З зарой яснай мы спалучым,
З зарой заўтрашняга дня.

***в. Пярэжары,***
***1938 г.***

## ЗІМА

Аб чым сніш, мой радзімы прастор,
Пад сцюдзёным, лядзяным цяжарам?
Што гамоніш няўпынна, віхор,
Пушчам, сёлам, палям, цёмным хмарам?

Не відаць сонца яснага з хмар…
Крылле ўзнялі паўночы вятрышчы
І з-за свету сплылі на папар,
Загулялі тут новае йгрышча.

Па крывіцкіх палях загулі,
Па далінах крынічных памчалі, —
Шлях спрадвечны ў бясследдзе змялі,
Плыні вольных крыніц акавалі.

Свой мяцеліцы строяць парад, —
Гурбы й гурбы растуць прад вачыма…
Што ж, пражыць трэ’ й такі перапад.
У дарозе спачыць ані снім мы.

Мароз душыць-гняце ўвесь прастор,
Пад палоззем скрыпіць і галосіць…
Гэй, памчаўся нязнаны віхор, —
З-пад стрэх новыя казкі разносіць.

*[1938 г.]*

## МІНУЛАЕ

Ліліся слёзы, пот і кроў,
Віселі хмары на блакіце
І ветры вылі між платоў,
І ўдзень блукаўся ночны прыцем.
    Прастор палёў. Дзе глянеш — межы.
    Ўсё межы. Межы без канцоў.
    Быллём папар заросшы, чорны,
    Шапоча марнае жытцо…
А глянеш — панскі там абшар
Шуміць, як мора, буйным збожжам,
Бо пот сялянскі выліт там
І слёзы, кроў і труд паложан.
    Так дваццаць год народ-бунтар
    Між зграі панскай, цемры, змусу
    Да помсты быў гатоў, расплаты ждаў
    І ў радасць верыў непарушна.

*[1939 г.]*

* * *

Прыждалі светлай дзён пары,
Разгрому катаў панавання.
Ужо працоўных рук парыў
Не знае ржавых пут стрымання.
    Кладзецца ўсцяж цвярды граніт.
    Жыцця будову ўзнесці мусім!
    Раздаўся працы громкі рытм
    Ад сэрца вольнай Беларусі.
Наперад, гэй, рабочы люд,
Працоўных армія герояў!
Шырокі шлях прад намі лёг —
Не знаць пуцін пакутных болей!
    Народ — змагар. Народ шчаслівы.
    За труд, асвету стой сцяною —
    Пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў
    Пойдзем уперад квітнеючай дарогай.

*Маладзечна,*
*13.XI.39 г.*

## НЁМАН

Нёман серабрысты
Ад радзімых ніў,
Вольны, быстры, чысты,
Бурна ў даль паплыў.
    Хваляю вялікай
    Ён магутна б’е
    І на свет бязмежны
    Голас падае:

Аб парваных путах,
Лопнуўшым ярме,
Скончаных пакутах,
Разагнанай цьме;
Аб тым сонцы ясным,
Што ўзышло над краем,
І аб долі шчаснай,
Завітаўшай к нам.
Аб тым, як ганебны
Скончыўся прымус,
Як зажыў шчасліва,
Вольна беларус.

*гор. Маладзечна,*
*23.XI.1939*

## СТАРОНКА РОДНАЯ МАЯ

Старонка родная мая,
Зямліца, маці дарагая!
Усёй душой і сэрцам я
К табе агнём любві палаю.

Я твой аддавы, верны сын,
Ў тваім улонні ўзгадаваны,
Імкнуся к сонцу з цьмы далін,
Сном туманоў закалыханых.

Гарачай шчырасцю натхнён
К табе, краіна дарагая.
З табой я разам быў збаўлён
Ад здзекаў цяжкіх панскай зграі.

Старонка родная мая,
Зямліца-маці! Край мой мілы!
Жывём навечна мы з табой
Ў сям'і квітнеючых рэспублік.

*г. Маладзечна,*
*23.XI.1939*

## ЛЕНІН

Праз здзекі, жудасць, жах, цярпенні,
Кайданаў крышачы цяжар,
Прыйшоў ў жыццё ён, свету геній,
І распаліў жыцця пажар.
Падняў народ ён. Быстра рвучы
Натоўпы звіслых, чорных хмар,
Узняўся ў буры пераможнай
Людскога гневу Петраград.

Магутнай хваляй гнеў народны
Змяў свет стары, прагнаў цара
І залажыў асновы Ленін
Будовы новага жыцця.
Да працы зваў ён пакаленні,
Тварыць жыццё ў свабоды час.
Душою быў з усімі Ленін —
Ён працаваў і ў працы згас…

*Маладзечна,*
*17.I.40 г.*

## НАШАМУ КАНДЫДАТУ Т. БЯРНАЦКАМУ

І родны кут не быў табе прытулкам,
Твае сляды крывёй сплывалі,
Твой гнеў кіпеў у справах, думках
І біў змаганнем грознай хвалі.
Ішоў ты ўпарта сваім шляхам,
Прабіў муры Картуз-Бярозы,
Насустрач сонцу выйшаў з сцягам
Ў разгроме чорных сіл варожых.
Мы, пакладаючы давер’е
Сваё, як дарагому брату,
Сустрэнем з радасцю бязмернай
Усенароднага дзень свята.
У дзень, калі пальюцца песні
І зашумяць сцягі па хатах, —
Цябе пашлём, героя, з чэсцю
Ў Савет Вярхоўны дэпутатам.

*[1940 г.]*

## КАЛГАСНЫ ШЛЯХ

Дружнай працай ў сонцы ясным
Наш ірдзіцца сцяг.
Дружным крокам на калгасны
Мы выходзім шлях.

Не спаткаем у паходзе
Хмарнай чорнай цьмы.
Па зямлі свабоднай пройдзем
Хвалямі вясны.

На руінах меж крывавых
Зашуміць жыццё,
Зацвітуць ў палёх бяскрайніх
Краскі новых дзён.

Ў светлым розбліску магутных
Агнёў перамог
Шлях калгасны, шлях цвітучы
Ў даль да сонца лёг.

*[1940 г.]*

## КАБ ЖЫЦЦЁ ЗАРОЙ КВІТНЕЛА

Ўжо крывавых ніваў межы
Вострай сталлю трактар рэжа,
Крыша скібы ў пыл.
На з’яднаных ніў бязмежжы
Морам вольным і бязбрэжным
Б’е імклівасць сіл.

Расквітнела родна поле,
Воляй дыша ўсё раздолле —
Слаўны творчы час!
На руінах дзён пакутных
Вырас крэпасцю магутнай
Ў ззянні зор калгас.

Тыя, што вякамі чэзлі
Ў цемры і у сцюжах мерзлі, —
На свой шлях ўзышлі
Цвёрдым крокам, горда, смела,
Каб жыццё зарой квітнела,

Каб калоссе ў сонцы спела
Роднае зямлі!

*в. Пярэжары Радашковіцкага р-на*
*[1940 г.]*

## ПРЫВІТАННЕ РЭСПУБЛІКАМ БРАТНІМ

Прэч зладзейскія чорныя клікі,
Прэч крывавыя межы, драты!
З савецкай сям'ёю вялікай
Аб'ядналіся нашы браты.

І хвалююцца родныя далі,
Песні шчасця звіняць над зямлёй,
Бо жыццё ўсіх народаў Сталін
Аб'яднаў яснай праўдай-зарой.

І гучыць, нібы гром, ад Карпатаў
Да усходніх марскіх рубяжоў:
Прывітанне рэспублікам братнім!
Прывітанне Прыбалтыцы шлём!

*[1940 г.]*

## 17 ВЕРАСНЯ

Вялікі ясназорны дзень
Ідзе праз нівы, праз загоны,
Чырвоны сцяг над краем заірдзеў,
І паліліся песні волі.
    На пляцах, вуліцах раздольных
    Панёсся сталі гул — размовы,

Пайшлі калонамі рады
Людзей навек шчаслівых, вольных.
Не бачыць больш нам хмар нягод
І туманоў навіслых хмурых.
Свабоды, волі першы год
Святкуем радасна і дружна.
У поступе наш крок вялік.
Прыплодам верасень багаты.
На ворага адточым мы свой штык,
Спакою нашага не кратаць!

*[1940 г.]*

## ЗРОБІМ КРАІНУ ПЫШНЫМ САДАМ

Суджана жыць нам вялікімі днямі
На пераломе жалеза і песні.
*Максім Танк*

Як вокам скінуць — трасяніны,
Вятры траў грывы чуць варушаць;
Ў цішы, ў туманаў мроку сінім
Плыве павольна рэчка Уша.

Як сон, ішлі тут дні глухія.
Як бы на долі чалавечай
Лягла пячаць ліхой стыхіі —
Бязмеж балот ля Маладзечна.

Ды дні навекі тыя згаслі,
І сёння — сонейка над краем,
Сялянства вольны лад калгасны
Да светлай долі пракладае.

Вясна другая песняй звоніць
І новую прыносіць радасць.
Мы узмужнелі, сіл нам хопіць
Зрабіць краіну пышным садам.

Што на плакатах, мы чытаем
Душою шчырай тыя словы,
Яны да справы нас натхняюць
І ў сэрцах будзяць гул вясновы.

Мы воляй моцны; знаем тое —
Усё нам пакарыцца мусіць.
Дзе дрэмлюць багны Беларусі,
Заплешчуць хваляй залатою
Жыты, заззяюць агароды,
Прывецяць нас расліны Поўдня —
І закрасуе твар прыроды.

*[1941 г.]*

## НАСТУП НА БАЛОТЫ

Балота… І зрок не абдыме
Той тухлай чарнеючай пасці.
А вёска прысела на выдме
Пясчанай. Пытай тут аб шчасці…

Жыццё бедняка — сто няўвязак.
Як з горам ні білiся храбра,
Ды толькі вякамі у казках
Аб схованых марылі скарбах.

Тут каркаў груган на бярозе,
Чарот шалясцеў над узрэччам…

А сёння стаім на дарозе
Здзяйснення ўсіх мар чалавечых.

Запораў руйнуючы скалы
І гасячы пасцяў бяздонне,
Мы сілу ў вяках гартавалі
І дружбу кавалі працоўных.

А сёлета — эх, папрацуем!
Не словам — лапатаю хвастай!
Калоны узброім, змацуем,
З бакоў усіх вытварым наступ.

Звядзем раі хмар камарыных,
Звядзем племя гадзін і змеяў
Ды лозаў хірлявых драбіну
І — трэба дадаць — ратазеяў.

Не ў змроку туманішчаў сонных
І не сярод багнаў зыбучых —
І нашая Прыпяць, і Нёман
У сочных лугах разальюцца.

*Вялікае Сяло, Маладзечанскага раёна.*
*[1941 г.]*

## ЗМЯНІЎСЯ ТВАР ВЁСКІ

На нівах вясновае сонейка грае,
Зялёная рунь кучаравіцца,
А радасць у красках гарыць, не згарае
І песня ў палёт узнімаецца.

Ні хмаркі журботнай! Скрозь неба лазур
Блакітная бухае яснасць,

Цалуе яна прыгажуню зямлю,
Цвіце наша моладасць-радасць.

Разносіцца з пожняў пах прэлай травы,
А ўжо разгараюцца кветкі —
Прыгожа адзелі яны паплавы,
Узбор'і, лясы і палеткі.

Калісьці бядняк сваёй сошкай араў
Спусцелыя межаў узгоркі,
Сівец жа на нівах яго вырастаў,
І хлеб быў пякучы і горкі.

Нічога! Цяпер ужо горыч гадзін
На ветры развеецца тлёнам.
Ты чуеш: зліваецца ў радасны гімн
Адзіная праца мільёнаў!

А межаў апошніх цяжкія дары —
Удушша спрадвечнага сёлаў —
Навекі змятуць сілачы-трактары
У працы агульнай, вясёлай.

На новы шлях вёска ўступіла ужо
Ад долі, спавітай дзяругаю…
Ад цемры да яснасці без рубяжоў
Цяпер яе тэхніка рухае.

*Маладзечна.*
*[1941 г.]*

## ЗАХАПЛЯЕЦЦА СЭРЦА ПРЫВОЛЛЕМ

Ззяе сонейка дзён залатых,
Ззяе мора палотнішч чырвоных.
Вясна яркай красой зіхаціць,
Працай творчай май радасны звоніць.

А ў душы — радасць-мкненні, ахвочасць.
Захапляецца сэрца прыволлем,
Б’ецца ўсцешна, шчасліва і творча
Ў згоднасць тысячам сэрц разнявольных.

Ўшыр і ўдоўж на вясновым улонні
Ніваў «сталінец» — госць улюблёны —
Гучным гулам прасторы палоніць.
У абшарах грыміць песняў водгулле.

Гудзе трактар без стомы, спакою, —
Глянь, нямала ж там поля ўзараў!
А вядзе ж яго смелай рукою
Чарнаброўка, дзяўчына каханая.

Яе, рана ўзбудзіўшую поле,
Ясным бляскам цалуе зара.
Так! нявольнай не быць табе болей,
Тваё шчасце зарой узгарае!

Разрывай жа, знішчай вякоў дзёран,
Падымай загон стоптаны, збіты.
Мы ідзём полем — нівай прасторнай,
Шчасця, радасці вольныя сейбіты.

*[1941 г.]*

## РАСКРЫВАЕМ ТАРФЯНЫЯ НЕТРЫ

Не між кветак цвіла наша доля —
Палынела быллём на узмежках,
Не шчаслівіла працай вясёлай —
Кпіла злоснага лёсу насмешкай.

Маладыя, юнацкія годы —
Грудзі сэрца агню не стрымалі…
І пайшлі дзянькоў чорных чароды
Ў бруднай быту штодзённага хвалі.

Тоўшчы муру, жалеза і цемрадзь —
Завяршэнне вандровак крывавых.
А далей ужо ночанька-ведзьма
У крыві чыніць жудасць расправы.

Багі царстваў цямраных над Нёмнам
Дажывалі святыя хвіліны…
Ды жыццё загуло неўгамонна,
Вёснаў рухнулі вольныя плыні.

На дрыгве занімаецца золак.
Ой, не тая тут мглістая соннасць!
Абшар поўніцца гулам вясёлым,
Разліваецца йскрыстае сонца.

Зіхаціць даль ірдзістая шоўкам,
Дыханулі другой вясны ветры.
Заскакалі вясёла рыдлёўкі —
Раскрываем тарфяныя нетры!

Пласты золата чорнага рэжам,
Вякоў глыбы ўздымаем да сонца.

І хвалююць крыніцы ў бязмежжа —
Б’е энергіі моц і бясконцасць.

А «спевакі» выводзілі брэдні
Пошлым зыкам «свяшчэннае» ліры
Пра лёс «суджаны», вечную беднасць,
Чым нябёсы наш край абдарылі.

Чалавек ў сваёй моцы вялікі!
Што захоча, то зможа — раскованы!
Яго вольныя думкі праніклі
Ў цемень глыбаў вякоў напластованых.

Яго волі напор, наступальнасць
Ў зброі ведаў імкне нестрымана.
Дзе, што можа быць непазнавальным?
Рэчы ёсць толькі шчэ непазнаныя!

І апошнія «нешта» і «штосьці»
Расплывуцца у віры падзеяў.
Беларусь у зары маладосці
Зіхаціць, расцвітае, ірдзее!

***гор. Маладзечна.***
***23.05.1941 г.***

## НІВЫ ЗЕЛЕННЮ ПАКРЫВАЮЦЦА

Ў вясны полымі вёска ўся тоне,
Нівы свецяцца бляскам лаўровым.
На прывольным вясновым улонні
Узнімаюцца ўсходы каўром.

Б’е к жыццю ўсё. Лісцяцца галіны.
Глеба вільгаці сокамі поўна.

Мгненне кожнай вясновай хвіліны
Як жа дорага нам, як каштоўна!

Заглушаючы злосныя пошапы,
Ад зары да зары з шчырым сэрцам
Працавалі, не страціўшы моманту, —
Сёння зеленню поле смяецца.

Цяпер сонца ўжо глебы не спаліць —
Пад пушыстым каўром яна прэе.
Цяпер, сонейка, ззяй над палямі,
Цяпер, сонейка, толькі і грэй!

А было ж так… Цягнулі да Сёмухі,
Бо «к Міколе не сейся ніколі»,
Покуль ветраў гарачыя подзьмухі
Нат апошняй не высушаць кроплі.

Так і сееш на шчасце, а глеба —
Як стары маршчыністы лоб…
Вочы прагна ўзіраюцца ў неба:
Хоць бы воблачка скуль прыплыло!

Ды дарма! Толькі сонечны лівень
На палі так і бухае прама…
Калі ж прыйдзе склапочаны жнівень —
Глуха звоняць сярпы з камарамі.

Ты слязу вытраш горкім мазолем,
Бо жыццё — быццам гэта сухмень.
Крукам гнешся ўвесь час над загонам,
А ўраджай — хоць злажы у кішэнь.

А сягоння? Калі ахапляеш
Зрокам поле з сардэчнаю шчырасцю,

Дык, здаецца, і сам падрастаеш
Разам з гэтаю зеленню-пышнасцю.

І жывеш ўвесь у песні гуллівай,
Думкі ў вольным прыволлі калосяцца.
Свежасць сонца ўліваецца ў нівы, —
Не такое жніво ў нас раззвоніцца!

***гор. Маладзечна.***
***31.05.1941 г.***

## МЫ ДА НОВАЙ ІДЗЕМ ПЕРАМОГІ

У найгоршыя, цяжкія годы
Дапамогі ніскуль не чакалі:
Знайшлі ўласныя сілы і сродкі,
Умацоўвалі фронт, будавалі.

Яшчэ золлю пажарышчаў веяў,
Ледзь сціхаючы, вецер на вёскі, —
Селянін хоць у сцюжу, ды сеяў,
Бо быў ўпэўнен ва ўсходы і росквіт.

На руінах, развалінах горада
Стаў рабочы з рук вогненным гартам.
Год за годам — і ўзнесліся горда
К сонцу фабрык, заводаў гіганты.

Хто насіў колісь назву бяздомнага,
З-пад рукі яго цуды паўсталі —
Нетры загаварылі і домны
Неўгамоннай распеліся сталлю.

Узрасла моц працоўнага фронту,
Цуды тэхнікі бытнасцю сталі —

Пайшлі танкі, гудуць самалёты,
Трактары цвердзь адвечную ўзнялі.

І дзе ноч у народзе хадзіла,
Дзе цямнела бяздолле і невуцтва, —
Там цвіце сёння наша Радзіма
У абдымках з вясной чалавецтва.

Мы да новай ідзем перамогі!
Нам — няспыннага росту кірунак.
За пракладку мы добрых дарогаў,
За пракладку ўсё новых чыгунак!

За найбольшыя ў свеце будоўлі,
За шпіталі ўсё новыя, школы,
За культуру, асвету, здароўе —
Бед, хвароб каб не ведаць ніколі!

Таму кожны рубель так патрэбен
Ў нашай сённяшняй справе вялікай!
Таму шчыра і радасна гэтак
Выпуск новай вітаем пазыкі!

*гор. Маладзечна.*
*4.06.1941 г.*

## АСУШЫМ БАЛОТЫ

Час мінуў той, калі на абшары
Непраходнай, пякельнай дрыгвы
Мы глядзелі пужліва, скрозь хмары
Чорнай, цяжкай, навіслай імглы.

Час мінуў, калі мы у бяссіллі
Супраць гэтай стыхіі былі,

Калі путы нас ў горы тамілі,
Калі горкія песні плылі.

Калі тух у вадзе гэткі простар,
Асакой парастаўшы імшарнай…
А пясчаны, абвеяны ўзгорак
Надзяляў пустазеллем нас марным.

Час мінуў той…
А сёння ў зары
Нашай слаўнай і новай эпохі,
Калі радасцю песня гарыць,
Мы, ўсіх нетраў зямных ўладары,
Колам наступаў
Багны ахопім!

Грымяць цвёрдыя крокі.
Пара,
Каб бязмежжа прастору дрыгвістага
Чалавек дзень за днём пакараў,
Каб на месцы балотных імшар
Шумеў збожжам квяцісты абшар
І крыніцы плылі серабрыстыя.

Дзе звісае туман між кустоў,
Дзе чарнеюць ў дрыгве вербалозы,
Дзе звініць камарыны дакор,
Дзе пажоўклыя мокнуць асокі, —
Сёння ў наступ на гэта прастор! —
Хай звіняць, не змаўкаюць рыдлёўкі.

Ў гэтых нетрах — багацці адвечныя
У тарфяных накоплены масах.
Тут энергіі моц невычэрпная! —
Электрычнасць асвеціць калгасы.

А абшар, ад балотаў здабыты,
Заспявае жыццём мнагаструнна.
І ячмень, і пшаніца, і жыта
Захвалююцца коласам буйным.

*[1941 г.]*

## ІНШАЙ ПРАГІ НЕ ЗНАЮ

Іншай прагі не знаю
Й не зазнаю ў жыцці:
Толькі б роднаму краю
Працаваць і служыць.

Не дастаў я у спадчыну
Ні прамення святла, —
Мая хата не бачыла
Сонца век, так гніла.

Я ж цікаўся, як злодзей,
У вясковай цямры
Пры ліхой непагодзе
Красці сонца дары.

Вось цяпер, як зрок кіну
На адрэзкі шляхоў,
Задаволенасць крыху:
Ўсё ж нядарма прайшоў!

Круціў віхар, я рваў з яго
Тое, мне што прыдасца.
Гула бура: не блага!
Больш трэ’, як узірацца!

Нават калі спаўецца
Ціша вужам засопшым,
Кожны момант — у сэрца,
Для жыцця засцярогшы…

Сёння ж гэтулькі трэба
Краю шчырых людзей!
Бачыш, колькі з абочын
Ўкрадкам з шкодай брыдзе.

Краю я абавязан
Ўсёй істотай сваёй.
Ды ўсё ж сонца больш прагну
На дарозе маёй!

*[1941 г.]*

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Жыве Беларусь, баявыя сябры!
Жыве! Яе пульс несутрымны!
Хто воляю лёсу тайгою пабрыў,
Хто мукі, цярпенні, пакуты прабыў, —
Вітанне ім гэта хай грымне!

Шмат выпала з шэрагаў ў віхраў віры,
Шмат буры разнеслі па свеце.
Ў казахскіх пясках шмат спякотай гарыць,
Калее шмат ў нетрах сібірскай цямры,
Ахіненых мараю смерці.

Ах, шмат помняць імёнаў гаротныя вёскі
Адважных і шчырых, што сталі грудзьмі
На варце багацця народнай сям'і,

За веліч, красу улюбёнай зямлі.
Ах, шмат помняць імёнаў гаротныя вёскі!

Ды родзіцца з бур маладняцкая армія.
Край любы! Крывіччына родная!
Ў нязломнасці волі ідзём к табе з дарамі
Адданасці ў працы — ня сцежкамі хмарнымі,
Працяг шляхоў кліча да справы народнай.

Жыве Беларусь! — прывітанне ўсім тым,
Чыё сэрца працы і дзейнасці прагне.
На кліч Адраджэння — да справы, браты!
Жыве Беларусь, край наш родны, святы,
Жыве ў вечным сонцавым ззянні!

*2. XII.1941 г.*



## АВТОБИОГРАФИЯ

Я, Рагойша Константин Иосифович, родился 2 января 1921 г. в дер[евне] Пережири Выгоничского сельсовета Радошковичского р-на. Детство прошло здесь же. Начальную школу окончил в дер[евне] Пережири. Затем учился в повшехной семилетней школе в Ракове, кот[орую] окончил в 1935 г. До 1939 г. работал на сельском хозяйстве своего отца. В 1939 г. поступил в Молодечненское педагогическое училище, в котором продолжал учебу до 1941 г. к моменту вторжения немецких оккупантов на нашу Родину. Добавочно занимал работу литературного работника в редакции газеты «Чырвоны сцяг» (Молодечно).

При немецких оккупационных властях некоторое время был учителем в дер[евне] Пережири. Затем в 1942 г. учился в Виленской учительской семинарии, которую в 1943 г. окончил. В 1943–1944 гг. пребывал в дер[евне] Пережири, до время прибытия советских войск. С этого времени нахожусь учителем в дер[евне] Пережири до конца 1944/45 уч[ебного] года. В 1945/46 уч[ебном] году работал учителем в Выгоничской школе, одновременно занимаясь заочным обучением в пединституте.

*25.IV.1946 г.*

## ЛІСТ
## ДА БРАТА ПЯТРА РАГОЙШЫ АД 9.11.1948 Г.

*г. Магілёў,*
*9. XI. 48 г.*

Прывітанне, Пеця!

Як Табе ўжо пэўне вядома, я знаходжуся ў Магілёве ў лагеры. Трэба ж неяк жыць, што ж ты зробіш, калі ўжо на гэта павяло. Неяк жа можа прыйдзецца перажыць і да волі дажыць. А пакуль што нялёгка. Я падаваў касацыю ў Вярхоўны. Рэзультат такі, якога я чакаў. Прысуд абл[аснога] суда зацверджаны.

Як жывецца на новым месцы? Цяпер выглядае твая сяліба цікава. Як маецца Слава, ці прывык да «гарадскога» жыцця, да новай прыроды, ці мае дружбакоў і ці ходзіць у школу? А можа ўжо і пісьмо мне напіша? Можа калі ўбачу і не пазнаю. Сустрэцца надзеюся.

Тут у лагеры я даведаўся, што ў Баранавіцкай вобласці ёсць многа нашых аднафамільцаў Рагойшаў. Ёсць між імі і важныя людзі. А дагэтуль думалі, што такая фамілія адна на свеце.

г. Магілёў, БССР, п/я л. к. 23.

*Рагойша К. І.*

## ЛІСТ
## ДА БРАТА АНТОСЯ РАГОЙШЫ АД 14.2.1955 Г.

*г. Ангарск,*
*14. 2. 1955 г.*

Добры дзень!

Вы, можа, часам і падумалі, чаму я нічога не пішу, не даю знаць аб сабе. Я жыў-здароў. Жыву пакуль што тут. Калі ёсць жаданне напісаць пісьмо, пішыце.

Адрас на канверце.

Зычу Вам усяго добрага.

Бывайце здаровы.

*(Подпіс)*

## З «ПРОТОКОЛОВ ДОПРОСА ОБВИНЯЕМОГО РАГОЙША КОНСТАНТИНА ИОСИФОВИЧА»

*15 июня 1948 года Гор. Минск*

Я, старший следователь 3-го отдела следственной части МГБ БССР капитан Степанов, сего числа допросил арестованного:

**Рагойша Константина Иосифовича**, 1921 года рождения, ур. дер. Пережири, Радошковичского района, Молодечненской области, белоруса, гр-на СССР, имеющего незаконченное высшее образование.

Допрос начат в 21.00.

**Вопрос:** Вы арестованы за антисоветскую деятельность. Скажите, признаете ли вы себя виновным?

**Ответ:** Да, признаю.

**Вопрос:** В чем конкретно признаете?

**Ответ:** Признаю себя виновным в том, что после установления фашистской власти на территории Советской Белоруссии, в конце 1941 года или же начале 1942 года работал у немцев учителем, на белорусском языке я написал 3–4 антисоветских стихотворения, которые мною были направлены в гор. Минск для помещения в фашистской националистической газете «Минская газета».

Одно из этих стихотворений мною было написано под названием «Наш враг зубами скрежещет», в котором я создавал злобную клевету на существующий в Советском Союзе политический строй, восхвалял немецко-фашистских захватчиков и высказывал антисемитические настроения к еврейскому населению.

Второе стихотворение написанное мною под названием «Так было» мною посвящено к освобождению Западной Белоруссии и присоединении ее к Советскому

Союзу, в котором я также возводил клевету на Советскую власть, на вождя народов СССР и ВКП (б), при чем со своей стороны я считал, что Западная Белоруссия к Советскому Союзу была присоединена несправедливо.

Как назывались остальные стихотворения написанные мною я сейчас не помню. Однако, в этих стихах я также клеветал на Советскую власть, руководителей партии и правительства и восхвалял немецко-фашистских оккупантов.

**Вопрос:** Скажите, когда и кем вы были привлечены для антисоветской работы?

**Ответ:** Для антисоветской работы я никем не был привлечен.

**Вопрос:** Что же вас заставило стать на путь борьбы против Советской власти?

**Ответ:** На этот вопрос ответить я не могу.

**Вопрос:** Какие антисоветские статьи вы писали?

**Ответ:** Кроме стихотворений, других статей антисоветского содержания я никогда не писал.

**Вопрос:** Были ли помещены ваши антисоветские стихотворения в газетах издаваемых немцами?

**Ответ:** Были ли помещены мои антисоветские стихотворения не знаю, я лично на страницах «Минской газеты» не читал.

**Вопрос:** Как вы подписывали написанные вами антисоветские стихотворения?

**Ответ:** Я подписывал их под фамилией «А. Веснаплынь».

**Вопрос:** Скажите, кто присвоил эту фамилию?

**Ответ:** Данная фамилия вымышленная мною.

**Вопрос:** Следствию известно, что вы принадлежите к организации Белорусских националистов и являясь

участником этой организации проводили антисоветскую работу. Расскажите об этом.

**Ответ:** По существу заданного вопроса заявляю, что проживая на оккупированной немцами территории в организации белорусских националистов я никогда не состоял.

Записано с моих слов верно, мной прочитан.

*(Подпіс)*

Допрос окончен в 4.00 часа.

Допросил: Ст. следователь

*капитан П. Степанов*

* * *

*23 июня 1948 г.* *гор. Минск*

Допрос начат в 11 ч. 15 м.

**Вопрос:** Рассказывайте, когда и кем вы были завербованы в антисоветскую организацию?

**Ответ:** В антисоветскую организацию меня никто не вербовал и я ни в каких антисоветских организациях не состоял.

**Вопрос:** Не правда. Вы являлись членом антисоветской националистической организации «Белорусская независимая партия». Расскажите об этом!

**Ответ:** Еще раз заявляю, что я ни в каких антисоветских организациях не состоял. О существовании антисоветской организации «Белорусская независимая партия» я вообще не знал, об этом я слышу впервые здесь на следствии.

Ответ с моих слов записан верно, мной прочитан

*(Подпіс)*

Допрос окон. 16 ч. 30 м.
Допросил: Ст. следователь

*капитан П. Степанов*

* * *

*25 июня 1948 г. г. Минск*

Допрос начат в 22 ч. 15 м.

**Вопрос:** Какую антисоветскую работу проводил «Белорусский национальный комитет»?

**Ответ:** Какую антисоветскую работу проводил «Белорусский национальный комитет» я не знаю, лично мне об этом известно не было.

**Вопрос:** Что вам известно о существовании в гор. Вильно других антисоветских националистических организаций?

**Ответ:** Какие еще антисоветские организации существовали в гор. Вильно сказать не могу, не знаю.

**Вопрос:** Следствию известно, что вы, проживая на оккупированной территории, состояли членом ряда антисоветских организаций. Расскажите об этом правдиво.

**Ответ:** Это не соответствует действительности, так как членом антисоветской организации я никогда не состоял и виновным себя в этом не признаю.

**Вопрос:** Вы показываете неправду. Рассказывайте, когда и кем вы были вовлечены в антисоветскую организацию?

**Ответ:** Повторяю, что меня в антисоветскую организацию никто не вербовал и членом антисоветской организации я никогда не состоял.

Протокол мной прочитан, ответы записаны с моих слов верно

*(Подпіс)*

Допрос окончен в 3 ч.

Допросил: Ст. следователь 3 отд.

*капитан П. Степанов*

* * *

*28 июня 1948 г.* *г. Минск*

Допрос начат в 23 ч. 30 м.

**Вопрос:** На предыдущих допросах вы скрыли свою принадлежность к антисоветской организации. Скажите, намерены ли рассказывать об этом сейчас?

**Ответ:** По существу данного вопроса показания дать не могу, так как участником антисоветской организации я никогда не являлся.

**Вопрос:** Не правда. Говорите честно, когда и кем вы были завербованы в антисоветскую организацию?

**Ответ:** Повторяю, что в антисоветской организации я никогда не состоял.

Ответы с моих слов записаны верно, мной прочитаны.

*(Подпіс)*

Допрос окончен в 3 ч.

Допросил: Ст. следователь

*капитан П. Степанов*

* * *

*1-го июля 1948 года. Г. Минск*

**Вопрос**: Следственным органам известно, что вы в период немецкой оккупации сотрудничали с редакциями ряда антисоветских фашистских газет. Расскажите подробно, в чем выражалось ваше сотрудничество?

**Ответ:** С редакциями антисоветских фашистских газет я не сотрудничал.

**Вопрос**: Почему же тогда вы писали антисоветские стихи и направляли их для помещения на страницах фашистской газеты?

**Ответ:** Повторяю, что с редакциями газет я не сотрудничал. Свои антисоветские стихи в редакцию фашистской газеты направил по личной инициативе.

**Вопрос**: С какой целью?

**Ответ**: С той целью, чтобы поместить на страницах газеты для читателей.

**Вопрос:** Что заставило вас встать на путь борьбы против Советской власти?

**Ответ:** Я лично никогда не имел намерение вести борьбу против Советской власти, а почему написал такие клеветнические стихи я сам не знаю.

**Вопрос**: Следствию также известно, что кроме псевдонима «А. Веснаплынь» вы имели еще несколько литературных кличек и под такими кличками писали антисоветские статьи и стихи. Почему вы об этом умалчиваете?

**Ответ:** Других литературных кличек, кроме «А. Веснаплынь», я не имел и антисоветских стихотворений или статей ими или под другими псевдонимами больше не писал […].

* * *

*5-го июля 1848 г. г. Минск*

Допрос начат в 12-25.

**Вопрос**: На предыдущих допросах вы не рассказали о вашей антисоветской работе. Говорите правду, какую еще антисоветскую работу проводили?

**Ответ**: На предыдущих допросах я рассказал все, больше показать не могу.

**Вопрос**: Не правда. Вы являлись участником антисоветской организации и проводили активную деятельность против Советского Союза. Рассказывайте об этом!

**Ответ**: В антисоветской организации никогда не состоял и другой никакой работы против Советского Союза не проводил.

Записано с моих слов верно, ответы мной прочитаны.

*(Подпіс)*

Допрос окончен в 16-50.

Допросил: Ст. следователь

*капитан П. Степанов*

* * *

[…] **Вопрос:** Откуда вы узнали о существовании в гор. Вильно учительской семинарии?

**Ответ:** Об этом я узнал через газету, издававшуюся в городе Минске под названием «Белорусская газета», на страницах которой было помещено объявление о том, что в гор. Вильно открыта четырехгодичная учительская семинария.

**Вопрос:** Вы лично выписывали антисоветские газеты, издаваемые немецко-фашистскими оккупантами?

**Ответ:** Нет, лично я не выписывал. В то время организованной подписки на газеты среди населения не проводилось. Антисоветские газеты я покупал у разных лиц, которые иногда привозили из города Минска для продажи.

**Вопрос:** Скажите, какие антисоветские газеты вы читали?

**Ответ:** Из антисоветских газет, издаваемых немцами и белорусскими националистами, я читал следующие газеты: «Белорусская газета», «Голос вёски» и «Белорусский голос», издаваемую в городе Вильно белорусскими националистами.

**Вопрос:** Кто мог поступить в Виленскую учительскую семинарию?

**Ответ:** В учительскую семинарию могли поступить лица обоего пола, имеющие незаконченное среднее образование.

**Вопрос:** Какие документы вы представили директору учительской семинарии при поступлении?

**Ответ:** По приезде в гор. Вильно я зашел к директору Гришкевичу и заявил последнему о своем желании поступить учиться, после чего ему представил два свидетельский показаний в том, что я до начала войны окончил два курса педучилища, и заявление […].

* * *

[…] **Вопрос:** Знаете ли вы гражданина Налецкого Василия Петровича?

**Ответ:** Да, знаю.

**Вопрос:** Как вы его знаете?

**Ответ:** Налецкий Василий Петрович является моим двоюродным братом по матери, как в период немецкой оккупации, а так же в настоящее время проживал и проживает в деревне Трасковщина, Заславского района, Минской области, в 8-и километрах от нашей деревни Пережиры.

**Вопрос:** Что вам известно о связи Налецкого с советскими партизанами?

**Ответ:** Лично я о его связи с партизанами не знаю. Со слов самого Налецкого мне известно, что он якобы имел связь с партизанами отряда имени Щорса, который дислоцировался в районе деревни Трасковщина и, кроме того, его родной брат с лета 1942 года находился в данном партизанском отряде. В 1943–1944 годах Налецкий Василий посещал моего отца и мать как родственник, приносил Советские листовки и Совинформбюро и давал их читать.

**Вопрос:** А вы имели связь с партизанами?

**Ответ:** Нет, лично я никакой связи с партизанами не имел и никакой помощи последним не оказывал.

**Вопрос:** У вас были все возможности уйти в партизанский отряд. Скажите, почему вы не ушли?

**Ответ:** В партизанский отряд я не ушел потому, что я боялся репрессии моих родственников немецкими карательными органами […].

## ОПРЕДЕЛЕНИЕ

21 января 1992 г. Судебная коллегия по уголовным делам Верховного Суда Республики Беларусь в составе председательствующего Ничипоровича А. А., членов Федоринчика И. И и Смирнова Е. А. рассмотрела в открытом заседании суда дело по протесту заместителя Прокурора Республики Беларусь на приговор судебной коллегии по уголовным делам Минского областного суда от 20 октября 1948 года, которым Рагойша Константин Иосифович, рождения 1921 года, урожд. и житель дер. Пережири, Радошковичского района, Молодечненской обл., осужден по п. «б» ст. 72 и ст. 65 УК Республики Беларусь на 10 лет лишения свободы с конфискацией имущества и поражением в правах сроком на 5 лет.

Определением Судебной коллегии по уголовным делам Верховного Суда Республики Беларусь от 5 октября 1948 года приговор оставлен без изменения.

Заслушав доклад члена Верховного Суда Республики Беларусь Федоринчика И. И., заключение прокурора отдела Прокуратуры Республики Беларусь Шимановича М. М., поддержавших протест, судебная коллегия установила:

Рагойша К. И. признан виновным в том, что, проживая на временно оккупированной немецко-фашистскими войсками территории Беларуси, в течении 1941–1942 учебного года добровольно работал учителем начальной школы в дер Пережири Радошковичского района. Кроме этого, он писал стихи, в которых клеветал на Советскую действительность, вождя Коммунистической партии и Советского государства, восхвалял немецкую армию. С сентября 1942 года до мая 1943 г. Рагойша К. И. учился

в Виленской учительской семинарии, созданной «Белорусским национальным комитетом».

В протесте ставился вопрос об отмене приговора, кассационного определения и прекращении производства по делу за отсутствием в действиях Рагойши К. И. состава преступления.

Проверив материалы дела, обсудив доводы, изложенные в протесте, судебная коллегия считает, что протест подлежит удовлетворению.

Как установлено по делу, Рагойша К. И. действительно в период немецкой оккупации работал в качестве учителя и обучался в учительской семинарии. Однако данное обстоятельство не может расцениваться как пособничество врагу.

Кроме этого, написанные им стихи не содержат призыва к свержению, подрыву или ослаблению Советской власти, а следовательно в его действиях отсутствует состав преступления.

На основании изложенного и руководствуясь ст. 387 УПК Республики Беларусь, судебная коллегия по уголовным делам Верховного Суда Республики Беларусь определила:

Приговор судебной коллегии по уголовным делам Минского областного суда от 20 сентября 1948 года и определение судебной коллегии по уголовным делам Верховного Суда Республики Беларусь от 5 октября 1948 года в отношении Рагойши Константина Иосифовича отменить, а дело прекратить за отсутствием в его действиях состава преступления.

Председательствующий *(Подпіс)*

Члены суда *(Подпісы)*

## СПРАВКА

Верховный Суд Белорусской ССР
220681, г. Минск, ул. Ленина, 28
4 марта 1992 г.
№ 5-10

Дело по обвинению Рагойши Константина Иосифовича, 1921 года, белоруса, уроженца и жителя деревни Пережиры Радошковичского района, Молодечненской области, до ареста работал директором неполной средней школы в деревне Пугачи Радошковичского района, пересмотрено Верховным Судом БССР, 21 января 1992 года приговор Минского областного суда от 20 сентября 1948 года и определение судебной коллегии по уголовным делам Верховного суда БССР от 5 октября 1948 г. в отношении Рагойши К. И., осужденного по п. «б» ст. 72 и ст. 65 УК БССР на 10 лет лишения свободы с конфискацией имущества и поражением в правах сроком на 5 лет отменено и дело прекращено за отсутствием состава преступления.

Рагойша Константин Иосифович по данному делу реабилитирован.

Первый заместитель председателя

*В. С. Кондратьев (подпіс)*



# З УСПАМІНАЎ ПРА КАСТУСЯ РАГОЙШУ

*Надзея РАГОЙША*

## МАЯ «НЯНЬКА»

У характары і лёсе чалавека многае вызначае яго акружэнне: прырода, людзі, з якімі ён кантактуе, сацыяльна-бытавыя і палітычныя абставіны.

Наша вёска Пярэжары, што ў пяці кіламетрах на захад ад Ракава, да вайны мела прыгожы выгляд. Вуліца была роўная, брукаваная. Хаты ў асноўным былі дагледжаныя. Улетку ўся вёска была ў кветках, у зяляніне. Побач з вёскай цячэ крынічная рачулка Медзьведка. Цяпер рэчка зусім абмялела, нават гэтай назвы людзі не прыгадваюць. Берагі рачулкі былі заросшы высокімі вольхамі, вербамі, какалушай (чаромхай). Помню белы вэлюм з прыгожых пахучых кветак вясновай какалушы. Унізе рассцілаўся дыван з чырвоных парэчак і чорнай смуродзіны. Зрэдку траплялася маліна. Па абодвух баках рэчкі разлеглася сенажаць, распісаная рознакаляровымі кветкамі.

Каля нашага берага рэчкі вельмі любіла бегаць вясковая дзетвара. У той час тут нават купаліся дарослыя і

дзеці. Я нават памятаю, як вучылася плаваць у той чыстай і празрыстай вадзе. Сёння, на жаль, гэта толькі ручаёк, непадобны на сябе ранейшага. А дзе ж тыя вольхі, вербы ды какалуша, што так нас захаплялі? Дзе ж той рознакаляровы дыван сенажаці? Ох, як усё змянілася!

У агародах расло ўсё выдатна. Нават памідоры і тыя раслі і выспявалі без плёнкі, якой тады яшчэ не было і ў паміне.

Да 1939 года кожны гаспадар жыў на сваім кавалачку зямлі. Працавалі людзі шмат і цяжка. Асабліва даставалася малазямельным і беззямельным. Нялёгка жылося і нашай сям'і. Наш бацька Рагойша Іосіф Пятровіч нарадзіўся ў 1875 г. у шматдзетнай сям'і (4 браты і 3 сястры). У яго бацькоў зямлі было мала, каб надзяліць сыноў і даць у якасці пасагу дочкам. Таму дочкам, калі выходзілі замуж, пасаг даваўся грашыма. Бацька наш закончыў Ракаўскую царкоўнапрыходскую школу, пасля — настаўніцкія курсы. Нейкі час працаваў хатнім настаўнікам у вёсцы Пярэжар Рудзенскага раёна. У час рэвалюцыі, як адукаванага і прагрэсіўнага чалавека, выбралі дэпутатам у Мінскі павятовы савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Пасля гэтага працаваў у Мінску ў выканкаме ці то павятовага, ці то губернскага Савета ажно да ўсталявання савецка-польскай граніцы. Рэвалюцыйныя падзеі ў Мінску зрабілі бацьку свядомым беларусам… Вёска Пярэжары, дзе жыла яго сям'я, аказалася ў Польшчы. Бацька перабраўся праз граніцу, вярнуўся ў сям'ю. У той час браць у Мінск сям'ю з малымі дзецьмі было рызыкоўна: маглі на граніцы затрымаць палякі, а ў самім Мінску панаваў голад.

Сям'я наша была таксама вялікая, апрача таты і мамы — шасцёра дзяцей. Дзеці нараджаліся кожныя два

гады: Пеця — 12 ліпеня 1914 года (на Св. Пятра), Грыша — 6 мая 1916 года (на Св. Юр'я), Іван — 7 чэрвеня 1918 года (на Св. Яна). Ім тром далі імя ў гонар святых. Я прыйшла на свет 2 снежня 1923 года, наймалодшы брат Антось — 25 студзеня 1925 года. Паміж Іванам і мной нарадзіўся яшчэ і Косця, недзе ў снежні 1920 года. Каб не траціць год і не ісці хлопцу, калі падрасце, раней часу у войска, яго запісалі 2 студзеня 1921 года. Ён нарадзіўся буйным хлопчыкам і вельмі крыклівым. Кумы, калі павезлі яго ў пачатку студзеня ў Ракаўскую царкву хрысціць, баяліся, што бацюшка не ахрысціць. Хлопец быў вялікі, гучна плакаў. Бацюшка ўсё нешта доўга глядзеў, а потым усё ж ахрысціў дзіця. Кумы ўсцешыліся…

У той час дзеці нараджаліся не ў бальніцы, а дома. Роды прымала бабка-павітуха. У Пярэжарах былі дзве такія павітухі. Дзеці і нават іх маці даволі часта паміралі пры родах, павітухі не заўсёды давалі рады ў складаных выпадках… Васіль Налецкі, наш стрыечны брат з Траскоўшчыны, хваліўся сваёй мамай, а нашай роднай цёткай, якая таксама была павітухай. Яна за сваё жыццё прыняла каля ста родаў. З усіх дзяцей, якія яна прыняла, толькі адно памерла, і то не па яе віне. За гэта ўсе ў наваколлі яе паважалі і любілі.

Кожнаму дзіцяці спраўлялі хрэсьбіны. Кумы везлі дзіця да бацюшкі, а госці-суседзі з нецярпеннем чакалі іх. Сустракалі кумоў з прыгаворкамі, песнямі. У канцы хрэсьбін вазілі бабку па вуліцы з песнямі, музыкай, рознымі жартамі. Дзеці беглі за бабкай і радасна крычалі: «Вунь бабку вязуць!» Так весела праходзіў час хрэсьбін…

Косця, як я ўжо казала, быў за мяне старэйшы на два гады. Калі ён быў яшчэ дашкольнікам, быў замацаваны бацькамі ў якасці нянькі за меншымі — мной і братам Антосем. Старэйшыя нашы браты, Пеця, Грыша і Іван, у вольны ад школы час дапамагалі бацькам у іх нялёгкай сялянскай працы — аралі, баранавалі, сенавалілі… Мы ж былі каля дому. Пасвілі курэй, гусей, свіней. Наша «нянька», адчуваючы сваю адказнасць за нас перад бацькамі, старалася разбудзіць нас раней. Я вельмі любіла раніцай паспаць. А каб лягчэй яму было мяне разбудзіць, ён мне маляваў розныя малюнкі. Адзін малюнак быў такі: «Мама нясе на каромыслах ваду з рэчкі, збоку ідзе наш сівы кот. З коміна валіць дым. Гэта значыць, паліцца ў печы». Сюжэт другога малюнка: «Тата з старэйшым братам Пецем аруць агарод». Трэці малюнак: «Брат Іван пасе свіней на выгане недалёка ад кухоннага вакна. Свінні чуюць пах ежы з кухні, цiснуцца да вакна»… Вось такія малюнкі я часта разглядвала, то і сон прападаў. Такі спосаб разбудзіць мяне прыдумала мая «нянька».

Было і такое. Бацька са старэйшымі нашымі братамі выбіралі бульбу. Стаяў халодны асенні дзень. Нас траіх, адыходзячы на поле, замкнулі ў хаце на замок — каб не выйшлі і не застудзіліся. А Косця нам падказаў, што ў агародзе вырасла шмат сланечніку. Са сланечнікавымі палкамі можна добра пагуляць! Мы адчынілі акно. Каля акна быў вялікі пень ад старога клёна. Пень дапамог нам спусціцца з акна. У агародзе, нягледзячы на пранізлівы вецер, сталі гуляць з «пікамі» са сланечніку. Добра нагуляўшыся, вярнуліся праз акно ў хату. «Пікі» пахавалі ў печы, паклалі іх на дровы. Вечарам мы з Антосем моцна закашлялі. Мама тым часам, глянуўшы ў печ, пра ўсё

здагадалася. Нас, хворых, павезлі ў Ракаў да прыватнага лекара Корзуна. У мяне аказалася запаленне лёгкіх…

Помню і такі выпадак. Перад Вялікаднем бацькі паехалі на рынак у Ракаў. Перад гэтым пабялілі сцены мелам. А мне хацелася іх размаляваць — так, як гэта было зроблена ў суседзяў. Мая «нянька» падтрымала гэты намер. У той час я вучылася ў 2-ім , Косця — у 4-ым класе Пярэжарскай пачатковай школы. Мы развялі ў вадзе сіньку і давай маляваць розныя птушкі, кветкі, галінкі дрэў. Нам здавалася, што прыгажэй не было нічога ў свеце. Але закончылі сваю работу і… спахапіліся: а што скажуць бацькі? Асабліва спалохаўся Косця. Ён жа «нянька»! І вось прыязджаюць бацькі. Заходзяць у хату. Глядзяць. Ды, замест пакарання, пачынаюць хваліць, і мяне, і Косцю…

Калі мы падраслі, Косця чытаў нам розныя казкі, вершы, апавяданні на беларускай мове. У школе бытавала толькі польская мова. Нам было даспадобы слухаць напісанае на роднай мове. Яна для нас гучала як музыка. Беларускія кніжкі і календары нам купляў тата. Потым Косця сам стаў выпісваць з Вільні часопісы і газеты на беларускай мове. У тых выданнях часам з'яўляліся і яго вершы. Па вечарах у нашу хату сыходзіліся аднавяскоўцы паслухаць беларускае чытанне. Нехта пра гэта данёс уладам. І хоць, здавалася, да беларушчыны польскія ўлады адносіліся лаяльна, аднак тут жа з'явілася паліцыя, зрабіла вобыск. Загадалі беларускія кніжкі аддзяліць ад польскіх і спаліць. У кучы лому знайшлі (а можа, самі падкінулі туды?) іржавую рульку ад нагана. За «трыманне зброі» арыштавалі бацьку і пасадзілі на два месяцы ў Маладзечанскую турму. Косцю, яшчэ непаўналетняга, толькі паўшчувалі. Але ён ведаў, што менавіта за яго

пісанне і чытанне па-беларуску пасадзілі тату. І калі нарэшце тата, вярнуўшыся, увайшоў у хату, горка заплакаў, вінячыся перад ім. Тата ж падышоў да Косці, пацалаваў яго і пагладзіў па галоўцы. Сказаў: «Не плач, сынок, у гэтым віна не твая, а нашай несправядлівай улады»…

Прайшоў час. Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Адгрымела Вялікая Айчынная вайна, на франтах якой змагаліся тры мае браты — Пеця, Грыша і Іван. Першыя два былі цяжка паранены, а Іван увогуле загінуў ва Усходняй Прусіі.

Калі ў 1944 годзе ад нямецкай навалы вызвалілі Беларусь, адразу ж адчыніліся і школы. Косця пайшоў працаваць настаўнікам у Пярэжарскую пачатковую школу, потым яго паставілі дырэктарам Пугачоўскай няпоўнай сярэдняй школы. Ён паступіў завочна на філфак Гродзенскага педінстытута. Здавалася, усё ішло добра. Але пачало падводзіць здароўе — сказаліся ваенныя нягоды, недаяданне, розныя стрэсы. Аднойчы вясной, у час вясенніх канікул, Косця паехаў да лекараў у Мінск і не вярнуўся. Я паехала яго шукаць. Хадзіла па разбітым ды спаленым горадзе, пыталася ў людзей пра бальніцы гарадскія, нарэшце трапіла ў 2-і шпіталь. Ён, як аказалася, там ляжаў. У Косці да немагчымасці балеў жывот, ногі зводзіла сутаргай. Тады ў Мінску яго добра вылечылі. Лячыў яго прафесар Шапіра. Помню, наш бацька вельмі хваліў таго прафесара, казаў, што такіх лекараў мала на свеце. А прафесар палюбіў Косцю, пісаў яму пісьмы, цікавіўся яго здароўем…

Прыйшла яшчэ горшая бяда, чым хваробы. У канцы 1948 навучальнага года Косцю арыштавалі ў Пугачах. Прывезлі ў Пярэжары, зрабілі вобыск у хаце. Нічога падазронага не знайшлі, але яго павезлі ў Мінск у турму

як «ворага народа». На следстве, як ён пасля расказваў, страшэнна катавалі. Ставілі ў цэментавую студню, пад нагамі была ледзяная вада, а зверху капала вада на адно і тое ж месца на галаве… Заганялі пад ногці дачырвана нагрэтыя іголкі… Давалі піць нейкую гадасць… Нават слухаць пра ўсё гэта было страшна! Казаў: «Ніколі не думаў, што чалавек можа выцерпець такія мукі!» Далі тады яму 10 гадоў турмы, у заключэнні быў у Сібіры, у Іркуцкай вобласці. Але ўвесь турэмны тэрмін не адбыў, выйшаў на волю раней, у 1954 годзе, пасля смерці Сталіна. Прыехаў у Беларусь, але яму, як былому зэку (рэабілітавалі яго толькі ў пачатку 1990-ых гг.), работы ніякай не далі. На шыі ў родзічаў сядзець не захацеў. Паехаў назад, на будаўніцтва Ангарскай ГЭС. Зрэдку адпісваў нам на нашы пісьмы. Апошнюю звестку пра сябе падаў незвычайным чынам: у 1957 годзе мне і брату Грышу прыслаў па пошце па 90 рублёў. Зваротны адрас быў нейкі незразумелы, у Іркуцкай вобласці…

Прайшло ўжо нямала год з той пары. Але і зараз як жывы стаіць перад вачыма брат Косця, таленавіты рамантычны беларускі юнак, лёс якога быў жорстка перамолаты ў складаных жорнах бязлітаснага XX стагоддзя.

*[2005 г.]*

*Уладзімір КУРЫЛА*

## КАНСТАНЦІН — ЗНАЧЫЦЬ ВЕРНЫ

Успамінаючы свайго вернага сябра Кастуся Рагойшу, я хацеў бы хоць бы коратка згадаць пра яго сям'ю, у якой Кастусь рос, гадаваўся. Бацькі Кастуся былі адукаваныя людзі, працавітыя, дбалыя, рэлігійныя, гуманныя, і гэтыя якасці стараліся прывіць сваім дзецям — Пётру, Яну, Грышу, Кастусю, дачцэ Надзі, з якой я тры гады хадзіў у Ракаўскую сямігодку (школу повшэхну), і самаму малодшаму Антону. Уся сям'я была працавітая, старанная, дапамагалі адзін аднаму, не мелі ніякіх недахопаў. Гэта сведчыла аб тым, што мелі парадачных інтэлігентных бацькоў.

У хаце Кастуся, дзе я часта бываў, было многа розных беларускіх і на іншых мовах кніг, газет, календароў, што вельмі цікавіла мяне. Кастусь трымаў цесную лучнасць з Вільняй, з Беларускай кнігарняй. Ён атрымліваў адтуль літаратуру і сам пісаў у віленскія выданні. Пісаў вершы. Я яшчэ памятаю пару радкоў з аднаго верша: «З беларускіх мы гранітаў Пабудуем хмарадзёр». Калі я, будучы ў Нью-Ёрку, хадзіў каля гэтых хмарадзёраў, прыпамінаў майго Кастуся і гэтыя радкі з верша…

Да 1939 года на Беларусі былі польскія школы. Не ведаю нават, ці была дзе беларуская школа. У Пярэжарах працавала 4-класная школа, а ў Ракаве — сямігодка. Вучні, якія канчалі 4-класную школу, маглі вучыцца ў сямігодцы. Такіх вучняў было некалькі з Пярэжар. Але я вярнуся да Пярэжарскай школы, дзе настаўніцай была Браніслава Шпілеўская. Не ведаю яе біяграфіі. Але пом-

ню такі выпадак. Каб праверыць ступень паланізацыі, якую ў апошнія гады свайго панавання асабліва актыўна на «крэсах усходніх» праводзілі палякі, нашу школу наведаў школьны інспектар. Ён спытаўся ў вучняў: «Ці святкавалі вы свята мора?» Настаўніца наша спалатнела, бо мы не адзначалі гэта свята. Але тут устаў Кастусь і адказаў: «Так! Святкавалі». «А як жа вы святкавалі?» — спытаў інспектар. «Мы вучылі верш «Ту мі шумі польске можэ», — сказаў Кастусь і працытаваў: «Ту мі шумі польске можэ, О балтыцкі біён бжэг». Так Кастусь выратаваў настаўніцу Шпілеўскую.

Кастусь быў мудры, разумны, начытаны, ён з маладога веку ўжо ведаў гісторыю і геаграфію роднага краю. Яго інтэлектуальны ўзровень быў шмат вышэйшы за ўзровень вучняў і сяброў, сярод якіх ён знаходзіўся. Не выпадкова бацькі далі яму слаўнае імя Канстанцін — ад лацінскага слова constant, што значыць «нязломны, адважны, верны». Канстанцін Вялікі быў першы імператар Візантыі. Ён пабудаваў Канстанцінопаль (цяпер гэта Стамбул), зрабіў яго сталіцай Візантыйскай імперыі. Будаваў цэрквы ў Рыме, Канстанцінопалі, Палесціне. Я думаю, што наш Кастусь меў многа якасцяў гэтага, на ўвесь свет слаўнага, чалавека Канстанціна.

Міналі гады, разгортваліся падзеі. Вёска Пярэжары была простая, роўная, вуліца ў ёй брукаваная. Людзі ў адным канцы вёскі, у бок Ратынцаў, мелі мянушку «канцавыя». Хата Кастуся стаяла ў супрацьлеглым баку, пры самай дарозе Мінск–Івенец. Там жа недалёка, у Жыдовічаў, кватаравала настаўніца Шпілеўская. Пасярэдзіне вёскі была мая хата. Бліжэй да Косцевай хаты стаяла хата Пастуховічаў. Жыў там Сарафім Пастуховіч і яго малодшы брат Піліп (абодва загінулі ў

бітве пад Монтэ Касіна, Італія). Сарафім добра валодаў польскай мовай і сябраваў з польскімі ўрадоўцамі ў Ракаве. Абодва канцы вёскі вызначаліся беларускасцю. У канцавых, памятаю, жыла старэнькая Дамініся. Яна час ад часу прыходзіла «на сяло» да маёй маткі Ганны. Мне ў памяці засталіся Дамінісевы словы «васпан», «васпані», «ваша», «вашэці», «паночак», «паніч», «паненка», з якімі яна звярталася да аднавяскоўцаў. Слова «гаспадар» я чуў у другім месцы. Каля Залесся (па дарозе з Ракава ў Дубровы) былі чатыры заможныя гаспадаркі-маёнткі, і ў гаспадарцы Неругайлаў-Рагойшаў ужывалі слова не «пан», а «гаспадар»…

Аднаго дня прыехала ў вёску паліцыя і адразу завітала ў хату Кастуся. Зрабілі вобыск. У кішэні Кастуся знайшлі толькі 5 грошаў. I ўсё. Але запалілі печ і загадалі кідаць туды беларускія кніжкі, а польскія адкладваць убок. Чым быў выкліканы наезд паліцыі, не ведаю. Праўда, неяк перад тым позна вечарам хлопцы пад вакном настаўніцы Шпілеўскай спявалі такую песню: «Ешчэ Польска не згінэла, Але згінонць мусі. Покі немец не выбіе, Холера удусі». Не ведаю, ці браў удзел Кастусь у гэтай акцыі. Мусіць, браў.

Прамінуў 1939-ы, і ўсё змянілася. Для адных — на лепшае, для другіх — на горшае. Праз нейкі час нашы кантакты з Кастусём былі перапынены. Ведаў я адно, што ён працаваў у школьніцтве, а пазней пераехаў на далейшую вучобу ў Вільню і пацягнуў за сабой і мяне. Жылі мы разам на вуліцы Быліны. Я вучыўся ў настаўніцкай гімназіі, а Кастусь у семінарыі. Кожны з нас быў заняты вучобай. У вольны час пазнавалі Вільню, наведвалі Беларускі музей, Трохкрыжовую Гару, замчышча Гедыміна і інш. Часта хадзілі ў Беларускую кнігарню

Станкевіча, дзе была вялікая калекцыя кніг, у тым ліку беларускіх.

Аднаго разу на Вялікдзень вырашылі мы паехаць дадому ў Беларусь, каб прывезці трохі ежы, бо на карткі, якія мы мелі, ежы не хапала. Селі на цягнік на Маладэчна, а ад Маладэчна — на Менск, які ішоў праз нашу станцыю Аляхновічы. Вылезлі мы ў Аляхновічах. Была ўжо позняя гадзіна вечара. На станцыі ні жывой душы. Вырашылі ісці пяшком у бок Дуброваў, каб пераначаваць там у майго дзядзькі Аляксандра Войніча. Не прайшлі мы і паўкіламетра, як чуем: ідзе цягнік з Менску. Калі ён параўнаўся з намі, па нас пачалі страляць, відаць, думаючы, што мы партызаны. Цудам засталіся жывыя.

Пагасцяваўшы дома, вярнуліся назад у Вільню. Была нядзельная раніца. Чуем, гаспадар кватэры кажа: «У двор увайшлі немцы. Мусіць, па вас». Так і было. Але прыйшлі яны толькі па мяне. Кастусёвы гады не падыходзілі пад мабілізацыю, да таго ж ён заканчваў апошні курс. Забралі мяне і павялі ў вязніцу… Праз пару дзён перадаюць мне перадачу. Ад каго? Родных у мяне ў Вільні не было. Як пазней я даведаўся, перадачу прынёс Кастусь. Прынёс бы, казаў, і раней, але разам з іншымі студэнтамі быў на акадэміі, прысвечанай Дню волі 25 сакавіка, а пасля пераносіў у іншае памяшканне экспанаты Беларускага музея. Ранейшае музейнае памяшканне раптам спатрэбілася немцам. Праз нейкі час мяне як навучэнца не мабілізавалі, адпусцілі на свабоду.

Як заўсёды, Кастусь быў вельмі заняты. У дадатак да ўсяго, вывучаў літоўскую мову. Ён хацеў паступіць у Віленскі універсітэт. Аднойчы Кастусь прыходзіць з гораду і расказвае. Гутарыў ён з літоўцамі, тыя даказваюць, што ён літовец, бо прозвішча ў яго быццам бы літоўскае:

«рагайшыс» па-літоўску — рагалік, не злучаны абаранак. Мы пасмяяліся з літоўцаў, якія стараюцца прысвоіць сабе нават такіх асоб, як Адамовіч, Станкевіч, Каліноўскі, Міцкевіч, называючы іх Адамавічус, Станкевічус, Костас Калінаўскас, Міцкевічус і г. д.

Аднаго разу пытаюся: «Кастусь, што ты скажаш пра такі верш?» І чытаю:

Ты, Вільня, мяне прытуліла,
Красой сваёй мяне напаіла.
Купаўся я ў хвалях Вяллі,
Што з роднай Беларусі плылі.

Кастусь узяў ад мяне сшытак, прачытаў радкі яшчэ раз, падумаў, усміхнуўся, а пасля кажа: «Ты лепей пачні пісаць прозу». А я яму кажу: «Я вельмі люблю паэзію, вершы, паэмы. Проза — гэта вада, а паэзія — нектар. Верш — гэта песня, музыка». «Ну што ж, — сказаў Кастусь, — спрабуй, а можа, што-небудзь і выйдзе з цябе»…

Неўзабаве доля разлучыла нас з Кастусём назаўсёды…

Не знаю я, калі ты, Кастусь, пакінуў гэты свет. Не быў я на тваіх пахавінах, не чуў апошніх слоў над тваёй магілай, не клаў я красак на труну тваю. Замест красак хачу табе сказаць гэтых пару радкоў з жалобнай песні:

Спі пад курганам герояў,
Спі, працаўнік і пясняр.
Несены верна табою,
Нізка схіліўся штандар…

*[1993 г.]*

*Янка БАГДАНОВІЧ*

## ЖМЕНЬКА ЗГАДАК

З Косцем Рагойшам у часе нямецкай акупацыі мы вучыліся разам, на адным курсе, у Віленскай настаўніцкай семінарыі. Разам паступілі і разам яе скончылі ў 1943 годзе. Сюды паступалі маладыя людзі, галоўным чынам, каб пазбавіцца ад вывазу на прымусовыя работы ў Германію або каб выратавацца ад гвалтоўнага набору ў паліцыю. Была і ідэёвая мэта: працай у пачатковых беларускіх школах, якія немцы яшчэ дазвалялі (вышэйшыя вучэльні, яны лічылі, — не для славян), можна было супрацьстаяць анямечванню, асіміляцыі народа, ператварэнню яго ў непісьменны паслушны статак.

Хочацца прыгадаць выкладчыкаў семінарыі і прадметы, якія яны выкладалі. Дырэктарам семінарыі быў фізік А. Карнюк, які да вайны працаваў дацэнтам Віленскага універсітэта, а пасля вайны — настаўнікам фізікі ў Лентвараве. Рэлігію выкладалі ксёндз Адам Станкевіч і бацюшка А. Несцяровіч, беларускую мову і методыку яе выкладання — доктар Францішак Грышкевіч, нямецкую мову — З. Тэадаровіч, літоўскую мову — А. Матусэвіч, гісторыю — Р. Падабед, грамадазнаўства — магістр Я. Шутовіч, геаграфію — Я. Шнаркевіч (ён жа вёў школьную педагагічную практыку), філалагічную прапедэўтыку — М. Анцукевіч. Сярод прадметаў былі каліграфія і маляванне (вяла В. Фёдарава), спевы, інструментальная музыка, тэорыя музыкі (Л. Фёдараў), педагогіка (М. Анцукевіч) і псіхалогія (В. Мальчык), школьная гігіена (доктар Ст. Грышкевіч). Сярод «дакладных» навук выкладаліся фізіка (П. Радзюк), хімія

(Н. Мацёніс), біялогія (М. Матэйчук), нават земляробства (інжынер А. Клімовіч). Зразумела, усе прадметы мы вучылі па-беларуску.

Відаць, ніводнага студэнта семінарысты і выкладчыкі семінарыі так не любілі, як Косцю. Ён быў інтэлігентам у вышэйшай ступені. Адносіны яго да людзей, калег, выкладчыкаў былі самыя гуманныя. Ён любіў усіх і яго любілі за ягоную шчырасць, чэснасць, дабрыню. Ніводнага разу не давялося чуць пра яго нешта дрэннае. Наадварот, кожны даваў яму ацэнку самую найлепшую.

Вучыўся Косця вельмі добра, заўсёды адказваў дакладна, прадумана, не падымаючы голасу. Пры адказах часта выручаў увесь курс, бо ў складаных выпадках выкладчыкі звярталіся менавіта да яго — ведалі, што Косця «не падвядзе», добра вучэбным матэрыялам валодае. Быў увогуле маламоўны, больш часу праводзіў у адзіночку. Заўсёды хадзіў з кніжкамі пад пахай. Вольнай хвіліны ў яго не было.

Жыў у горадзе. Адзеты быў у шэрае доўгае паліто. Мы з ім сябравалі. Сяброўству садзейнічала і нашае зямляцтва: я, як і ён, паходзіў з цяперашняга Валожынскага раёна (я — з вёскі Гібінята). Да вайны я працаваў у віленскай Беларускай друкарні, быў знаёмы з многімі заходнебеларускімі дзеячамі культуры — Р. Шырмам, М. Танкам, М. Машарам і інш. Пагаварыць было пра што. У той час я ўжо быў жанаты, меў двое дзетак. З прадуктамі ў ваенны час было надта трудна, часта галадалі. Была картачная сістэма. Каб неяк паставіць на ногі дзетак, мы трымалі козачку. Я не раз запрашаў свайго згаладнелага сябра Косцю на абед, звычайна на бульбу і кіслае казінае малако, бо іншыя «прысмакі» здараліся вельмі рэдка. Праўда, не казаў, што малако казінае:

многія брыдзяцца ім. Пасля абеду мы рыхтаваліся да іспытаў, займаліся ў маім агародчыку «зуброжкай».

Пасля сканчэння семінарыі дарогі яе выпускнікоў разышліся. Адны і дагэтуль працуюць у школах Літвы (А. Сьлізкая), Латвіі (В. Гэндаль, К. Каськевіч), Беларусі (В. Ількевіч). Ч. Кукель пасля беларускай настаўніцкай семінарыі вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. Г. Астроўскі стаў медыкам, кандыдатам медыцынскіх навук, жыве ў Вільні. Некаторыя нашы аднакашнікі выехалі пасля вайны ў Польшчу. А Ванду Барткевіч, лекарку, разам з мужам лёс закінуў ажно ў Кенію! Я ж пасля заканчэння семінарыі, а пасля і Віленскага настаўніцкага інстытута трыццаць год (з 1944 па 1974 г.) працаваў настаўнікам у віленскіх школах.

З Косцем мы не бачыліся ажно да сярэдзіны 1950-ых гг., да яго вяртання з Сібіру. На жаль, праз нядобрых людзей, якія не далі магчымасці яму працаваць на Бацькаўшчыне, ён вымушаны быў зноў вярнуцца туды, адкуль і прыехаў. Там і памёр ад сухотаў. Я яму прапаноўваў уладкавацца настаўнікам на Віленшчыне. Да тых, хто працаваў ці вучыўся ў часе акупацыі, адносіны ў Прыбалтыцы былі крыху іншыя, чым у Беларусі. Але ў пасляваенны час беларускія школы ў Літве былі ліквідаваны, а польскую мову выкладаць, як я, ён не захацеў, хоць ведаў яе дасканала. Шкада… Калі б Косця дажыў да сённяшніх дзён, яго імя было б вядомае на ўсю Беларусь, а нават і за яе межамі.

Дарагі наш калега Косця Рагойша!

Ты спачываеш далёка, далёка ад роднай зямелькі, ад сваіх калегаў, з якімі вучыўся. Але мы з Табою быццам разам жывём на нашай слаўнай Радзіме. Няхай Табе будзе лёгкай зямелька, хоць і чужая!

*[1987 г.]*

# Антось Рагойша

*З любоўю да Радзімы працуюць усе мае блізкія родныя. І той з іх, хто знайшоў сябе на вытворчасці ў вёсцы або ў горадзе, і той, хто абраў месцам працы дзяржаўныя інстытуцыі. Дзякуй Богу, ніхто са сваякоў не здрадзіў, яўна ці няяўна, роднай Беларусі.*



*Вячаслаў РАГОЙША*

## ДЗЯДЗЬКА АНТОСЬ

Дзядзька Антось... Так усе мы, блізкія родзічы, пляменнікі і не пляменнікі, называлі Рагойшу Антона Іосіфавіча ў гонар Коласавага дзядзькі Антося, сімпатычнейшага персанажа «Новай зямлі». Як і коласаўскі дзядзька Антось, ён быў вялікім працалюбам, сямейнікам, прыроджаным (а пасля і прафесійным) педагогам, адменным знаўцам прыроды. Сын патомных сялян з Пярэжар, што каля Ракава, ён пераняў ад бацькоў лепшыя рысы беларускага хлебароба. Хоць пасля і стаў інтэлігентам у першым пакаленні, але — не ў прыклад яго некаторым калегам — назаўсёды захаваў у сваім сэрцы і бязмежную любоў да зямлі-карміліцы, да роднага кута, Бацькаўшчыны-Беларусі, да роднага, беларускага, нашага слова. Больш таго, стаў актыўным прапагандыстам і ахоўнікам усяго беларускага, у тым ліку — і беларускай мовы.

Адыход Антося Іосіфавіча 18 сакавіка 2007 года ў лепшы свет з жалем успрынялі ўсе, хто яго ведаў і хто яшчэ пакуль што застаўся на гэтым свеце. Гэта — былыя вучні Ракаўскай польскай сямігодкі і Вілейскай настаўніцкай семінарыі, студэнты фізіка-матэматычнага факультэта былога Гродзенскага педінстытута, які ён у свой час закончыў, настаўнікі і вучні Мастоўскай і Ражанкаўскай сярэдніх школ, дзе ён пасля працаваў, калегі па аспірантуры Мінскага педінстытута імя М. Горкага, студэнты і выкладчыкі цяперашняга Гродзен-

скага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, дзе Антось Іосіфавіч выкладаў матэматыку і ажно пятнаццаць год узначальваў факультэт педагогікі і методыкі пачатковага навучання. Я ўжо не кажу пра родзічаў, сяброў, а таксама пра суседзяў па Ракаўскаму лецішчу, якое ён разам са сваёй неразлучнай Марыяй Іванаўнай набыў колькі гадоў таму назад, калі сужэнцы пераехалі з Гродна ў Мінск, бліжэй да сваіх дзяцей, Аляксандра і Генадзя — супрацоўнікаў хімфака БДУ...

Лёс падараваў Антосю Іосіфавічу сяброўства з некаторымі выдатнымі асобамі, у тым ліку — з вядомым вучоным і пісьменнікам, прафесарам Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім. Сяброўства гэта, якое пачалося яшчэ ў студэнцкім інтэрнаце Гродзенскага педінстытута, многае дало Антосю Іосіфавічу. Але і Фёдар Міхайлавіч, які добра ведаў радню свайго сябра, партызанячы, а пасля вайны і працуючы паблізу яго родных мясцінаў, нямала ад яго ўспрыняў. І сюжэтаў для сваіх абразкоў, і сакаўных слоўцаў, моўных выразаў з Ракаўшчыны, дзе беларуская мова ў яе блізкім да літаратурнага варыянце распаўсюджана, на шчасце, даволі шырока. Я памятаю, як Фёдар Міхайлавіч, які нарадзіўся і гадаваўся ў БССР, уважліва слухаў расказы свайго заходнебеларускага сябра — «аповеды дзядзькі Антося». Менавіта пад такой рубрыкай асобныя з іх пазней былі надрукаваны ў газеце «Ракаўскі шлях». Гэтыя аповеды раскрылі яшчэ адну грань таленту Антося Рагойшы — талент прыроджанага эсэіста. Думаецца, у гэтым змогуць пераканацца і чытачы дадзенай кніжкі.

Антось, які нарадзіўся 25 студзеня 1925 года, быў апошнім, шостым дзіцем у вялікай і дружнай сям'і Язэпа і Алены Рагойшаў. Сям'і, якая здаўна была далучана да беларушчыны. Бацьку свядомым беларусам зрабілі рэвалюцыйныя падзеі, калі ён быў абраны ў павятовы Савет сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Як прыгадваў дзядзька Антось, ягоны бацька яшчэ пры паляках, едучы з Ракаўскага кірмашу, не прамінаў, каб не купіць беларускі каляндар або якую-небудзь іншую беларускую кніжку. Вечарамі ў пярэжарскай хаце Рагойшаў збіраліся вяскоўцы — паслухаць вершы Купалы, Коласа, Багдановіча,

Крапівы, Танка, іншых паэтаў. Відаць, ужо тады ў аднаго з братоў, Косці, успыхнулі іскры паэтычнага натхнення, якія час ад часу арыгінальнымі вершаванымі радкамі асвятлялі старонкі «Шляху моладзі», маладзечанскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», абласной «Сялянскай газеты»... Сёння асобныя з вершаў Кастуся Рагойшы, настаўніка, дырэктара Пугачоўскай няпоўнай сярэдняй школы, беспадстаўна рэпрэсіраванага ў 1948 годзе і па часе цалкам рэабілітаванага, можна прачытаць у анталогіі «Люблю наш край...: Валожыншчына літаратурная» (Мінск: Мастацкая літаратура, 2006, стар. 187–190). І гэта ў вялікай ступені дзякуючы Антосю Рагойшу, які напісаў да публікацыі цікавы ўступны артыкул. Што да беларускасці іншых родзічаў Антося Іосіфавіча, то чаго вартая адна Марыя Іванаўна, якая паўстагоддзя прывівала вучням любоў да беларускай мовы і літаратуры, працуючы на Гродзеншчыне настаўніцай. Радаваўся дзядзька Антось, што ўсе Рагойшы «засталіся шчырымі беларусамі». Гэта ён напісаў у 1993 годзе ў сваім допісе «З радаслоўнага кораня», што ўвайшоў у кнігу «Памяць: Валожынскі раён» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1996, стар. 413–416). Закончыў ён той допіс наступным прызнаннем (даруйце за ўпамінанне ў ім і майго імя): «Брат Іван загінуў на вайне. Рыгор жыве на бацькоўскай сядзібе, вельмі радуецца звесткам беларускага адраджэння і засмучаецца, калі чуе пра нацыянальны нігілізм беларусаў. Яму ўжо 77 гадоў. Старэйшы брат Пётр выгадаваў слаўнага сына — вядомага літаратуразнаўца Вячаслава Рагойшу. Сам я выкладчык матэматыкі Гродзенскага універсітэта, першы ва універсітэце пачаў выкладанне матэматыкі па-беларуску. Мой сын Аляксандр першы ў БДУ (і, мусіць, у мінскіх ВНУ) пачаў выкладанне хіміі на беларускай мове. Сястра Надзя, настаўніца пачатковых класаў, як магла прывівала любоў і павагу да ўсяго роднага. Яе дачка выкладае ў школе беларускую мову і літаратуру. Дзякаваць Богу, ніхто са сваякоў не здрадзіў, яўна ці не яўна, роднай Беларусі».

Антося Рагойшу назаўсёды прыняла да сябе ракаўская зямліца. Але жыве ягоная душа. Яна — ва ўсім, што ён пасля

сябе пакінуў. У тым ліку — і ў ягоных сынах, у родным унуку, поўным цёзку, цяперашнім студэнце-гісторыку Антосю Рагойшы. Бо заўсёды запаветам бацькі і дзеда было:

Годзе ныць:
«Загіне Айчына…»
Лепш з сябе пачынай без прынукаў:
Навучы роднай мове сына,
Навучы роднай мове ўнука!

Што да самога дзядзькі Антося, то ў мяне яго адыход ад нас выклікаў верш «Раскажы, Антось…», які я прысвячаю яго светлай памяці:+

*«Раскажы, Антось,*
*Што было, што ёсць…»*
І расказваў **дзед**
Пра:
Заходнебеларускую
Стагнацыю,
Пацыфікацыю,
Паланізацыю,
Уласную акліматызацыю
У Ракаўскай польскай школе…

*«Раскажы Антось,*
*Што было, што ёсць…»*
І расказваў **бацька**
Пра:
Нямецкую акупацыю,
Германізацыю,
Фашызацыю,
Пасляваенныя
Калектывізацыю,
Саветызацыю,
Русіфікацыю
Нашай нацыі…

*«Раскажы, Антось,*
*Што было, што ёсць…»*
І расказваў **дзядзька**
Пра:
Люстрацыю,
Гулагізацыю,
Дэсталінізацыю,
Віскулізацыю,
Кволую беларусізацыю
Гродзенскага універсітэта…

*«Раскажы, Антось…»*
Ужо не раскажа.
Адпусцілі
У рай.
Адпелі
У Ракаўскай царкве,
Дзе і хрысцілі…

*«Раскажы, Антось…»*
Яшчэ раскажа! —
Вуснамі
Будучага гісторыка,
Творцы гісторыі,
Унука.
Які
Таксама Рагойша.
Таксама Антось.

Абавязкова раскажа! —
Пра:
Новую,
Вольную,
Шчаслівую,
Беларускую
Беларусь!



# ЭСЭ, УСПАМІНЫ, ДАКУМЕНТЫ

## З РАДАСЛОЎНАГА КОРАНЯ

Як ступаю на бацькоўскі дворык у вёсцы Пярэжары, так і наплываюць успаміны пра далёкія і не вельмі часы. Наш бацька Язэп Рагойша (у вёсцы яго называлі Юзя) у рэвалюцыйныя гады быў абраны дэпутатам ад сялян у павятовы Савет сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў ці то Заслаўскага, ці то Мінскага павета. Быў у Мінску, працаваў у выканкаме аж да ўсталявання польска-савецкай граніцы. Пярэжары аказаліся ў Польшчы. Бацька вярнуўся да сям'і, якая заставалася ў вёсцы. Тут ужо было трое дзяцей — Пеця, Грыша, Іван. Браць іх да сябе ў горад Язэп Рагойша не наважыўся, там панаваў голад. Так пачалося жыццё пры паляках. Рэвалюцыйныя падзеі ў Мінску зрабілі бацьку свядомым беларусам. Бываючы ў Ракаве, прадаўшы што-колечы на рынку, ён не прамінаў, каб не купіць беларускі каляндар альбо якую другую беларускую кніжачку. І тут вечарамі ў хаце збіраліся людзі, часцей за ўсё маладыя мужчыны, каб паслухаць чытанне твораў Купалы, Коласа, Каганца, Багдановіча, пазней — Крапівы, Танка…

Мы жылі ў пагранiччы. Тут за ўсім пільна сачыла польская дэфензіва. І асабліва тады, калі праявіўся талент

нашага, відаць, найбольш здольнага з братоў, Кастуся. Ён, будучы школьнікам Ракаўскай сямігодкі (польскай), стаў дасылаць свае вершы ў Віленскія беларускія часопісы («Шлях моладзі», «Хрысціянская думка», «Калоссе» і інш.), і яны пачалі з’яўляцца ў друку. Запомніліся радкі аднаго з твораў, за які польскі камендант Ракаўскай паліцыі ўшчуваў бацьку з Косцем:

Эх, ня век і змрок трывае,
Ня век хмары угары!
Глянь, — ты чуеш? — павявае
Вецер з іншай стараны!

«Дык што ж гэта, — кажа камендант, — табе, можа, павявае вецер з усходу, ад бальшавікоў? То атрымаеш турму! Лепш кінь гэтыя пісулькі, папрасі нас па-добраму. А мы падшукаем табе добрую работу, на пачатак пісарам у гміне, пасля іншую, як заробіш на лепшае». Аднак брат працягваў пісаць. З Вільні, хіба што з рэдакцыі «Шляху моладзі», прымеціўшы маладога творцу, прыслалі, для заахвочвання, пачак кніжак беларускіх пісьменнікаў. Улады задзейнічалі больш рашуча. На гаспадарку пасыпаліся штрафы: за «дрэнны комін», «непарадкі ў двары» ці іншую «антысанітарыю». Затым зрабілі вобыск. Знойдзены ў гаспадарцы кавалак жалеза быў патлумачаны ў следчай справе як «рэвальвер-наган», бацьку пасадзілі ў турму на два месяцы... Пасля атака на нашу сям’ю пайшла больш рашуча. Паліцыянты, на чале з камендантам, наведваюцца ў вёску рэгулярна, патрабуюць ад Кастуся адмовіцца дасылаць у Вільню вершы, нішчаць беларускія кнігі. Помню, як аднойчы цэлую ноч яны палілі іх у печы… І ўсё-такі некаторыя выданні ў Пярэжары на наш адрас прыходзілі. У прыватнасці, мы пачалі рэгулярна атрымліваць каталіцкі клерыкальны

часопіс «Рыцэж Непоколяны», іншыя паасобнікі польскіх афіцыйных часопісаў. Нас у такі спосаб спрабавалі перавыхоўваць…

«Перавыхоўванне» перарвала польска-нямецкая вайна верасня 1939 г. і далучэнне Заходняй Беларусі да БССР. Косця паступае ў Маладзечанскае педвучылішча, піша вершы ў насценгазету, раённую газету, абласную вілейскую «Сялянскую газету» — пад уплывам настрою ад вызвалення з-пад прыгнёту панскай Польшчы, з верай у беларускае адраджэнне ў савецкай краіне. Малады паэт атрымлівае запрашэнне на працу, ён — літработнік раённай газеты! Аднак у новым асяроддзі перад Кастусём з цягам часу адкрываюцца прыхаваныя трагічныя факты савецкай рэчаіснасці. Летуценнік, рамантык, ён раптам даведваецца пра тыя ганенні на інтэлігенцыю, якія адбыліся ў 1930-ыя гады ва ўсім Савецкім Саюзе, а таксама і ў Беларусі, — у тым ліку пра арышты і рэпрэсіі пісьменнікаў, спробу самагубства Янкі Купалы і інш…

У 1941 г. пачынаецца новая вайна — гітлераўская Германія нападае на СССР. Былыя чыноўнікі панскай Польшчы займаюць адміністрацыйныя крэслы, даносяць акупантам на беларусаў, што паспелі выявіць сябе прыхільнікамі савецкай улады. Частка беларускай інтэлігенцыі гіне ад рук фашыстаў. Паступова беларускі народ выспявае для супраціву, і не толькі са зброяй у руках, але і мірнага — праз розныя формы жыццядзейнасці. Так, пачынаюць адкрывацца пачатковыя беларускія школы. Косця працуе настаўнікам у суседніх Выганічах, затым яго накіроўваюць у Лідскую акругу, дзе ён праводзіць заняткі з мясцовымі настаўнікамі па вывучэнні беларускай мовы. Затым ён паступае на 4 курс беларускай настаўніцкай семінарыі ў Вільні і заканчвае

яе ў 1943 г. На дзяржаўным экзамене чытае сваю паэму «Зіма», ад якой прыйшлі ў захапленне члены дзяржаўнай камісіі. Дзе гэты рукапіс, невядома. Магчыма, загінуў разам з іншымі яго творамі, што былі схаваны ў зямлі ў пярэжарскім склепе для бульбы. Паперы заліла вада, і ўжо прачытаць нічога не ўдалося…

Пасля заканчэння настаўніцкай семінарыі Косця атрымаў прапанову на працяг навучання ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі. У той час у Вільні жыў і працаваў вядомы беларускі рэлігійны культурна-асветны дзеяч, гісторык, выдавец, публіцыст Адам Станкевіч. Менавіта ён звярнуў увагу на таленавітага маладога Кастуся Рагойшу. Адам Станкевіч, як вядома, карыстаўся сярод народа вялікай павагай. Яго культурніцкая дзейнасць звязана з Пецярбургам, Мінскам, Вільняй. У 1920-ых гадах ён быў абраны дэпутатам у сейм Польскай Рэспублікі, дзе стварыў фракцыю Беларускага сялянскага саюза, выступаў за шырокую беларусізацыю нацыянальна-рэлігійнага жыцця ў Заходняй Беларусі, за што праследаваўся польскімі духоўнымі і свецкімі ўладамі, быў выселены з Вільні і знаходзіўся ў Слоніме. У 1940-ых гадах Станкевіч зноў у Вільні, наладжвае дзейнасць беларускіх грамадска-культурных арганізацый. Агітуючы маладых хлопцаў за духоўную семінарыю, ён найперш клапоціцца пра павышэнне адукацыйнага ўзроўню моладзі. «Трэба здабываць навуку, перш-наперш здольным беларусам трэба вучыцца. А потым працаваць на карысць свайго народа. Дзе? — гэта ўжо наступнае пытанне. Калі ж нават і святарамі, то і тут вельмі патрэбныя высокаадукаваныя і свядомыя людзі», — так пераконваў майго брата і яго сяброў ксёндз А. Станкевіч. У 1943 г. Косця прыняў пра-

панову, перайшоў у каталікі і быў залічаны ў семінарыю. І ўсё-такі брат адчуваў сваё прызначэнне менавіта ў педагагічнай дзейнасці. Як толькі скончылася вайна, Косця стаў працаваць настаўнікам, а затым дырэктарам Пугачоўскай няпоўнай сярэдняй школы Радашковіцкага раёна. У гэты час ён атрымлівае магчымасць далей павышаць свой адукацыйны ўзровень, паступае на завочнае аддзяленне Гродзенскага педінстытута. У 1948 г. Кастусь заканчвае тры курсы філалагічнага факультэта Гродзенскага педінстытута. Аднак прыходзіць час жорсткага перагляду нядаўніх ваенных гадоў…

Урад Сталіна разумеў, што перамога ў вайне адбылася дзякуючы выключнай мужнасці народа. Аднак далася Савецкаму Саюзу яна занадта дарагім коштам, цаною мільёнаў жыццяў, многае не было прадугледжана, з боку дзяржаўнага кіраўніцтва было дапушчана шмат памылак. І людзі, простыя воіны, якія ў час ваенных дзеянняў апынуліся на землях Заходняй Еўропы, убачылі сапраўдныя дасягненні цывілізацыі, да якіх так і не змаглі дацягнуцца ў Савецкім Саюзе, хаця прапаганда тлумачыла народу адваротнае: наша жыццё найлепшае ў свеце. Каб і далей трымаць народ у пакоры, было здзейснена шмат шырокамаштабных акцый. У першыя пасляваенныя гады органы дзяржбяспекі адпраўляюць у лагеры паліцэйскіх, адміністрацыйных работнікаў, што займалі пасады падчас акупацыі. А разам з імі і былых палонных, хаця і трапілі яны ў палон не па сваёй волі. З 1948 г. бяруцца і за другія катэгорыі людзей, навуковую і творчую інтэлігенцыю. Сярод іншых арыштавалі і асудзілі на 25 гадоў зняволення Адама Станкевіча, які памёр у Азярлагу (Іркуцкая вобласць). Арыштоўваюць і Косцю. Вядома, галоўная прычына ў наступным: чаму

раней пісаў вершы, а цяпер маўчыш? Значыць, скрыты вораг, не хочаш апяваць савецкі лад! Вось і пайшлі допыты — як і чаму ён навучае дзяцей? У Пярэжарах кватаруюць энкавэдзісты і выклікаюць на допыты былых вучняў, яны ж — на памяць цытуюць урыўкі з беларускамоўных мастацкіх твораў, вывучаных з дапамогай настаўніка…

Дасведчаныя людзі ў турэмнай камеры параілі Косцю не спрачацца залішне са следчымі, а прыберагчы свае галоўныя контраргументы супроць несправядлівых абвінавачанняў для выступлення на самім судзе. І гэтая парада яму вельмі прыдалася. На думку следчага, тое, што ён пачуў ад вучняў, было «нацыяналістычным дурманам», напісаным самім Косцем. Такое тлумачэнне цалкам задавальняла энкавэдзістаў: хапіла б для прысуду на ўсе 25 гадоў лагераў! І якое ж было раздражненне пракурора і суддзяў на так званым судовым паседжанні, калі падсудны Косця Рагойша даказаў, што працытаваныя радкі — не яго ўласныя, што напісаны яны класікамі беларускай літаратуры, што агучаныя тэксты — урыўкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», паэмы Янкі Купалы «Курган», з твораў іншых знакамітых беларускіх пісьменнікаў. І суд вымушаны быў пагадзіцца не на 25, а на 10 гадоў лагераў і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў пасля адбыцця лагернага тэрміну. На «суд» родзічаў не пусцілі, пусцілі на прачытанне прысуду нашу маці і брата Грышу. Каб Косця мог стоячы выслухаць прысуд, два канваіры трымалі яго пад рукі — так быў ён моцна закатаваны падчас «следства». І ўсё-такі Косця атрымаў нейкую перамогу, аднак, як паказаў далейшы ход падзей, хапіла і таго, што яму прысудзілі, каб маладога чалавека адправіць у нябыт...

Што ж мы ведаем пра тагачасныя падзеі сёння? У 90-ыя гады XX ст. наша грамадства ўсё-такі дачака-

лася праўды, адбыліся працэсы рэабілітацыі бязвінна вінаватых. Для гонару нашага роду Рагойшаў, з удзячнасцю да самой Справядлівасці, усталявання Ісціны працытую афіцыйны дакумент, які дзяржаўныя органы выдалі мне на маё хадайніцтва і які вяртае цудоўнаму чалавеку, майму старэйшаму брату Кастусю Рагойшу яго добрае імя. *«Верховным Судом БССР 21 января 1992 года приговор Минского областного суда от 20 сентября 1948 года и определение судебной коллегии по уголовным делам Верховного Суда БССР от 5 октября 1948 года в отношении Рагойши К. И., осуждённого п. «б» ст. 72 и ст. 65 УК БССР на 10 лет лишения свободы с конфискацией имущества и поражении в правах сроком на 5 лет отменены и дело прекращено за отсутствием состава преступления. Рагойша К. И. по данному делу реабилитирован».*

Вось як знішчаўся беларускі менталітэт, вось дзе карані страшнай дэнацыяналізацыі нашага народа…

А як жа з сям'ёй і іх нашчадкамі? Яны выжылі, засталіся шчырымі беларусамі. Брат Іван загінуў на вайне. Рыгор выгадаваў двух сыноў, Іосіфа і Мішу, жыве на бацькоўскай сядзібе, вельмі радуецца звесткам беларускага адраджэння і засмучаецца, калі чуе пра нацыянальны нігілізм беларусаў. Яму ўжо 77 гадоў. Старэйшы брат Пётр выгадаваў слаўнага сына — вядомага літаратуразнаўцу Вячаслава Рагойшу. На ніве беларускай культуры шчыруе ўся ягоная сям'я — жонка Вячаслава дацэнт Белдзяржуніверсітэта Таццяна Кабржыцкая, яго тры сыны — філолаг Усевалад, будучы гісторык Максім і будучы юрыст Пятрусь. Сам я, выкладчык матэматыкі Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, аддаў усе свае сілы і веды выхаванню настаўніцкай моладзі, пер-

шы ва універсітэце пачаў выкладанне матэматыкі на беларускай мове. Наш з Марыяй Іванаўнай, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, старэйшы сын Аляксандр першым у БДУ (і, мусіць, у мінскіх ВНУ) пачаў выкладанне на беларускай мове хіміі. Хімія стала прызваннем і для другога сына — Генадзя. Сястра Надзя, настаўніца малодшых класаў, таксама прывівала шмат гадоў у вясковых школах дзецям любоў і павагу да ўсяго роднага. Яе дачка Ларыса выкладае ў школе беларускую мову і літаратуру. Старэйшая дачка Валя і сын Віктар таксама неабыякавыя да беларушчыны. У дзяцей пляменнікаў і пляменніц падрастаюць свае дзеці, якіх яны таксама выхоўваюць у духу патрыятызму. З любоўю да Радзімы працуюць усе мае блізкія родныя. І той з іх, хто знайшоў сябе на вытворчасці ў вёсцы або ў горадзе, і той, хто абраў месцам працы дзяржаўныя інстытуцыі. Дзякуй Богу, ніхто са сваякоў не здрадзіў, яўна ці не яўна, роднай Беларусі.

*[1993 г.]*

## НАЗВЫ РОДНЫЯ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Калі трымаеш у руках «Ракаўскі шлях», міжволі ўсплываюць у памяці расказы старых людзей, пачутыя ў маім юнацтве, пра гісторыю гэтай зямлі. Адны расказы здаваліся праўдзівымі, бо зыходзілі ад не так далёкіх продкаў, другія ўжо ў міфы перараслі. Але і яны цікавыя тым, што тлумачаць паходжанне назваў мясцін і стасуюцца з геаграфіяй наваколля.

Мой аповед — пра лугі каля ракі Ісլач паміж яе прытокамі Выганіцкай і Казацкай. Тут рака ўецца па

шырокім лузе сярод сасновага бору. Узбор'і (берагі лесу) узвышаюцца над лугамі і параслі арэшнікам. На лузе яшчэ сям-там захаваліся дубы-волаты пасля суровай зімы 1939/40 года. А маразы ў тую зіму былі такія, што памерзлі дубы пяцісотгадовай старасці, выжылі толькі маладзейшыя дрэвы. Сустракаюцца тут цікавыя азяркі-пропасці. Яны малой плошчы, але вельмі глыбокія. Парэчак і смуродзін каля ракі — хоць кашом збірай. А сам луг быў такой прыгажосці, што калі вялі расказы пра рай на тым свеце, то думкі былі на лузе над Іслаччу. Такое суквецце розных колераў, што не апісаць. Гэта трэба пабачыць. Тут і птушыны рай усё лета. Якіх толькі песняў не наслухаешся, асабліва салаўіных!

Цяпер часам заглядваю на тыя мясціны і вельмі смуткую па той былой красе. Калісьці траву гадавалі і касілі на сена пасля цвіцення асноўных красак. Цяпер жа лугі гэтыя не косяць, а пасуць на іх усё лета кароў, і той красы не пабачыш.

Рака, вывіваючыся па лузе, час ад часу набліжаецца да ўзбор'я і ўтварае такім чынам агранічаныя ўчасткі сенажаці. Яны маюць свае назвы. Вось назвы лугоў, што належаць Пярэжарам: Калода, Салаўёў Кут, Медзьведка, Малая Панікліца, Вялікая Панікліца, Рынкава Балота, Гарадзейкі. У апавяданнях былых старажылаў кожная назва мела сваю гісторыю. У пачатку майго аповеду згадваліся два тыпы расказаў. Па аднаму з іх, для прыкладу, і раскажам.

## МЕДЗЬВЕДКА

Гэтае найменне носіць пярэжарская рэчка разам з берагамі лесу каля рэчкі і лугам між лесу пры рэчцы.

Даўнія жыхары Пярэжар займаліся бортніцтвам. Замест цяперашніх рамачных вуллёў тады прымянялі кускі калодаў з дупламі. Калоды-вуллі прымацоўвалі да хвояў высока над зямлёй. А каб ласы да мёду мядзведзь не нарабіў шкоды, то на вяроўцы ніжэй борці падвязвалі дубовую калодку. Калі мядзведзь лезе да пчол па мёд, то яму гэта калодка перашкаджае і ён лапай яе адкідвае ўбок. Калодка ж вяртаецца назад і б'е па мядзведзю. А ён злуе і з яшчэ большай сілай калодку шпурляе. І тут ужо хто пераможа. Ці мядзведзь адарве калодку. Ці сам, змораны і пабіты, не зваліцца на зямлю.

Пчаляры па аднаму на Медзьведку не хадзілі. Мядзведзі тут жылі, гэту тэрыторыю лічылі сваёй і яе ахоўвалі ад людзей. Таму на збор мёду ішлі ўсёй вёскай. Мядзведзі адступалі далей у лес і злосна раўлі, пакуль пчаляры гаспадарылі ў сваёй пасецы. Але, адыходзячы дахаты, пчаляры патроху пакідалі «адступнога» мёду для мядзведзяў, каб яны моцна не злаваліся. Так узнікла назва Медзьведка.

## ГАРАДЗЕЙКІ. РЫНКАВА БАЛОТА

Калісьці, у далёкія часы, рака Іслач была паўнаводная, асабліва ўніз па цячэнні пасля зліцця яе з прытокамі Пярэжарскай, Выганіцкай і мнагаводнай Яршоўкай. Да Гарадзеек, што на Іслачы, Нёманам, Беразіной (Заходняй) даплывалі лодкі, гружаныя таварамі Балтыйскага басейна. З Гарадзеек балаголы тавар адвозілі ў Заслаўе і Мінск. А па Свіслачы ў Мінск і Заслаўе плылі сустрэчныя тавары з Чарнаморскага басейна — па Дняпры і Беразіне (Усходняй). У летнюю пару падчас рачной навігацыі ажываў Ракаўскі гандлёвы шлях паміж Гарадзейкамі і

Заслаўем. Гэта магчыма было падчас сівой мінуўшчыны, калі беларуская княгіня Рагнеда са сваім сынам Ізяславам прыплыла з Кіева па Дняпры, Беразіне і Свіслачы ў Заслаўе. Гудзеў гандлёвы Ракаў, грукатаў гандлёвы ракаўскі шлях, шумелі кірмашы на гарадзейскім вялікім рынку. Месца былога рынку цяпер завецца Рынкавым Балотам…

Пра ўсё гэта расказваў нам дзед Янка Хвалісёнак. Мы, хлапчукі, заслухоўваліся расказамі дзеда пра сівую мінуўшчыну, пасучы на начлезе коней на гарадзейскім лузе. «Дзед Янка, а куды ж падзеўся той горад, што тут быў?» — пытаемся мы. А Янка ўжо дрэмле. Нехта маладзейшы паясняе: павыразалі лясы, абмялелі рэкі, зачах гандаль, заглух ракаўскі гандлёвы шлях, выехалі купцы і знік горад. Тут ад дрымоты схамянуўся Янка. «Э, — кажа ён, — гэта было не так. На горад напала дзікае войска. Жыхароў абрабавалі і пабілі, толькі некаторыя схаваліся ў лесе. Дзікуны апаганілі цэрквы і касцёлы, зрабілі ў іх канюшні, самі пад алтарамі разгульвалі і п'янствавалі. Бог разгневаўся, зрабіў землятрус і пахаваў усіх дзікуноў пад зямлю. І вось, дзе пропасці, гэта там, глыбока пад зямлёй, цэрквы і касцёлы, запоўненыя дзікунамі. У ноч на святога Яна прыкладзіце вуха да паверхні вады ў пропасці — пачуеце званы. Па звону адрозніце, што там пахавана, царква ці касцёл. Паслухайце ўважліва ў Ракаве званы і сумееце адрозніць звон касцельны ад царкоўнага. Тады і скажаце, што там пахавана ў пропасці. А калі праслухаць ваду падчас навальніцы, то, кажа Янка, пачуеце піск і енк дзікуноў, іржанне коней….

Мы, хлапчукі, прыкладвалі вуха да вады, аж пакуль нас не зморваў сон. Але ўсё ж званы чулі…

*[2002 г.]*

## ВЯСКОВЫ АДВАКАТ

Адвакат. У судаводстве — гэта прафесія. Каб быць адвакатам, трэба мець адпаведную адукацыю і працаваць па акрэсленых заканадаўствам правілах. Адвакацкая работа платная, у сувязі з чым правілы работы часта парушаюцца ў залежнасці ад памеру ўзнагароды за працу на карысць наймальніка. Гэтыя асаблівасці маюць свае характэрныя рысы ў адпаведныя гістарычныя перыяды. Тут мы раскажам пра адвакатаў-самародкаў, якія, не маючы адпаведнай адукацыі, выйгравалі судовыя справы. Падзеі гэтага аповеду адносяцца да канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

Вёска Пярэжары судзілася з панам Ратынскім. Вызваляючы сялян ад паншчыны, царскі ўрад аставіў некаторыя пытанні не да канца вырашанымі, і яны выклікалі пастаянныя канфлікты паміж панам і сялянамі. У акце аб адмене прыгонніцтва было запісана, што сяляне маюць права пасвіць сваю скаціну там, дзе пан пасе сваю. Такая суполка пану вельмі надаела, і ён усялякімі спосабамі выкручваўся ад яе выканання.

Вось пасеяў ён для пашы палетак канюшыны і кругом абсеяў аўсом, аставіўшы прагон да канюшыны з боку двара. Як толькі дворныя каровы пусцілі на канюшыну, вясковы пастух пагнаў праз авёс вясковыя каровы на тую ж канюшыну. Пан падаў на суд цэлую вёску за патраву збожжа на ўчастку ў дзве дзесяціны. Суд адбываецца ў Ракаве. Панскі бок на судзе абараняюць аканом, ляснік і адвакат. Сяляне прыйшлі амаль усе. Суддзя прапануе выдзеліць ад пярэжарцаў трох прадстаўнікоў, якія будуць абараняць вёску. Пачуліся крыкі з боку вяскоўцаў: «Ад нас хопіць і двох. Гэта Янка Хвалісёнак і Патанэй-

ка». На запыт суддзі, ці ўсе згодныя з прапанаванымі кандыдатурамі, пачулася аднагалоснае адабрэнне. Гэта ж вясковыя адвакаты, яны вёску ў судах не падводзілі.

Пачынаецца суд. Першымі выступаюць абвінаваўцы — аканом, ляснік і адвакат. Усе яны па чарзе даказваюць, што вясковыя каровы стравілі дзве дзесяціны панскага аўса. Пасля суддзя звяртаецца да вясковых адвакатаў з пытаннем, хто з іх будзе гаварыць першым. Бярэ слова Патанэйка. Ён кажа:

— Няхай гаворыць Янка. Што ён скажа, гэта тое самае, што і я.

Даецца права гаварыць Янку. Ён сказаў наступнае, звяртаючыся да суддзі:

— Ваша благароддзе, прысудзіце да катаргі тых, хто гаворыць няпраўду. Тое, што тут гаварылі аканом, ляснік і адвакат, — гэта хлусня. Ды як жа могуць інакш казаць ляснік з аканомам, калі яны на панскай службе? Сказаўшы праўду, яны заўтра будуць звольненыя з работы. А што можна сказаць пра адваката? Дык гэта ж ён як сабака: хто яму большы кусок падкіне, за таго і мацней брэша. Калі б я меў многа грошай, то ён заўтра ўжо гаварыў бы зусім іншае. Прашу, Ваша благароддзе, прыміце такое рашэнне. Паедзем на месца, і даследуйце, чыя праўда. Калі праўда, што вясковая скаціна стравіла дзве дзесяціны аўса, то прысудзіце нам з Патанэйкам шэсць гадоў катаргі (па тры гады кожнаму). Калі ж гэта няпраўда, то прысудзіце ім шэсць гадоў катаргі (хопіць ім і па два гады кожнаму).

Суддзя ўхмыльнуўся і звяртаецца па чарзе да кожнага з бакоў з пытаннем, ці згодныя з прапановай Янкі? І пачуў такія адказы. Патанэйка сказаў, што згодзен, «Ваша бла-

гароддзе». Аканом, ляснік і адвакат адказалі аднолькава: «Нет, нет, Ваше благородие!».

Пасля кароткага перапынку суддзя аб’яўляе рашэнне суда: «Вёску апраўдаць». Пасля гэтага пярэжарцы святкавалі сваю перамогу, а Янка Хвалісёнак з Патанэйкам былі аддзячаны па заслугах.

*[2002 г.]*

## СВАТ — УСІМ СВАТАМ СВАТ...

Патанэйка, апрача ўсяго, быў і адмысловым сватам. Хто з мужыкоў заседзіцца ў халасцяках, то Патанэйка яго абавязкова ажэніць. Да дугі ён прывязваў не званок, а сапраўдны звон велічынёй з гладыш у тры кварты. Калі на вуліцы празвінеў такі звон, усім зразумела: Патанэйка павёз некага ў сваты. Быць у вёсцы вяселлю!

Жаніў ён і свайго прыяцеля Янку Хвалісёнка. Янка быў здатны хлопец як патанцаваць, так паспяваць і асабліва пагаварыць. Дзеўкам ён быў даспадобы. Але гаспадар быў неважнецкі. Дый выпіць гарэлкі быў хват, у карчме — часты госць. Ніва была хоць і шырокая (цэлы ўчастак), але засеяна толькі да гары за рэчкай і да гары ў бок Ляскоўкі. Далей поле ляжала дзірваном. І на скаціне збіўся ён на адну кароўку і слабенькага коніка. А за жонку хочацца ўзяць прыстойную дзяўчыну, ды яшчэ з добрым пасагам.

Тут бярэцца за справу Патанэйка. З’ездзілі ў сваты. Абодва — як малады, так і сват-зух — не падкачалі. Наконт гаспадаркі падманулі. Сказалі, што Янка мае тры каровы і пару коней. Але ж гэта ўсё трэба паказаць на

агледзінах праз тыдзень пасля сватаўства. Вось тут і разыгрываецца адказная дзея.

У карчмара Бэркі ёсць дзве харошыя каровы і добры конь. Патанэйка ўступае ў перагаворы з Бэркам. Дагаварыліся. Каровы і каня ад Бэркі пераводзяць у хлеў да Янкі. А ў гумне — пуста. Патанэйка прывозіць воз свайго гароху і згружае яго на таку проста ў варотах у гумне Янкі. Такім чынам, у гумно не зайсці, нібы гумно поўнае. Для паўнаты, ад Бэркі прыносяць у хату для ўпрыгожання некалькі багатых рэчаў, а Янка адзеўся ў прыгожы Бэркаў касцюм.

На агледзіны прыязджаюць браты нявесты. Бацькоў у іх ужо не было. Браты агледзелі скаціну, глянулі на ніву ў адзін і другі бок — усё як бы добра. Далей за ўзгорак не пайшлі глядзець. Ці то паверылі, ці і не вельмі хацелі ўсё дакладна агледзець. А наконт гумна атрымалі такое тлумачэнне. Надыходзіла хмара, а гарох сухі, усё гумно заложана збожжам. Вымушаны часова скласці на таку, каб пасля перакласці на вышкі.

Дагаварыліся аб пасагу і вяселлі. Пасаг 500 рублёў. За гэтыя грошы Янка спраўляе гучнае вяселле. Вядома ж, добрую частку атрымлівае Бэрка. А бедная Зося, цяпер ужо Янчыха, пытае ў Янкі, дзе ўсё падзявалася, што было да вяселля? Янка ва ўсім прызнаўся. Дзявацца не было куды. Зося кінулася на паратунак да братоў. Браты не прынялі. Пасаг выплацілі, а на большае, сказалі, не разлічваць. І так бедная Зося мучылася з Янкам, пакуль не падраслі сыны і не наладзілі гаспадарку.

*[2002 г.]*

## МАЯ «АКЛІМАТЫЗАЦЫЯ» Ў РАКАЎСКАЙ СЯМІГОДЦЫ

У Ракаўскую школу да вайны хадзілі мы ўсе, пачынаючы ад Грышы і канчаючы мной. Дзесяць кіламетраў у дзень, у любое надвор'е — туды і назад. Школа была польская, усе вучэбныя дысцыпліны выкладаліся па-польску, за выключэннем урокаў рэлігіі. Ксёндз гэтыя ўрокі вёў па-польску, рабін — на ідыш, бацюшка — па-руска-беларуску. На перапынках вучні гаварылі па-беларуску, за выключэннем адзінак (дзеці асаднікаў, начальнікаў).

Калі вучыліся старэйшыя браты, то ў Польшчы яшчэ троху адчуваўся дэмакратычны дух. У сойм выбіраліся беларускія паслы, дзейнічала Беларуская сялянска-работніцкая грамада, у Вільні выдаваліся беларускія газеты і часопісы. У мой жа час вучобы ў Ракаўскай сямігодцы Польшча скіравалася на фашыстоўскі шлях, магчыма, пад уплывам Нямеччыны. Польшча нават удзельнічала ў падзеле Чэхаславакіі. Беларускі рух сталі жорстка падаўляць. Гэта асабліва адчувалася ў прыгранічнай паласе. За чытанне беларускай літаратуры, выпісванне беларускіх газет паліцыя людзей абкладвала штрафамі. Штрафы накладвалі пад выглядам розных прычын: дрэнна падмецена вуліца, не пабелены плот, кепскі комін і г. д. Нашага бацьку маладзечанскі павятовы староста нават пасадзіў на два месяцы ў турму за... «захоўванне рэвальвера» (пры вобыску знайшлі трубку, падобную да дула нагана).

Пагаршэнне атмасферы адчувалася і ў школе. Сынкі асаднікаў, польскіх службоўцаў наглелі ў адносінах да беларусаў. Мае старэйшыя браты былі фізічна моцныя і нахабным аднакласнікам давалі належны адпор.

Настаўнікі, у асноўнай сваёй масе, паводзілі сябе досыць карэктна. Толькі перад вайной прыслалі ў школу выкладчыка гісторыі і геаграфіі па прозвішчу Вішнеўскі. Гэта быў ужо сапраўдны фашыст. Мусіць, яму было і даручана змяніць атмасферу сярод настаўнікаў і вучняў у горшы бок.

Я прыйшоў у 5-ы клас Ракаўскай школы ў 1936 годзе. Як гэта водзіцца, хлапчукі-аднакласнікі спрабуюць сілу для высвятлення вяршэнства над навічком. Хаця я быў ростам невялікі, але сялянская фізічная загартоўка дазваляла даваць належны адпор большасці нахабнікам. Самым значным была барацьба з сынком асадніка па прозвішчу Наврут. Ён вылучаўся нахабствам, ды і фізічна быў няўломак. Адносіны з ім даходзілі да кульмінацыйнай развязкі. Неяк падчас урока фізкультуры ён у шарэнзе прыстроіўся за мной і стаў наступаць мне на пяты. Ён у чаравіках, а я — босы. Агляну́ўся — з пяты цячэ кроў. То я яму як піхануў кулаком пад дыхала, аж ён пасінеў, скурчыўся і ўпаў. Настаўнік фізкультуры Латаноўскі спалохаўся, ажно пабялеў. Падняў майго праціўніка, у якога ўжо на шчоках з'явіўся колер, і пытае ў мяне: «Чаму так б'ешся?» Я паказаў акрываўленую пяту, сказаў, што я Наврута неаднаразова папярэджваў, каб мне не наступаў на ногі, ды ён мяне не паслухаў. Настаўнік хвіліну падумаў і кажа: «Так біць не можна. Так можаш забіць чалавека». І прадоўжыў урок фізкультуры.

Пераможцам у змаганні аказаўся я. Настаўнік мяне не пакараў. Накаўціраваў Наврута я, хаця і сам быў паранены. Ды мой вораг не захацеў на гэтым спыніцца, вырашыў адпомсціць.

Аднойчы па дарозе з школы дахаты на вуліцы Букраўка з-за хлява выбегла кампанія хлапцоў на чале з Наўрутам

і акружыла мяне для расправы. Тут у мяне спрацаваў інстынкт самаабароны. Я выхапіў у сястры Надзі, з якой мы разам ішлі, фанерны чамаданчык з кніжкамі, размахнуўся і трэснуў ім Наврута па галаве. І пацякла ад скроні па шчацэ кроў. Мой праціўнік заякатаў, і ўся кампанія дала ходу за хлеў. Я з Надзяй сваёй дарогай таксама бягом.

Назаўтра прыходжу ў школу з вялікай трывогай. Мяне сустракаюць аднакласнікі з паведамленнем, што засядае педагагічны савет, мяне выключаюць са школы. Бацька Наврута ходзіць па школьным двары, у сына забінтавана галава, на бінце, мусіць наўмысна, пакінулі падцёкі крыві. Але адзін вучань — Стась — мне па сакрэту сказаў, што ён пад дзвярыма настаўніцкай пачуў, як мяне абараняла класная кіраўніца пані Лукашэвічова. Гаварыла, што яна вучыла ўсю сям'ю, і такіх дзяцей вучыла б да самай смерці. У канцы заплакала. Я пасмялеў. Чакаю ўсё ж прысуду. Прыходзіць на ўрок класная кіраўніца. Як звычайна, праверыла прысутных і запытала, што за бойка была ўчора? Я падняўся і расказаў усю ўчарашнюю гісторыю. Наконт чамаданчыка кажу: «Я зусім не думаў яго чамаданчыкам біць, толькі адмахваўся, каб ён да мяне не лез біцца». Настаўніца пытае мяне: «Ці будзеш больш біць Наврута?» Кажу: «Барані Божа, няхай толькі мяне не чапае». Настаўніца пытае Наврута: «Ці будзеш больш задзірацца біцца з Рагойшам?» Ён, памаўчаўшы, буркнуў: «Не». Тады настаўніца звяртаецца да мяне і кажа, што так біцца не можна, так можна чалавека забіць, стукнуўшы ў скронь.

На гэтым і скончыўся суд. На гэтым і закончыліся спробы высвятлення адносін з аднакласнікамі. Пайшла па школе чутка, што ў 5-ым класе «малы Рагойша так

б'ецца, што можа забіць чалавека». Мяне больш ніхто не зачапіў і пальцам. Больш таго, здаралася, што некаторыя вясковыя вучні, большыя і дужэйшыя за мяне, звярталіся да мяне па абарону.

*[2002 г.]*

## ПАЧАТАК ДОЎГАЙ ДАРОГІ Ў НАВУКУ

Іду па былой ракаўскай вуліцы Букраўка (цяпер — Пушкіна) у бок будынкаў старой школы за Ісláччу. Тут і затрымаўся. Затрымаўся, каб разбудзіць у памяці малюнкі гісторыі, звязаныя з маёй вучобай тут у далёкіх 1936–1941 гг.

22 жніўня 1936 года бацька прывёў мяне сюды і пакінуў вучыцца ў 5-ым класе. Гэта быў пачатак маёй доўгай дарогі па здабыванні ведаў у Ракаўскай, на той час сямігадовай польскай, школе. Дарога доўгая і нялёгкая. Ад Пярэжар, дзе мы тады жылі, да канца Букраўкі пяць кіламетраў. Такім чынам, 10 км кожны дзень — у гарачыню ці ў мароз, у дождж ці ў мяцеліцу — здабываў тыя 12 тысяч кіламетраў доўгай дарогі за пяць гадоў. Тры гады — гэта вучоба ў 5–7-ым класах сямігадовай школы.

Заходняя Беларусь пад уладай Польшчы. Навучанне вядзецца выключна на польскай мове. Вучнёўская моўная атмасфера падчас перапынкаў — беларуская. Аб'ём ведаў, якія давала польская сямігодка, быў меншы ў параўнанні з ведамі, што давала савецкая сямігодка, асабліва па дакладных навуках. Арганізацыя навучальнага працэсу ў тагачаснай польскай школе амаль нічым не адрознівалася ад навучальнага працэсу ў савецкай

школе. Тыя ж 50 хвілін урока і 10 хвілін — перапынак. Толькі вучоба пачыналася і канчалася малітвамі. Першая малітва — за поспехі ў вучобе, другая — падзяка за светласць навукі. Раз на тыдзень быў урок рэлігіі. Прыходзілі каталіцкі, праваслаўны і яўрэйскі святары і са сваімі вернікамі вывучалі асновы адпаведнай рэлігіі.

Настаўніцкі калектыў у сваёй асноўнай масе выклікае добры ўспамін. Гэта былі адукаваныя і гуманныя педагогі. Хочацца ўспомніць добрым словам настаўніцу пані Лукашэвічову (класную кіраўніцу), пані Шчукову, пані Дымкову, настаўніка пана Латаноўскага, кіраўніка школы пана Мазніцкага. Аднак перад вайной у Польшчы пачаў адчувацца павеў фашыстоўскага духу, мусіць, пад уплывам падзей у Германіі. І для ўмацавання такога духу ў школу быў прысланы настаўнік гісторыі Вішнеўскі. За жорсткія да вучняў адносіны яго празвалі «Чэгвона Гусь». Ён выгаворваў гук «р» картава, па-нямецку, і замест «Чэрвона Русь» у яго атрымоўвалася «Чэгвона Гусь».

Такім чынам, у 1939 годзе я атрымліваю пасведчанне аб заканчэнні Ракаўскай сямігадовай школы. Асноўныя адзнакі — выдатныя. Маю права паступаць на вучобу ў гімназію, ды матэрыяльнае становішча бацькоў вучыцца далей не дазваляла. Але гісторыя вызначыла зусім іншую дарогу. Нямецка-польская вайна. Заходняя Беларусь уваходзіць у склад БССР. Зноў Ракаўская школа на два гады — для папаўнення ведаў за сем класаў савецкай школы. Наведваю шосты і сёмы класы вячэрняй Ракаўскай школы ў 1939–1941 гг.

Ды зноў вайна, якая акрэсліла канец маёй вучобы ў Ракаўскай школе. Але веды, здабытыя тут, не прапалі марна. Вучоба прадаўжалася і прывяла да заканчэння

Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута (цяпер — ГрДУ імя Янкі Купалы) і аспірантуры пры Мінскім педінстытуце імя М. Горкага (цяпер — БДПУ імя Максіма Танка). На маім працоўным шляху — праца ў школах Гродзеншчыны, 40 гадоў выкладання матэматыкі ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. З іх 15 гадоў — работа дэканам педагагічнага факультэта.

І, нарэшце, як гэта прынята казаць, — заслужаны адпачынак у сваім Ракаве.

*[2003 г.]*

## ЯК БАЛЬШАВІКІ МЯНЕ ВЫЗВАЛІЛІ

У нармальных вясковых гаспадарках працавалі ўсе дзеці, ад малога да вялікага. А пасады былі такія: пасвіць гусей, свіней, авечак, кароў, каня. Так я і прайшоў усе чыны — ад гусінага пастуха да конскага. Пасвіць каня, ездзіць на начлег лічылася вялікім гонарам. Калі прымеркаваць да ваенных чыноў, то такая пасада раўнялася амаль генеральскай. У час школьных заняткаў служба пастуха выконвалася па сумяшчальніцтву з вучобай у школе. А ў канікулы гэта работа была галоўнай — ад усходу да заходу сонца.

Нас у сям'і было шасцёра дзяцей. Кожны на адной пасадзе затрымліваўся два гады. Толькі мне пасвіць каровы давялося чатыры гады. Як апошняму ў дынастыі, не было каму перадаць гэтую пасаду. Так мне гэтая пасада надаела, што здавалася, ужо горшай работы і няма на свеце. У вёсцы быў наняты пастух, які пасвіў кароў з цэлай вёскі на агульным выгане. Паша была дрэнная, каровы ў

пастуха не наядаліся, трэба было іх падкормліваць дома. Пасучы асобна свае каровы, можна было іх прыпасваць на малых дзялянках, у панскім лесе, па дарогах, каб не спатрэбілася кароў прыкормліваць дома. Выкананне маёй просьбы далучыць нашы каровы да пастуха ўсё адкладвалася далей і далей.

Аднойчы вераснёўскай ранічкай нешта, на маё здзіўленне, мяне не будзяць гнаць на пашу кароў. Прытаіўшыся, ляжу, чакаю, што тут будзе. Пачуліся стрэлы. Тут я не сцярпеў, саскочыў з ложка, пытаю, што робіцца. Сам бачу: пайшлі танкі па дарозе на Івенец. Бальшавіцкія танкі. Свабода!

Пастух вясковыя каровы адразу пагнаў пасвіць на панскую сырадэлю. Кажу бацьку: чаго ж я буду мучыцца са сваімі каровамі на выгане, калі пастуховыя вунь як жаруць панскую сырадэлю? Атрымліваю распараджэнне: гані каровы да пастуха, толькі папільнуй, каб пры першай сустрэчы каровы не папароліся. Загнаў кароў да пастуха, пільную, каб не біліся. Ды дзе там да той бойкі, калі ўсе занятыя такім смачным панскім ласункам! Так і далажыў бацьку, што каровы не б’юцца, бо вельмі смачная сырадэля. «Гуляй!» І сарваўся я з гэтай пасады, як малады жарэбчык, што парваў вяроўку і пайшоў гарцаваць дзе папала.

Такой вольніцы было тыдні два. Пасля быў новы лад для сямейнікаў: хто на работу, хто за вучобу. Мая дарога пры новай уладзе — гэта вучоба.

*[2003 г.]*

## У ЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ

У маладога пакалення ніколі не згасае цікавасць да тых падзей, што адбываліся ў нашай мясцовасці падчас нямецкай акупацыі. Ва ўнука Антося пытанняў шмат: раскажы, дзядуля, дзе і як хаваліся ад немцаў, ці будавалі сховішчы, як перахоўваліся ўзімку і г. д. Агульны адказ быў бы такі: хавала нас родная зямля і родны лес. Спосабаў вышуквалі процьму. Калі ўсе апісаць, то атрымаецца не адна кніга. Пра некаторыя з іх і пойдзе расповед.

Хавацца трэба было не толькі людзям, але неабходна было захоўваць і сякую-такую маёмасць, каня, карову. Бліжэйшым сховішчам служылі зямлянкі каля рэчкі за гародам. Летам зямлянкі маскіраваліся зелянінай, у прыватнасці, засяваліся лубінам. Лубін хутка разрастаўся і добра прыкрываў свежаўзрыхленую зямлю зверху і наўкола зямлянкі. Зімой сляды да зямлянак замяталіся венікам.

Хуткімі сховішчамі былі ямы ў зямлі, унутры будынкаў, замаскіраваныя зверху дошкамі, саломай і ўсякім ламаччам. Гэтымі схованкамі карысталіся, калі акупанты ці паліцыянты з'яўляліся на вуліцы нечакана. Летам больш надзейным сховішчам служылі лясныя палянкі і лужкі. Паміж сядзібай і лесам поле засявалася жытам: яно хутка вырастае ў вышыню, і па ім, прыгнуўшыся, лёгка перабягалі ад хаты ў лес. Гэты спосаб уцёкаў ужываўся тады, калі па гудзенню матораў вызначалася, што набліжаецца навала. Акупанты, падняўшы дагары нагамі вёску, часам прачэсвалі і лес. У такім выпадку былі патрэбныя схованкі ў самім лесе.

Лясная рака Ісламач у час паводкі большала і шырылася. Летам берагі зарасталі травамі, кветкамі — паабапал ракі ўтвараліся лугі дзівоснай прыгажосці. Яны мелі цудоўныя назвы: Гарадзейкі, Рынкава Балота, Салаўёў Кут і іншыя. Бераг лугу, зарослы лесам, завецца ўзбор'ем. На лузе месцамі траплялiся «прорвы» — гэта азяркі невялікай плошчы і вельмі глыбокія. Там, дзе «прорва» злучалася з узбор'ем, і будаваліся сховішчы. Углыб выкопвалі яму памерам 2×2×1 м. Зямлю для маскіроўкі высыпалі ў прорву, столь умацоўвалі дошкамі, жэрдкамі і падпіралі слупкамі. Дно зямлянкі засцілалі сенам, саломай, праход засаджваўся кустоўем. Трапіць туды было цяжка, бо сцежкі паміж «прорвай» і ўзбор'ем ніякай не было.

Гэтае сховішча выратавала два разы. Першы раз улетку 1943 года, калі немцы акружылі нашу мясцовасць. Утварыўшы ланцуг, нямецкія салдаты і паліцаі прачэсвалі лес і поле. Таго, хто трапляўся ім на вока, альбо адразу расстрэльвалі, альбо вывозілі ў Нямеччыну. Тады яны прайшлі зусім недалёка, міма «прорвы» па лузе. На шчасце, яны былі без сабак. Брэх аўчарак, які даносіўся з мястэчка, наводзіў на нас вялікі страх.

Другі раз прыйшлося скарыстаць схованку, калі немцы адступалі ў 1944 годзе. Па адным і групкамі беглі яны на захад, як падстрэленыя ваўкі, і сустракацца з імі было вельмі небяспечна.

*[2004 г.]*

## НАШ ПЕРШЫ, ПАСЛЯВАЕННЫ

*Антон Іосіфавіч Рагойша нарадзіўся 25 студзеня 1925 года ў вёсцы Пярэжары Валожынскага раёна Мінскай вобласці. У 1944 годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута, які скончыў у 1948 годзе. Працаваў настаўнікам сярэдняй школы г. Масты (1948–1950) і сярэдняй школы мястэчка Ражанка Шчучынскага раёна (1950–1955). Вучыўся ў аспірантуры на матэматычным факультэце Мінскага дзяржаўнага педінстытута імя М. Горкага (1955–1958). У 1960–1975 гадах — дэкан факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання. Сёлета адзначыў 75-гадовы юбілей. Зараз — на заслужаным адпачынку.*

У 1944 годзе, калі я паступіў на фізіка-матэматычны факультэт, не думаў і не загадваў, што Гродзенскі педінстытут, а потым і універсітэт, стане маім лёсам, маім жыццём. Мне здаецца, што тады ўсё адбылося выпадкова. Я паехаў у Мінск з намерам паступіць кудынебудзь вучыцца. Купіў газету «Звязда» і ўбачыў аб’яву: «Гродзенскі педінстытут аб’яўляе дадатковы набор…» і г. д. У аб’яве паведамлялася, што студэнты забяспечваюцца інтэрнатам і трохразовым харчаваннем. Апошняе і было рашаючым фактам.

Няцяжка ўявіць, як жылося, калі яшчэ ішла вайна, а там, дзе яна прайшла, уся гаспадарка была разбуранай.

Ці ж спраўдзілася тое трохразовае харчаванне? У нейкай ступені спраўдзілася. Інстытуту аддалі падсобную гаспадарку Лікаўку. Студэнты ездзілі туды на работу. Маглі крыху і зарабляць. Працавала студэнцкая сталоўка. На першым і другім курсах усё ж цяжкавата даводзілася.

Але радавала тое, што мы сталі студэнтамі, паступілі ў інстытут. І бытавыя цяжкасці адыходзілі на другі план. А паступалі з рознымі дакументамі — польскімі, савецкімі, акупацыйнымі. Здавалі экзамены — па матэматыцы, фізіцы, геаграфіі, пісалі дыктоўку па рускай і беларускай мовах.

На трэцім курсе пайшоў я на практыку ў школу. Там настаўніца параіла мне дапамагаць па матэматыцы адной дзяўчынцы-сямікласніцы з заможнай сям'і. Я праводзіў заняткі два разы на тыдзень. Пасля гэтага яна атрымлівала пяцёркі. Варта было мне не прыйсці — і яна атрымлівала двойку. Тады яе бацькі папрасілі мяне весці заняткі чатыры разы на тыдзень, добра плацілі. Для мяне тады гэтыя заробленыя грошы здаваліся вялікай сумай, жылося някепска.

А жылі мы ў старым корпусе. Напачатку былі павыбіваныя вокны, дзверы не зачыняліся. Студэнты вымалі ўнутранае шкло і ўстаўлялі яго звонку, каб у пакоі не гуляў вецер. Альбо забівалі вокны фанерай. Ездзілі ў Парэчча нарыхтоўваць дровы. Нам за гэта выдавалі норму дроў, каб паліць у інтэрнаце.

Працавала ўжо электрастанцыя, але яна часта адключалася. На складзе былі трафейныя нямецкія свечкі. Пры іх святле і вучыліся. Сапраўднай праблемай былі падручнікі. Іх не хапала. У сакавіку прывезлі шмат літаратуры — падарунак ад ВНУ, якія не былі пад акупацыяй, — з Масквы, Ленінграда. Нас мабілізавалі грузіць кнігі з вагона і адпраўляць у бібліятэку. Кожны падабраў сабе неабходную літаратуру, зарэгістраваў у бібліятэцы. Во тады ўжо была жытуха! Якраз перад сесіяй гэта было. Як падрыхтаваўся я па тых падручніках, дык, жартавалі, лепей, як Рыўкінд на лекцыі. На экзамене трапіла мне

самая складаная тэарэма. Я ўсё адказаў, а Якаў Іосіфавіч як засмяецца! Я думаў, што нешта не так. А выкладчык кажа:

— Я рады!

Хачу сказаць пра выкладчыкаў. Якаў Іосіфавіч Рыўкінд выкладаў усе матэматычныя дысцыпліны, Клаўдзія Аляксееўна Акімава — усе фізічныя. У 1945 годзе з фронту прыйшоў Мікіфар Дзмітрыевіч Бяспамятных, вельмі паважаны чалавек, сапраўдны педагог. Яму адвялі пакойчык у старым корпусе. А тады, заўважу, выкладчыкі і студэнты былі калегамі. Мы дапамаглі яму занесці няхітры скарб у пакой, а ён нас потым частаваў салдацкімі сухарамі.

Пачалі прыбываць студэнты-франтавікі. Са мной у пакоі пасяліліся два адметныя чалавекі — Дзмітрый Максімавіч Захарэнка і Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Захарэнка прыйшоў з фронту ў пагонах, у афіцэрскім абмундзіраванні, а Янкоўскі — з партызанаў. У абодвух лёс быў складаны. Захарэнка працаваў пасля загадчыкам кафедры педагогікі, стаў кандыдатам педагагічных навук. Рана, ва ўзросце 55 гадоў, пайшоў з жыцця. А Фёдар Янкоўскі ўдзельнічаў яшчэ ў фінскай вайне, быў там паранены ў плячо, рука яго непрытомна вісела… Меў сям’ю — жонку і дачку. Калі пайшоў у партызаны, нехта выдаў яго блізкіх, іх пакаралі смерцю. У партызанах ён быў начальнікам разведкі. І ў гэтага чалавека пасля вайны хапіла мужнасці і сілы скончыць інстытут, аспірантуру пры Мінскім педагагічным інстытуце, абараніць кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Працаваў да апошняга дня загадчыкам кафедры беларускай філалогіі Мінскага педінстытута. Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, доктар філалагічных навук,

член Саюза пісьменнікаў Беларусі, напісаў больш за 20 кніг. У мяне ёсць бібліятэчка яго работ. Няма ўжо яго ў жывых, пахаваны на Маскоўскіх могілках у Мінску.

А наша пасляваенная маладосць сёння бачыцца так ярка, нібы гэта было ўчора. Помніцца, студэнцкая сталоўка размяшчалася на вуглу вуліц Ажэшкі і Сацыялістычнай — прыкладна там, дзе цяпер будынак аблвыканкама. І вось там у склепе знайшлі нямецкі трафей — запасы фасолі. Тады нас кармілі так: на першае быў суп з фасолі, на другое — гарнір з фасолі з рыбай. Дык тая фасоля так прыелася, што да гэтай пары не люблю яе. А тады мы прызвычаіліся па чарзе варыць суп у пакоі інтэрната. Той, у каго апошняя лекцыя была не настолькі важнай, ішоў раней з заняткаў гатаваць страву. Такога дзяжурнага па пакоі мы жартам называлі «жонкай».

Азіраючыся на пройдзены шлях, я з радасцю адзначаю, што мне пашчасціла вучыцца і працаваць побач з цудоўнымі людзьмі. Вакол мяне заўсёды былі добрыя людзі. Ніхто мяне ніколі не пакрыўдзіў. І ў асабістым жыцці ўсё склалася. Мая жонка Марыя Іванаўна — настаўніца беларускай мовы, філолаг. Дома размаўляем толькі па-беларуску. Маем двух сыноў. Яны — хімікі, жывуць у Мінску, працуюць у БДУ. Шануюць бацькоў. Радуюць і ўнукі. Жыццё працягваецца…

*[2000 г.]*

## ХАЦЕЎ БЫЦЬ ЮРЫСТАМ

У кнізе «Памяць» Валожынскага раёна сярод жыхароў Ракаўскага сельсавета, якія аддалі жыццё ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, значыцца і імя **Рагойшы Івана Іосіфавіча**, майго роднага брата. З набліжэннем юбілейнай даты канца вайны ўсё больш адчуваецца боль раны на сэрцы, нанесенай вайной. І гэты боль ніколі не заціхае, бо не можа сцерціся з памяці вобраз чалавека надзвычай добрай душы і вялікай справядлівасці. Гэтыя рысы характару праяўляліся ў ім ад юнацкіх гадоў да канца яго кароткага — у дваццаць шэсць гадоў — жыцця.

Брат Іван быў старэйшы за мяне на сем гадоў. У вялікай сям'і старэйшыя дзеці дапамагалі бацькам гадаваць малодшых. І як хараша ўспамінаюцца тыя часіны, калі бацькі даручалі Івану даглядаць мяне малога! Каб пацешыць мяне, брат прыносіў кветкі з поля, вырабляў розныя цацкі з паленцаў ці каменьчыкаў. Ну і майстра ён быў! Не было ніводнага выпадку, каб ён на мяне насварыўся ці пакрыўдзіў — была толькі ласка.

Абвостранае пачуццё справядлівасці ў яго характары было закладзена ад нараджэння. Небагатай сямейнай «казной» распараджаўся бацька. Ён размяркоўваў грошы на пакупкі для дзяцей, парадзіўшыся з маткай. Але мы, дзеці (было нас шасцёра), дэлегавалі на гэтую сямейную раду брата Івана. Мы яму цалкам давяралі, ён быў для нас эталонам справядлівасці, бо ніколі не шукаў для сябе карысці.

Настала восень 1939 года — Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР. Юнак Іван падаўся служыць у міліцыю. Тым самым ён праявіў сваю прыродную

схільнасць да парадку і справядлівасці. Службу ў міліцыі пачаў з пасады ўчастковага ўпаўнаважанага ў Ракаве. Відавочна, ён быў першы ўчастковы міліцыянер ва ўжо савецкім Ракаве 1939 года. Потым яго перавялі на такую ж пасаду ў мястэчка Краснае, што пад Маладзечнам. Насельніцтва паважала свайго ўчастковага за яго кампетэнтнасць і непадкупнасць. Пачатак вайны Іван сустрэў ужо ў Гродне — курсантам Рэспубліканскай школы міліцыі. Летнім ранкам 22 чэрвеня 1941 года быў пасланы дзяжурыць на вызначаны аб’ект, а зняць з дзяжурства ўжо не было каму: начальства маланкава эвакуіравалася, забыўшыся пра сваіх падначаленых. Самастойная «эвакуацыя» Івана прывяла яго пад Мінск, які быў ужо заняты немцамі. Прыйшлося вярнуцца ў родныя Пярэжары, да бацькоў, дзе стаў працаваць на гаспадарцы і таемна супрацоўнічаць з партызанамі... Важная дэталь: падчас акупацыі не было ніводнага даносу на былога ўчастковага савецкай міліцыі. Гэта сведчыць пра тое, што не было несправядліва пакрыўджаных ім.

Адыходзячы на фронт у 1944 годзе, Іван казаў: «Аддам «даўгі» немцам, а пасля вывучуся на юрыста». Вайна, гэтая пачвара, на самым пачатку 1945 года недзе ва Усходняй Прусіі назаўсёды пахавала надзею майго дарагога брата набыць, на яго думку, самую справядлівую прафесію — юрыста...

*[2004 г.]*

## СВЕТЛЫ СЛЕД

У вялікай сям'і адносіны паміж дзецьмі звычайна наладжваюцца так, што старэйшыя бяруць на сябе частку бацькоўскай апекі над меншымі. Такі ўклад дае магчымасць бацькам аблегчыць абавязкі па выхаванні дзяцей і больш увагі ўдзяляць здабыванню матэрыяльных даброт для сям'і. Пры добрым сямейным укладзе старэйшыя дзеці ганарацца сваімі абавязкамі, а меншыя заўсёды адчуваюць наяўнасць абаронцаў перад магчымымі крыўдзіцелямі.

Я асабіста меў такіх выхавацеляў-абаронцаў — чатырох старэйшых братоў і сястру. І, вядома ж, сярод іх выдзяляецца найстаршы брат Пётр, якога ў сям'і ўсе ласкава звалі Пеця. На яго долю выпала большая частка бацькоўскіх абавязкаў, і не толькі па выхаванні дзяцей. У нашага бацькі была хранічная язва страўніка, яго мучылі крывавыя ваніты, а з лекаў была адна пітная сода, якую ён пастаянна прымаў. Таму першынец Пеця з ранняга дзяцінства павінен быў і араць, і касіць, і выконваць іншыя цяжкія работы.

Пеця быў чалавекам паэтычнай натуры і вельмі любіў прыроду. Рана ўключыўся ў сельскагаспадарчую працу, таму кантактаў з прыродай хапала. Пра ўсё новае ў прыродзе паведамляў меншым. А мне, наймяншаму, такіх навін выпадала найбольш. Першыя ручайкі з-пад снегу, вясеннія кветачкі, спеў жаўрука, прылёт ластавак і буслоў, кукаванне зязюлі і г. д. — пра ўсё гэта тут жа паведамлялася мне. Пеця вёў штогодна запісы пра такія падзеі, потым іх супастаўляў, імкнучыся выявіць нейкую заканамернасць прыродных з'яў. Напрыклад, па шырыні разліву Іслачы на Гарадзейках вызначаў, калі наступіць

сапраўднае вясенняе цяпло. Прыслухоўваўся ён і да парад і вопыту нашага бацькі, які таксама быў блізкі да прыроды. А колькі цікавых аповедаў пра розныя здарэнні наслухаліся мы ад Пеці! Вось адно, якое ён прывёз з начлегу. У нас была кабыла з жарабём. Аднойчы Пеця разам з вясковымі хлапчукамі пагнаў іх на начлег на іслацкія паплавы. Ноччу некалькі ваўкоў хацелі загрызці жарабя. Але ўсе коні выстраіліся кругам вакол жарабяці ды зубамі, капытамі сталі адбіваць драпежнікаў. Начлежнікі ж распалілі вялікае вогнішча і гарачымі галавешкамі ваўкоў адагналі. Слухаючы такое, мы, малыя, трэсліся ад страху, уяўлялі, як крыважэрныя звяры разрывалі б жарабя, каб не коні ды не начлежнікі на чале з нашым Пецем…

Маючы практыку працы на бацькоўскай гаспадарцы, Пеця пасля вучобы ў звычайнай польскай школе «паўшэхнай» у Ракаве паступіў у сельскагаспадарчую школу («Школу ральнічу») у Лаздунах (цяпер Іўеўскі раён). Гэтая вучэльня была накшталт цяперашняга сельскагаспадарчага тэхнікума — з вялікім дыпламаваным выкладчыцкім калектывам, узорнай вопытнай гаспадаркай з усімі відамі сельскагаспадарчых раслін, рознымі жывёламі, пасекай. Цяга Пеці да зямлі, раслін і жывёл, старанныя адносіны да вучобы выдзялялі яго сярод вучняў. Ён быў выдатнікам, лепшым вучнем Школы. Як выпускніка-выдатніка яго, нягледзячы на праваслаўнае веравызнанне і беларускую нацыянальнасць, пакінулі пры вучэльні асістэнтам прафесара (так пры Польшчы звалі выкладчыкаў не толькі вышэйшых, але і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў). І калі да дырэктара Школы прыехаў багаты землеўласнік, каб узяць на пасаду ўпраўляючага гаспадаркай самага здольнага хлопца,

дырэктар адказаў: «Мы маем аднаго хлопца, за якога нам сорамна не было б, але ён патрэбны і нам самім». Меўся на ўвазе наш Пеця.

Але доўга папрацаваць у Школе Пецю не давялося: настала пара праходзіць тэрміновую вайсковую службу ў польскім войску (служыў у цяжкой артылерыі). Потым нападам на Польшчу 1 верасня 1939 года распачалася Другая сусветная вайна. Давялося ўдзельнічаць у баях з немцамі пад Львовам. А 17 верасня таго ж года савецкія войскі ўвайшлі ў Заходнюю Беларусь. Распад польскай арміі, вяртанне ў Лаздуны…

На базе сельскагаспадарчай школы і суседняга панскага маёнтка арганізуецца ці не першы ва ўсёй тагачаснай даваеннай Заходняй Беларусі калгас (як вядома, на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі калгасы былі ўпершыню створаны ў 1949 годзе). Мясцовы люд, ведаючы Пятра як адукаванага, працавітага і сумленнага чалавека, выбірае яго старшынёй калгаса.

Гітлер, перахітрыўшы Сталіна, 22 чэрвеня 1941 года раптоўна напаў на СССР. Ужо на другі дзень вайны фашысты былі ў Лаздунах. Пеця ледзь вырваўся з іх лапаў іляснымі сцежкамі праз Налібоцкую пушчу таемна дабраўся да Пярэжар. Хаваўся ад ворагаў у бацькоўскай хаце, у лясным схроне, стаў партызанскім сувязным. У Пярэжарах, як і ў іншых вёсках, былі ва ўлады свае асведаміцелі-даносчыкі. Адзін з такіх даносчыкаў (дарэчы, пры Польшчы ён «закладваў» аднавяскоўцаў польскім уладам, пры «тых саветах» — савецкім, а пры немцах — немцам…) данёс на Пецю. Яго арыштавалі, пасадзілі з іншымі арыштаванымі на доўгі абоз і пад вартай паліцэйскіх павезлі ў Вілейку (як потым высветлілася, амаль усіх арыштаваных там і расстралялі). Пеця адчуў,

штó яму пагражае як былому старшыні савецкага калгаса, і ў Гіневічах, калі абоз расцягнуўся ледзь не на кіламетр, раптоўна саскочыў з воза, шуснуў за гумно, потым кінуўся ў блізкі лес. Паліцэйскія спынілі абоз, акружылі дворышча, распачалі стральбу, сталі прачэсваць лес. Але мужнасць, рашучасць, былы вайсковы вопыт перамаглі. Пеця выратаваўся…

Калі савецкія войскі вызвалілі Міншчыну, Пеця ўліўся ў Чырвоную Армію, ваяваў у складзе сапёрных часцей. Пад агнём праціўніка наладжваў водныя пераправы, размініраваў мінныя палі, рэзаў загароджы з калючага дроту і г. д. Бог ратаваў ад смерці. Быў цяжка паранены пры штурме Кёнігсберга. Вызваляў ад фашыстаў Польшчу, Германію. На Эльбе сустрэўся з амерыканскімі войскамі. Узнагароджаны медалямі «За Отвагу», «За взятие Кёнигсберга» і інш.

Пасля дэмабілізацыі з шэрагаў Чырвонай Арміі ў самыя цяжкія пасляваенныя гады працаваў старшынёй Выганіцкага сельскага савета, а ў 1949 годзе ўдзельнічаў у арганізацыі калгаса «Ракаўскі» (раней ён насіў імёны Чкалава, Куйбышава…). Стаў бухгалтарам гэтага калгаса. На гэтай пасадзе дачакаўся пенсіі.

На жаль, пражыў мала. На 72-ым годзе жыццёвыя нягоды і ваенныя раны сказалі сваё слова… На Ракаўскіх праваслаўных могілках на мармуровым помніку пад выявай такога знаёмага вобліку Пеці золатам свецяцца словы: **Рагойша Пётр Іосіфавіч. 12.07.1914–23.10.1985.** А яшчэ ніжэй — багдановічаўскі радок: **Светлы след будзе вечна жывы.**

Будучы ўжо ў сталым веку, маючы сваю сям’ю, я ніколі не забываў у летнія канікулы наведаць пярэжарскую хату, сагрэтую бацькоўскай прыветлівасцю. Прыйшоў

час, і бацькоў не стала. Ды ці можна забыць ракаўскую хату брата Пятра, калі ён узрушана-радасным голасам усклікваў: «Валянціна, Антось прыехаў!»

Успамінаючы ў думках не такі ўжо малы жыццёвы шлях, душа мая спявае ўдзячную песню майму старэйшаму брату Пятру.

*[2002 г.]*

## ВЕК ПРАЖЫЎ ПРЫСТОЙНА

Згодна з тутэйшымі звычаямі, правялі мы ветэрана Грышу Рагойшу ў іншы свет. Мы — гэта значыць родзічы Грышы: брат, сыны, пляменнікі, нявестка, а таксама аднавяскоўцы, якіх у Пярэжарах ужо не так і многа. З тае прычыны, што аднавяскоўцаў ужо мала, яны цясней гуртуюцца ў правядзенні такіх мерапрыемстваў, як пахаванне.

У дзень пахавання і ў саракавы дзень пасля смерці, на сарачыны, святар правіў набажэнствы, і гаспадары сямейства ладзілі памінальныя вячэры. Падчас вячэр, апроч рэлігійных абрадаў, якія выконвалі вясковыя бабулькі, вялікае месца адводзілася ўспамінам пра нябожчыка. Пра памёршага, як кажуць, благое не ўспамінаюць, але ў гэтым выпадку, па агульнаму сцвярджэнню, Грыша век пражыў прыстойна, і ўспаміны аб ім былі толькі добрымі.

А век яго выпаў на самыя цяжкія гады XX стагоддзя: войны, змены акупантаў, змены ўладаў. Царская Расія, бальшавікі, немцы, палякі, саветы, зноў немцы, зноў саветы, нарэшце беларуская незалежнасць… Жыццё Грышы — гэта кавалак цяжкой гісторыі заходняй часткі

Беларусі. Прыйшлося ўдзельнічаць у дзвюх войнах з немцамі. Першы раз у 1939 годзе — на баку польскага войска (якраз служыў тэрміновую службу). Другі раз — на савецка-нямецкім фронце ў 1944–1945 гг. Апошні раз быў цяжка паранены ў галаву. І толькі дзякуючы маскоўскім медыкам (з Інстытута Скліфасоўскага) застаўся пры жыцці.

Якія б улады ні былі, наш бацька стараўся з усіх сілаў прасоўваць сваіх дзяцей у навуку. Пры паляках даступная была толькі сямігодка. Далейшая вучоба ў гімназіях была дарагая і селяніну недаступная. А здольнасці і жаданне вучыцца былі вялікімі. Пасля чатырохгадовага навучання ў Пярэжарскай пачатковай школе Грыша пайшоў у Ракаўскую сямігодку. У дождж і пагоду, у зімовую завею і маразы, кожны дзень пяць кіламетраў туды і пяць назад выхадзіў тры гады юнак, каб здабыць веды. Апрача вучобы, яшчэ былі і хатнія абавязкі: пасвіць кароў, працаваць з канём і інш.

Нягледзячы на складанасці, Грыша быў лепшым вучнем у Ракаўскай школе, пра што сведчыць і такі факт. У той час была традыцыя, што ўсе вучні-католікі кожную нядзелю строем хадзілі ў касцёл на набажэнства. А вёў строй лепшы вучань сёмага класа са школьным штандарам у руках. А тут загвоздка: лепшы вучань — праваслаўны… У іхнім класе класным кіраўніком быў ксёндз, і ён захацеў вырашыць пытанне па справядлівасці. Сказаў Грышу: ты зарабіў права несці школьны штандар, то і нясі яго. Але спытай дазволу ў бацькоў. Бацька нічога благога ў тым, што сын будзе хадзіць у касцёл, не ўбачыў. Нават пашылі хлопцу новы касцюмчык. А бацькі ганарыліся, што з усяго мястэчка не знайшлося дастойнага вучня, каб вадзіць вучняў у касцёл,

і гэта выконваў праваслаўны хлапчук з Пярэжар. І часам бацька возьме палачку і пройдзе ў Ракава ў нядзелю, каб паглядзець збоку, як яго сын горда нясе штандар на чале ўсёй школы.

Ксёндз, класны кіраўнік, не хацеў траціць здольнага хлопца. Ён прапанаваў Грышу вучыцца на ксяндза за кошт касцёла. Бацька, падумаўшы, згадзіўся. Кажа, у нас Бог той самы, а навуку здабываць не пашкодзіць. Але ксёндз запатрабаваў, каб перайшла ў каталіцтва ўся сям'я. Тут бацька не пагадзіўся, убачыў, што здзейсніць нейкую здраду. І цікавы такі факт. Пайшоў бацька да ракаўскага праваслаўнага святара і прапанаваў яму, каб паслалі Грышу вучыцца на тых жа ўмовах, якія прапаноўваў ксёндз, толькі па праваслаўнай лініі. А поп адказаў так: калі бацька селянін, то і сын няхай будзе селянін, калі бацька поп, то і сын хай будзе папом. За такі адказ бацька страціў да яго ўсялякую павагу…

Пры польскай уладзе Грыша скончыў аднагадовы курс сельскагаспадарчай «Школы ральнічай» у Лаздунах (Іўеўскі раён), а пры саветах — два гады педвучылішча ў Маладзечне (1939–1941).

*[2005 г.]*

## НАВУЧАННЕ Ў ГРОДЗЕНСКІМ ПЕДІНСТЫТУЦЕ
*(дакументальныя сведчанні)*

Дырэктару Дзяржаўнага
Педагагічнага Інстытута
ў Гродне Рагойшы Антона
Іосіфавіча, жыхара вёскі
Пярэжары, с/сав. Выганічы,
раён Радашковічы, Вялейская
вобласць,

ЗАЯВА

Прашу прыняць мяне на першы курс фізіка-матэматычнага факультэта Гродзенскага Дзяржаўнага Педагагічнага Інстытута. Я скончыў 3 курсы Настаўніцкай семінарыі ў Вялейцы. Да паступлення ў Педагагічны Інстытут лічу сябе дастаткова падрыхтаваным, таму што на трох курсах семінарыі пройдзены ўсе агульнаадукацыйныя прадметы ў аб'ёме сярэдняй школы. Да паступлення на 2-гі курс семінарыі меў закончаных 8 класаў савецкай сярэдняй школы.

Да заявы прыкладаю:
Аўтабіяграфію,
Дакумент аб адукацыі,
3 фотакарткі.

*17. IX. 1944 г.* *(Подпіс)*

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Я, Рагойша Антон Іосіфавіч, нарадзіўся 25 студзеня 1925 года ў вёсцы Пярэжары Выганіцкага сельсавета, Радашковіцкага раёна, Вялейскай вобласці. Бацькі мае — сталыя жыхары вёскі Пярэжары, паводле сацыяльнага паходжання — сяляне, займаюцца сельскай гаспадаркай на 4 га зямлі. Дзяцінства маё прайшло ў гэтай жа вёсцы, дзе здабыў пачатковую асвету. У 1938/39 навучальным годзе скончыў 6 класаў паўшэхнай школы. Увосень 1939 года, пасля прыходу савецкай улады ў Заходнюю Беларусь, паступіў у 7 клас у Радашковічах і ў 1941 годзе скончыў 8 класаў. Першы год нямецкай акупацыі прабыў дома на гаспадарцы, а ў 1942 г. паступіў на 2-гі курс Настаўніцкай семінарыі ў Вялейцы і ў 1944 годзе скончыў 3 курсы.

Цяпер пражываю у в. Пярэжары. Тры мае браты знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі. Жаданнем маім ёсць здабываць педагагічную адукацыю ў фізіка-матэматычным кірунку.

*17. IX. 1944 г.* *(Подпіс)*

## ВЕСТКІ
## АБ ПАВОДЗІНАХ І ПОСЬПЕХАХ ВУЧНЯЎ ВЯЛЕЙСКАЕ НАСТАЎНІЦКАЕ СЭМІНАРЫІ

Вучань трэцяе клясы *Антон Рагойша* пры *вельмі добрых* паводзінах выявіў за *1943/44* навучальны год наступныя посьпехі:

Беларуская мова: вусная — *вельмі добра*, пісьмовая — *добра*;

Каліграфія з мэтодыкай — *вельмі добра*;

Беларуская літаратура — *вельмі добра*;

Нямецкая мова — *добра*;

Пэдагогіка — *добра*;

Псыхалёгія — *добра*;

Арытмэтыка — *добра*;

Альгебра — *вельмі добра*;

Геамэтрыя — *вельмі добра*;

Трыганамэтрыя — *добра*;

Мэтодыка матэматыкі — *добра*;

Фізыка з мэтодыкай — *вельмі добра*;

Хімія — *добра*;

Батаніка — *вельмі добра*;

Біялёгія — *вельмі добра;*

Агульная гісторыя з мэтодыкай — *вельмі добра*;

Ручная праца — *вельмі добра*;

Геаграфія з мэтодыкай — *вельмі добра*;

Рысаванне з мэтодыкай — *вельмі добра*;

Сьпевы з мэтодыкай — *добра*;

Фізічнае ўзгадаваньне з мэтодыкай — *вельмі добра*.

На падставе гэтых посьпехаў вучань *Рагойша Антон* пераводзіцца ў *IV* клясу.

Дырэктар *(подпіс)*

Клясны кіраўнік *(подпіс)*

## ВЫПИСКА ИЗ ЗАЧЕТНОЙ КНИЖКИ
## (без диплома недействительна)

Тов. РАГОЙША Антон Иосифович за время пребывания в Гродненском педагогическом институте сдал экзамены по следующим дисциплинам:

Математический анализ — удовлетворительно;
Общая физика — удовлетворительно;
Аналитическая геометрия — отлично;
Спецкурс элементарной математики — зачет;
Основы марксизма-ленинизма — хорошо;
Высшая алгебра — отлично;
Психология — хорошо;
Иностранный язык — отлично;
Педагогика — хорошо;
Дифференциальная геометрия — отлично;
Школьная гигиена — зачет;
Теоретическая механика — отлично;
Политэкономия — отлично;
Астрономия (с методикой преподавания) — хорошо;
История педагогики — отлично;
Методика преподавания математики, физики — отлично;
Педпрактика — зачет;
Теоретическая физика — отлично;
Спецкурс по физике атомного ядра — зачет;
Физическое воспитание — зачет;
Черчение — зачет;
Военное дело — зачет.

## ХАРАКТЕРИСТИКА

РАГОЙША Антон Иосифович, 1925 года рождения, белорус, из крестьян Гродненской области, комсомолец с 1945 года. Прибыл в Гродненский Госпединститут на 1-й курс физмата в 1944 году в декабре месяце. При временной немецкой оккупации учился в немецкой семинарии. В институте 4 года учился «хорошо» и «отлично», имеет благодарности за хорошую и отличную учебу. Имеет математические способности. Принимал участие в научных математических студенческих кружках. На педпрактике показал себя добросовестным и требовательным к себе педагогом.

Рагойша А. И. вполне справится с работой в педучилище, в специальной технической школе и в СШ по математике. Дисциплинирован, хороший член коллектива. Политически развит достаточно.

Директор Гродненского
Государственного пединститута

*(Подпіс) /Власовец/*



# З УСПАМІНАЎ ПРА АНТОСЯ РАГОЙШУ

*Антось Ал. РАГОЙША*

## МОЙ ДЗЯДУЛЯ

### ШТО МНЕ ЗАПОМНІЛАСЯ

Мой першы ўспамін пра дзядулю? Мабыць, дакладна не скажу. Але адны з самых першых маіх жыццёвых згадак скіраваны на гэтага чалавека. Маё жыццё было неадрыўна звязана з дзядулем, і калі яго не стала, то не стала і часткі мяне.

Раней наўрад я задумваўся аб смерці. Гэтая тэма была недзе далёка ў глыбіні маёй падсвядомасці. Калі дзядуля захварэў, то я не мог нават уявіць, чым можа скончыцца гэтая хвароба. Мне здавалася, што смерць немагчымая.

Больш дзесяці гадоў назад, калі яму рабілі аперацыю, у мяне і тады думкі не было, што можа здарыцца. Цяпер я ўжо гляджу на свет па-іншаму. Нібыта нешта ўнутры мяне змянілася адразу і беспаваротна.

Для мяне дзядуля, як і бацька, з’яўляюцца тымі ідэаламі людзей, падобным да якіх трэба імкнуцца стаць. Дзед стаў для мяне другім бацькам.

Некалі, у часы майго дзяцінства, я ўспрымаў Антося Рагойшу толькі як свайго дзеда. Жыццё цягнулася павольна і без моцных зменаў. Быў адзін момант, калі я падумаў, што жыццё можа кардынальна змяніцца. Справа была ў Гродне. Я, дзядуля і бабуля ехалі дахаты з дачы. І тут раптам выскачыў нейкі чалавек на дарогу. Далей было сутыкненне нашай машыны з тым чалавекам. Як мяне ні суцяшала бабуля ў машыне, аднак пакуль дзед разбіраўся з пацярпелым (той аказаўся п’яным, які толькі-толькі выйшаў датэрмінова з турмы і добра «адсвяткаваў» сваю волю), я плакаў і думаў аб тым, што дзеда могуць пасадзіць у турму.

Памятаю, як смяшыла дзядулю, калі ён успамінаў, як мяне вучылі беларускай мове. Дома ў Мінску я размаўляў і размаўляю з бацькам на роднай мове, а з маці — па-руску. Такое «гендэрнае» двухмоўе моцна засела ў маёй галаве. І дзядулю вялікіх намаганняў каштавала пераканаць мяне, што не з усімі жанчынамі я павінен гаварыць па-руску, што з бабуляй, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, можна і трэба гутарыць па-беларуску.

Цяпер смешна ўспамінаць, як для мяне куплялі на лецішчы трусікаў і куранятак, і толькі для таго, каб пацешыць мяне малога. Час, праведзены на гродзенскім лецішчы, — адзін з самых светлых адрэзкаў майго жыцця.

Я памятаю, як мой дзядуля рамантаваў мой веласіпед. Той быў у такім дрэнным стане, што не толькі не хапала многіх дэталяў, але і месцаў, куды мацаваць тыя дэталі. Рамонт дзядулю каштаваў многіх клопатаў і сродкаў, але ў яго нават і думкі не было, што я магу застацца без ровара.

Дзядуля любіў жывёл, моцна любіў. З якою пяшчотаю ён расказваў пра сваю маладосць у Пярэжарах! Пра тое,

як пасвіў скаціну, будучы зусім хлапчуком. У Тарусічах (гродзенскае лецішча) заўсёды былі шпакоўні, дзе нярэдка сяліліся вавёркі. Помню, як дзед цешыўся, калі вавёркі выскоквалі радаснай чародкай са свайго новага жытла і нібыта дзякавалі нам за яго. А як ён хацеў завесці коніка ці бычэчка ў Ракаве! Памятаю, як дзядуля любіў наглядаць, як лятаюць вакол ганку птушачкі. Было адчуванне, нібы яны разумелі дзеда, таму і лятaлі вакол яго. Тады ён клікаў мяне і бабулю: «Антось, Маня! Хадзіце, пaглядзіце на птушачак!»

Чым большы я рос, тым больш шырылася кола якасцяў, якія я цаніў у прадметах, людзях, што акружалі мяне. «Што такое лёс?» — гэтае пытанне вельмі мяне хвалявала. У той час я паглядзеў на дзядулю па-іншаму. Перада мною паўстаў не проста мой дзед, а моцная асоба з неверагодна цікавым мінулым. У яго было вельмі складанае дзяцінства. Наўрад цяпер знойдуцца дзеці, якія б захацелі пехам ісці ў школу за пяць кіламетраў. Сям'я — вельмі важны фактар у станаўленні чалавека, але ж не вызначальны. Дзядулева сям'я была вельмі добрая, але ж усё-такі тое, чаго ён дасягнуў — найперш заслуга яго розуму, вытрыманасці і ўпартасці. Нягледзячы на тыя складаныя умовы, на якія прыйшлося яго дзяцінства, ён стаў надзвычай добрым і чалавечным. Той, хто апраўдвае сваю жорсткасць дрэнным лёсам, — не хоча прызнаваць свае недахопы.

Дзядуля расказваў мне пра тое, як некалькі разоў падчас вайны ледзь не апынуўся не толькі ў кіпцюрах фашыстаў, але і ў пашчах ваўкоў. Аднак лёс выратаваў яго і аберагаў на працягу многіх гадоў.

Дзядуля заўсёды быў патрыётам нашай Бацькаўшчыны. Я пра гэта ведаў, але шырэй я зразумеў дзядулю толькі тады, калі падрос.

У дзядулі была мара — мара аб вольнай Беларусі. Падчас існавання Савецкага Саюза і панавання варожасці і адмоўнага стаўлення да беларускасці яму было нялёгка. Канешне, супраціў антыбеларускасці не мог быць актыўным — ён быў пасіўны. Дзядуля пранёс праз усе свае свядомыя гады шчырую, сапраўдную любоў да Беларусі. Пранёс праз той час, калі сапраўдны патрыятызм мог стаць прычынай пераследу з боку ўлады.

Дзед расказваў пра хлопца, які вучыўся ў яго на факультэце. Хлопец быў каталікам. Адно гэта рабіла для яго цяжкасці пры заканчэнні ВНУ. Дзядулю ўдалося абараніць хлопца.

Я магу толькі здагадвацца, як дзед радаваўся 27 ліпеня 1990 года, калі Беларусь абʼявіла аб сваёй незалежнасці. Ён ішоў да гэтай мары доўгія-доўгія гады.

Дзядуля запомніўся мне вельмі спакойным чалавекам. Я не памятаю ніводнага выпадку, каб ён губляў кантроль над сабою. Усе праблемы, што паўставалі перад ім, дзед спакойна, грунтоўна абдумваў і прымаў заўсёды правільнае рашэнне.

Калі я падрос, то пазнаў дагэтуль не вядомы мне адрэзак дзедавага жыцця. Адбылося гэта, калі мы колькі гадоў таму назад паехалі ў Вілейку да дзядулевых сяброў і аднакурснікаў па семінарыі. Гэта была вельмі цікавая сустрэча. Ягоныя сябры аказаліся ветлівымі і шчырымі людзмі. Цяпер я магу меркаваць, як паўплывала на жыццё дзеда вучоба ў семінарыі. Яна развіла ў навучэнцаў пачуццё патрыятызму, сапраўднага патрыятызму. Гэтаму асабліва пасадзейнічалі іхнія настаўнікі. Сустрэча якраз і арганізоўвалася з нагоды ўшанавання памяці аднаго з настаўнікаў. Да таго часу дзядуля не расказваў мне пра вучобу ў семінарыі, бо я не быў гатовы зразумець праўду:

вучоба ж у семінарыі ішла падчас Другой сусветнай вайны. Вучоба ў семінарыі, апрача іншага, ратавала маладых беларускіх хлопцаў і дзяўчат ад вывазу ў Германію на прымусовую працу.

Пасля вызвалення Беларусі дзядулю спрабавалі пераследаваць за вучобу ў семінарыі. Асноўным рэчавым доказам той вучобы павінна была стаць агульная фатаграфія навучэнцаў-аднакурснікаў. На фатаграфіі, аднак, дзеда не аказалася, бо ён адсутнічаў у Вілейскай семінарыі, калі рабіўся той здымак. Гэты факт моцна паўплываў не толькі на яго лёс, але і на лёс ягоных нашчадкаў. Нас магло і не быць, бо дзядулю маглі адправіць, як і большасць ягоных аднакурснікаў, у Сібір гадоў на дзесяць. Усіх навучэнцаў семінарыі пасля смерці Сталіна рэабілітавалі, але многія не дажылі да той рэабілітацыі. Увогуле, пытанне аб калабарацыі вельмі складанае. Спрэчкі аб ёй будуць весціся яшчэ доўга, але трэба памятаць, што паміж перакрыжаваным агнём апынуліся лёсы звычайных, ні ў чым непавінных людзей…

На мой погляд, калі дзядуля, будучы старым чалавекам, азірнуўся назад і паглядзеў на свой жыццёвы шлях, ён не пашкадаваў ні аб чым. І каб яму надарылася яшчэ адна магчымасць пабыць на гэтым свеце, то дзед пражыў бы жыццё гэтак жа годна. Мабыць, у гэтым і ёсць сэнс жыцця. Калі так, то дзядуля дасягнуў яго.

Я веру, што дзядулева душа стала конікам. Цяпер ён жыве ў тым краі, дзе няма нічога злога. Зоркі — вялікія і яркія — асвятляюць, як днём, вольныя бяскрайнія лугі. І ў ранішняй расе адлюстроўваецца ўсё неба. А гэты конік з распушчанай касматай грывай імкнецца наперад, насустрач світанку.

## ШТО РАСКАЗАЛА БАБУЛЯ

Бабуля расказвала, як яна пазнаёмілася з дзядулем. Так здарылася, што ёй давялося стаяць у чарзе па хлеб побач з прыгожым невысокім хлопцам. Бабуля прыгадвала: «Стаіць у чарзе, глядзіць на мяне нейкі незнаёмы хлопец. Хто ён, і чаго так глядзіць? Проста вочы вытарашчыў…» Расказала пра яго сваім сяброўкам па інтэрнаце. А тыя аказаліся аднакурснікамі дзядулі па педагагічным інстытуце. Так яны і пазнаёміліся.

Дзядуля неяк з хлопцамі прабраліся ноччу на гарышча інтэрната і сталі шоргаць нагамі па стале над пакоем дзяўчат. Гэта ўсіх дзяўчат вельмі напалохала. Пазней «гукі нячысцікаў» разгадалі. Асабліва гэтая выхадка не спадабалася бабулі, якая заўсёды старалася трымацца далей ад «баламутаў-весельчакоў». Пакрыўдзілася яна на хлопцаў, у тым ліку і на дзядулю. Але пасля іх узаемаадносіны наладзіліся. Спачатку гэта былі проста размовы двух людзей. Потым знаёмства перайшло ў блізкую дружбу. Яны пачалі сустракацца…

Дзядуля з бабуляй сустракаліся доўга, прыкладна тры-чатыры гады. Усё ішло да шлюбу. Але паколькі ім, як камсамольцам, было забаронена вянчацца, то яны вырашылі проста распісацца і абысціся без вяселля. Пасля роспісу прыехалі на бабуліну радзіму, на хутар Будраўцы, расказалі пра ўсё бацькам. Бабулін бацька запрычытаў: «А-я-ёй! Як жа так? Нам не сказалі — распісаліся. Што ж рабіць?» Забедаваў, аж галаву апусціў. Тут бабулін дзед Пётра і кажа: «Як што рабіць? Бяжы па гарэлку хутчэй — баляваць будзем!» Так сям’я даведалася пра шлюб дзядулі і бабулі.

У сумесным жыцці бабулі і дзядулі былі і смешныя выпадкі.

Аднойчы дзядуля рашыў адзін без папярэджання наведаць бацькоў бабулі на іхняй хутаранскай сядзібе. Вечарэла, калі ён набліжаўся да хутара. А ў гэты ж час бабулін бацька разам з дзедам гналі самагон. Убачылі на гарызонце нейкага чалавека і, не разгледзеўшы ў прыцемку, хто гэта, хуценька вылілі ў роў бочку брагі і каністру самагону. Падумалі, што гэта міліцыянер ідзе. Як потым бедаваў бабулін бацька пра страчанае! Нават пачаставаць дзядулю не было чым…

Дзядуля вельмі падабаўся бацькам бабулі, асабліва яе дзеду Пятру. Той ужо быў вельмі стары чалавек. Неяк сядзеў і чакаў дзядулю ў госці: «Дзе ж Антось? Павінен прыехаць!» Так ён сядзеў да глыбокага вечара. А потым пайшоў спаць. Ноччу яго не стала…

## З ТАТАВЫХ АПОВЕДАЎ

Сям'я, у якой нарадзіўся дзядуля, хаця і была сялянская, ды зусім не тыповая для вёскі. Бацька дзядулі Юзя карыстаўся вялікім аўтарытэтам у вёсцы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года пачалася дэмакратызацыя грамадства, адбыліся выбары ў мясцовыя органы ўлады. У Пярэжарах Юзю Рагойшу выбралі дэпутатам Ракаўскага валаснога савета — першага ўзроўню самакіравання. У тыя часы выбары ў вышэйшыя ступені ўлады былі не прамыя. У Ракаве валасны савет абраў дзеда Юзю прадстаўніком ад ракаўскай акругі ў павятовы савет у Заслаўе. Юзя Рагойша, відаць, быў актыўны, зарэкамендаваў сябе добра і ў Заслаўі, і яго выбралі ад павета ў губернскі Мінск. У губернскім савеце ён

працаваў у якасці сакратара-казначэя. Час мяняўся, перавезці сям'ю ў Мінск дзед не мог, бо там панаваў голад. Таму, калі ўсталявалася дзяржаўная польска-савецкая мяжа якраз паміж Пярэжарамі і Мінскам, дзед вярнуўся да сям'і. У Пярэжарах пачаў гаспадарыць. Потым ён шкадаваў, што не застаўся ў стольным Мінску, казаў жонцы:

— Вось былі б у Мінску — праблем бы не ведалі.

Але потым, як пачаліся ў Савецкім Саюзе рэпрэсіі 1930-ых гадоў, жонка Ганна пацвельвалася:

— О! Былі б у Мінску, то столькі праблем нажыліся б!

Гаспадарка была невялікая, дзяцей шмат, таму першыя гады пасля вяртання з Мінска было цяжкавата. З цягам часу сыны падрасталі, і Юзя Рагойша змог добра наладзіць гаспадарку. Яна стала паказальнай у Пярэжарах. Таму калі аднавяскоўцы ўбачылі яго гаспадаранне, яго розум, то заўсёды прыслухоўваліся да яго парад. Афіцыйных пасад ён не займаў, а быў у вёсцы своеасаблівым неафіцыйным «шэрым кардыналам». Нават калі ў 1939 годзе прыйшлі бальшавікі, а гаспадарка Юзі ўжо адносілася да серадняцкай, то калі трэба было стварыць мясцовае самакіраванне з тутэйшых жыхароў, вёска аднагалосна выбрала якраз дзеда Юзю. Самае цікавае — пасада называлася «старшыня камітэта беднякоў». Серадняк, прадстаўнік класа, які ў Савецкім Саюзе лічыўся нядобранадзейным, быў пастаўлены кіраваць і выконваў адміністрацыйныя функцыі ў вёсцы.

Другое, на што хацелася б звярнуць увагу, калі згадаць тую атмасферу, у якой раслі дзядуля, яго браты і сястра, — гэта павага да ведаў. Усе пяцёра сыноў і

дачка Юзі Рагойшы вучыліся ў школе. Дачка Надзя закончыла Пярэжарскую пачатковую школу і, першая дзяўчынка з вёскі, пайшла ў Ракаўскую сямігодку. Праз Ракаўскую сямігодку прайшлі ўсе сыны Юзі Рагойшы. Зарэкамендавалі сябе выдатным чынам. Дзядуля, у прыватнасці, упамінаў, што дзядзька Грыша быў настолькі добрым вучнем, што падчас каталіцкіх святаў нёс штандар школы. Праваслаўнаму даверылі несці гэты штандар, што было тады нечувана, і толькі з-за таго, што ён быў найлепшым вучнем школы. У першым беларускім музычным рэпе ёсць персанаж «настаўнік Рагойша». Не, такога настаўніка Рагойшы ў той час у Ракаве не было. Былі вучні. Але мог бы быць і настаўнік! Як паказаў час, з гэтай сям'і выйшлі не толькі настаўнікі сярэдніх школ, але і выкладчыкі універсітэтаў. Так што «настаўнік Рагойша» — зусім тыповы для свайго часу мастацкі вобраз…

Прайшлі гады, і дзядуля скончыў Пярэжарскую школу, прадоўжыў навучанне ў Ракаве. І вось ён кожны дзень пяць кіламетраў туды і пяць кіламетраў назад ішоў з цёцяй Надзяй і іншымі пярэжарскімі дзецьмі ў Ракаўскую сямігодку. І гэтак вясной і зімой, у дождж і мяцеліцу. Пропускі заняткаў здараліся, канешне, але не часта. Яны былі з-за гаспадарчых спраў і ніяк не паўплывалі на якасць вучобы.

1939 год дзядулю запомніўся тым, што ён вызваліў яго ад галоўнага абавязку — пасвіць кароў. У верасні, калі савецкія войскі ўступілі на тэрыторыю Заходняй Беларусі, сяляне адразу зразумелі, што настаў канец панскаму панаванню. І вяскоўцы адразу пусцілі свой статак на панскую сырадэлю. Рагойшы свае каровы ў агульны статак да таго часу не пускалі, пасвілі іх асобна, на тых

мясцінах, дзе трава была лепшая. А тут дзядуля ўбачыў, што вясковыя каровы пасуцца на панскім полі. Тады ён пабег да свайго бацькі:

— Тата, там вёска пусціла на панскае поле!

Бацька Юзя паслухаў дый кажа:

— Ну добра, сынку, далучай нашых кароў да статка, толькі паглядзі, каб нашыя каровы не біліся з астатнім статкам.

Шчаслівы дзядуля пагнаў сваіх кароў да статка. Спыніўся паглядзець, каб яны не біліся. Ды дзе там будуць біцца, калі сырадэля такая ўежная! Адна на адну ўвагі не звяртаюць. І з таго часу Рагойшавы каровы пайшлі пасвіцца з вясковымі. Саветы, як аказалася, вызвалілі дзеда ад пастуховай працы. Дзед Антось з сябрамі пабег адразу на шашу. Там у бок Івенца ішлі чырвонаармейцы, ехалі машыны, грукаталі танкі, трактары цягнулі бочкі з бензінам. Тэхніка была нечуванай, бо ў Польшчы не было такой тэхнікі. Дзеці так ўвесь дзень і прастаялі.

1939 год. Прыход Чырвонай Арміі ўспрынялі з вялікай радасцю, бо нацярпеліся ад палякаў. І ў 1939 годзе ўсе Рагойшы пайшлі ў навуку. Яшчэ пры Польшчы пайшлі вучыцца далей за сямігадовую школу дзядзька Пецця і дзядзька Грыша. Адзінае, дзе яны тады змаглі вучыцца, — сельскагаспадарчая школа. Дзядзьку Пецю, як лепшага вучня, пакінулі ў сельскагаспадарчай школе ў Лаздунах на працу. І калі ў 1939-ым прыйшлі «тыя саветы» і польскае кіраўніцтва разбеглася, дзядзьку Пецю паставілі кіраўніком калгаса, што быў арганізаваны на базе той школы. Дзядзька Іван паехаў вучыцца ў школу міліцыі ў Гродне. Пазней ён захоплена расказваў пра гэты горад у сям'і, і гэта моцна паўплывала на тое, што

дзядуля Антось пасля вайны аказаўся ў Гродзенскім педінстытуце. Адзін час дзядзька Іван працаваў участковым міліцыянерам у Ракаве. І ён настолькі быў сумленным міліцыянерам, што падчас нямецкай акупацыі не знайшлося ніводнага чалавека ні ў Пярэжарах, ні ў Ракаве, хто б выдаў яго, падказаў немцам, што тут жыве былы савецкі міліцыянер. Гэта найлепей кажа аб яго справядлівасці.

У 1939 годзе дзядуля атрымаў няпоўную сярэднюю адукацыю. Потым, у час вайны, ён вучыўся ў Вілейскай настаўніцкай семінарыі. Закончыў два курсы. Наступіў 1944 год. Усе старэйшыя браты былі мабілізаваны на фронт, акрамя дзядзькі Косці, які быў настаўнікам, — настаўнікаў катастрафічна не хапала. Дзядуля займаўся гаспадаркай з сваім бацькам. Здароўе ў бацькі Юзі было кепскае — язва страўніка, якую лячыць тады не ўмелі. Вучыцца хацелася, дый бацька схіляў, каб прадоўжыў навучанне. Але ў час не змог здаць дакументы ў ВНУ — не далі справы па гаспадарцы (трэба было жаць жыта і інш.). Прыехаў у Мінск толькі ў верасні, хацеў падавацца ў медінстытут, бо гэта была яго першапачатковая мара. Прыехаў — прыём скончаны, месцы занятыя. Ішоў па горадзе, купіў «Звязду», а там аб'ява: Гродзенскі педінстытут аб'яўляе дадатковы набор студэнтаў, ды яшчэ абяцаецца інтэрнат, трохразовае харчаванне. Што такое Гродна, дзед наслухаўся ад брата Івана, а тут трохразовая ежа, інтэрнат — фактары ў тых абставінах рашаючыя. І ён паслаў дакументы ў Гродна па пошце. Дакументы прынялі, прыслалі выклік. Выклік быў патрэбны, бо Гродна было прыфрантавой зонай, і на ўезд патрэбен быў дазвол улад. Прапусцілі на вучобу. Прыехаў наш дзядуля ў Гродна, зайшоў у інстытут. Прызначылі

яму экзамены. Кажуць, ідзі да таго выкладчыка, хай цябе паслухае, да другога, дыктоўку напісаў. Увогуле, экзамены здаў добра, адзінае што — парэкамендавалі падцягнуць матэматыку, бо не хапала ведаў па ёй, паколькі не паспеў вывучыць усю праграму за курс сярэдняй школы. Таму залічылі, але ўмоўна. Прабел у матэматыцы патрэбна было ліквідаваць. І цэлы месяц дзядуля са стопкай бібліятэчных кніг ішоў у якую-небудзь аўдыторыю, чытаў, вучыў і вучыў. За месяц вывучыў тое, што ў школе праходзілі за цэлы апошні год. Папярэднія раздзелы, што вывучаліся раней, яму нават не прыходзілася паўтараць — так добра ведаў. Па нававывучанаму матэрыялу прызначылі яму паўторны экзамен. На гэтым экзамене адказаў так, што выкладчык запомніў яго на ўсё жыццё. Праз чатырнаццаць гадоў пасля тога экзамена дзед Антось сустрэўся з ім, і той выкладчык гаварыў пра дзеда як пра вельмі абазнанага ў матэматыцы.

Далі месца ў інтэрнаце. Інтэрнат уяўляў сабою частку інстытута, якая была адведзена для жылля, а другая частка засталася як вучэбная. Цяпер гэты корпус стаіць на вуліцы Ажэшкі. У старэйшай яго частцы некалі была польская гімназія. Жылі яны там у велізарным пакоі — многа людзей. Трохразавая ежа аказалася больш рэкламай, але ў сталовай нешта есці давалі. Давалі, галоўнае, хлеб, які быў вялікім дэфіцытам у той час. Выкручваліся неяк, неяк жылі. Хлеб на рынку абменьвалі на іншыя прадукты.

У Гродне пайшла выдатная вучоба. Пасля заканчэння вучобы ён хацеў паступаць у аспірантуру, якая была ў Мінску. Усе дадзеныя для гэтага былі, але накіраванне яму не далі, бо ў гэты час улады прычапіліся да ягонага

брата, у той час студэнта-завочніка філалагічнага факультэта таго ж Гродзенскага педінстытута, — арыштавалі дзядзьку Косцю. Дзядулю прапанавалі ісці працаваць настаўнікам. Накіравалі ў раённы цэнтр Масты. І вось там з 1948 да 1950 года ён настаўнічаў. Дзед расказваў, што быў строгім настаўнікам. На той час праводзіліся выпускныя экзамены ў кожным класе. І настаўнікі хацелі, каб вучні ведалі прадмет, а не проста каб атрымлівалі высокія адзнакі. Калі праходзіў выпускны экзаменацыйны пісьмовы экзамен, прыходзіў інспектар з РАНА. І вось дзед садзіў інспектара ў адзін кут аўдыторыі, а сам садзіўся ў другі. Так яны па дыяганалі глядзелі, каб ніхто не спісаў. Дзякуючы гэтаму вучні атрымлівалі не самыя высокія адзнакі, але веды іх былі такія, што адкрывалі ўсюды дарогу, прынамсі ў матэматыцы. Асобныя вучні, ужо тады, калі дзед працаваў у Гродне, прыязджалі да яго з Мастоў і з наступнага месца працы — з Ражанкі, і дзякавалі за веды па матэматыцы.

У час працы ў Мастах дзед ажаніўся з нашай бабуляй. Былі складанасці ў бытавым плане. А тут прапанавалі пераехаць бліжэй да бабулінай радзімы, у Ражанку, што за сем кіламетраў ад яе родных Будраўцаў. У Ражанцы ім абодвум прапанавалі месца ў адной школе. Дзед выкладаў матэматыку, бабуля — беларускую мову і літаратуру. Далі ім вялікі пакой. Праўда, на цяперашні погляд, ці хто жыў бы ў той хаце, якую ім далі, — такая яна была старая і нядобраўпарадкаваная. Яны ў Ражанцы пражылі восем гадоў, да 1958 года. Спачатку жылі на кватэры, а потым далі месца ў школьным доме.

Хацелася дзядулю вучыцца далей. Пасля смерці Сталіна і вызвалення дзядзькі Косці з турмы ў дзеда

Антося нарэшце з’явілася магчымасць зноў вучыцца далей. Паехаў ён у Мінск, прынялі ў аспірантуру, і тры гады ён правучыўся ў Мінску. Бабуля прадаўжала працаваць у Ражанцы з двума дзецьмі — цяжка было, канешне. Тры гады правёў дзядуля ў аспірантуры ў Мінску. Пасля заканчэння аспірантуры яго накіравалі ў Гродна. Прыехаў у Гродна, перавёз сям’ю з Ражанкі. Тут маладога спецыяліста заўважылі. Атрымалася так, што заўважылі не толькі ягоныя выкладчыцкія здольнасці, а і здольнасці адміністрацыйныя. Арганізоўваўся новы факультэт — педагогікі і методыкі пачатковага навучання. Спачатку яму даручылі на грамадскіх пачатках арганізацыю гэтага факультэта. Потым, як стварыўся факультэт, прызначылі дэканам, і зноў жа на грамадскіх пачатках. Калі набралі другі курс, дзед стаў дэканам афіцыйна. З часам з’явіўся і намеснік дэкана, добры, кваліфікаваны. Дзед яго навучыў, перадаў досвед кіравання, а потым і функцыі. Такім чынам, дзядуля прапрацаваў дэканам з 1960 па 1975 год, ледзь не да пенсійнага ўзросту.

Дзед таксама быў нязменным старшынёй прафкама Гродзенскага педінстытута, а потым — Гродзенскага універсітэта. Тое, што гэта быў аўтарытэтны кіраўнік, — несумненна, таму што не проста такі доўгі час пратрымацца на высокай пасадзе пры розных рэктарах ды структурах: інстытут, потым універсітэт. Студэнты да гэтага часу вельмі добра памятаюць яго. Дзед чытаў лекцыі не толькі на сваім факультэце, але і на фізічным. Студэнты вельмі любілі яго. Цікавы факт. Выпускны вечар факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання. Студэнты цэлую ноч ходзяць па горадзе. Дэкан ходзіць з імі разам. Раніцай праводзяць дэкана дахаты,

і студэнты пад вокнамі гродзенскага дома па вуліцы Ажэшкі, 33 спяваюць песні дэкану. Ці ж такое часта можна ўбачыць, пачуць?..

Сваю асноўную працу дзядуля заўсёды выконваў па вышэйшаму рахунку. Ва універсітэце адсвяткаваў сваё сямідзесяцігоддзе. А ў семдзесят тры пакінуў гэтую працу, пайшоў на заслужаны адпачынак...



# КАМЕНТАР

Кніга «Нам сняцца сны пра Беларусь» падрыхтавана, за невялікім выключэннем, на падставе друкаваных і архіўных крыніц.

## Кастусь Рагойша

**Вячаслаў Рагойша. Дзядзька Косця.** — Упершыню — «Ракаўскі шлях». — 2006. — № 5–6 (31–32). — С. 2.

### В е р ш ы

Вершы Кастуся Рагойшы перадрукоўваюцца з наступных выданняў:

**«…Пад пакацістай гарою»** — часопіс «Шлях моладзі» (Вільня). — 1938. — № 19. — 25 верасня. — С. 5. Верш надрукаваны беларускай лацінкай. Гэта — першы з вядомых друкаваных твораў К. Рагойшы. Напісаны ён, верагодна, не пазней за ліпень 1938 г., паколькі ў «Паштовай скрынцы» часопіса за 25 ліпеня таго года чытаем: «**К. Рагойшу**. Матэрыялы атрымалі, дзякуем. Будзем старацца выдрукаваць». У тым жа нумары часопіса, дзе змешчаны верш, на стар. 8 у «Паштовай скрынцы» паведамленне: «**К. Рагойшу**. Падпіска аплачана за ўвесь год. Усе нумары высылаем. Вершы будзем друкаваць, бо ўжо прыйшла Вашая калейка. Ліст «Ch. D.» перадалі. Прывітанне!»

**«Граніты»** — «Шлях моладзі». — 1938. — № 23. — 8 лістапада. — С. 5. Верш надрукаваны беларускай лацінкай.

**«Загудзелі калаўроты»** — «Шлях беларускага студэнта: Месячны дадатак да «Шляху моладзі». — № 1 (5). Вільня, студзень 1939 г. — С. 9. Верш надрукаваны беларускай лацінкай.

Другая і чацвёртая строфы адноўлены паводле рукапісу твора, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН РБ імя Якуба Коласа (Фонд 23, воп. 1, адз. зах. 431, л. 2 адв.). У тым жа нумары выдання на с. 12 у «Паштовай скрынцы» паведамленне: «**К. Рагойшу**. Вершы і пісьмо атрымалі. Дзякуем. Будзем пакрысе друкаваць. У справе недаручання «Шляху моладзі» ўсё ж падалі скаргу ў Дырэкцыю поштаў. Усе нумары, якія прасілі, былі высланы паўторна, але, відаць, і іх Вам не аддалі. Прывітанне!»

**«Зіма»** — Верш друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН РБ імя Якуба Коласа (Фонд 23, воп.1, адз. зах. 431, л. 1).

Публікацыі К. Рагойшы ў раённай газеце «Чырвоны сцяг» (Маладзечна):

**«Мінулае»** (Верш). — 1939. — 21 ліст. — С. 3.

**«Нёман», «Старонка родная мая»** (Вершы). — 1939. — 28 ліст. — С. 4.

**«Ленін»** (Верш). — 1940. — 21 студзеня. — С. 4.

**«Нашаму кандыдату т. Бярнацкаму»** (Верш). — 1940. — 21 сак. — С.3.

**«Мае мары збыліся»** (Допіс). — 1940. — 6 ліпеня. — С. 3.

**«17 верасня»** (Верш). — 1940. — 17 верасня. — С. 3.

**«Вечар, прысвечаны 4-ай гадавіне Сталінскай Канстытуцыі»** (Допіс). — 1940. — 11 снежня. — С. 3.

**«Зробім краіну пышным садам»** (Верш). — 1941. — 23 сак. — С. 3.

**«Захапляецца сэрца прыволлем»** (Верш). — 1941. — 18 мая. — С. 2.

**«Іспыты ў Лебядзёўскай НСШ»** (Допіс). — 1941. — 28 мая. — С. 1.

**«Грунтоўныя веды па фізіцы»** (Допіс). — 1941. — 30 мая. — С. 2.

**«Асушым балоты»** (Верш). — 1941. — 8 чэрвеня. — С. 3.

**«Кіраваць меліярацыйнымі работамі»** (Допіс).— 1941. — 22 чэрв. — С. 3.

Публікацыі К. Рагойшы ў абласной «Сялянскай газеце» (Вілейка):

**«Калгасны шлях»** (Верш). — 1940. — 22 чэрв. — С. 3.

**«Каб жыццё зарой квітнела»** (Верш). — 1940. — 2 жніўня. — С. 4.

**«Прывітанне рэспублікам братнім»** (Верш). — 1940. — 29 жніўня. — С. 1.

**«Наступ на балоты»** (Верш). — 1941. — 29 крас. — С. 2.

**«Змяніўся твар вёскі»** (Верш). — 1941. — 14 мая. — С. 2.

**«Раскрываем тарфяныя нетры»** (Верш). — 1941. — 27 мая. — С. 2.

**«Нівы зеленню наліваюцца»** (Верш). — 1941. — 1 чэрвеня. — С. 3.

**«Мы да новай ідзем перамогі»** (Верш). — 1941. — 8 чэрвеня. — С. 1.

Вершы **«Іншай прагі не знаю»** і **«Жыве Беларусь»** друкуюцца паводле аўтографаў, што захоўваюцца ў Архіве КДБ РБ (Фонд Р. № 31985-с).

Асобныя вершы К. Рагойшы перадрукоўваліся ў наступных выданнях:

**«Загудзелі калаўроты», «Граніты», «...Прыждалі светлай дзён пары», «Старонка родная мая», «Каб жыццё зарой квітнела», «Змяніўся твар вёскі» —** «Ракаўскі шлях». — 2006. — № 5–6 (31–32). — С. 6;

**«Загудзелі калаўроты», «Зіма», «Граніты», «Нязгасны шлях», «Каб жыццё зарой квітнела»** — кніга «Люблю наш край…: Валожыншчына літаратурная» (Мінск: Мастацкая літаратура, 2006. — С. 187–190).

**«Автобиография», «З «Протоколов допроса обвиняемого Рагойши Константина Иосифовича», «Определение»** друкуюцца паводле арыгіналаў, што захоўваюцца ў Архіве КДБ Беларусі (Фонд Р. № 31985-с; арфаграфія і пунктуацыя арыгіналаў захаваны). «**Автобиография**» напісана ручкай фіялетавым чарнілам, верагодна, у час прыёму К. Рагойшы на працу дырэктарам Пугачоўскай няпоўнай сярэдняй школы.

**«Ліст да брата Пятра Рагойшы ад 9. 11. 1948 г.», «Ліст да брата Антося Рагойшы ад 14. 2. 1955 г.», «Справка»** друкуюцца паводле арыгіналаў, якія захоўваюцца ў асабістым архіве ўкладальніка гэтага выдання. **«Ліст да брата Пятра Рагойшы ад 9. 11. 1948 г.»** напісаны на невялікім аркушы нелінаванай паперы чорным алоўкам. Канверт не захаваўся. «**Ліст да брата Антося Рагойшы ад 14. 2. 1955 г.»** напісаны ручкай фіялетавым чарнілам і пасланы 17. 2. 1955 г. (згодна з паштовым штэмпелем) на адрас: БССР, Гродненская обл., Щучинский р-н, м. Рожанка, Рагойше А. И. Зваротны адрас: Иркутская обл., г. Ангарск, пос. Восточный, д. 22, кв. 15. Рагойша К. И.

## З успамінаў пра Кастуся Рагойшу

**Надзея Рагойша. Мая «нянька».** — Упершыню — «Ракаўскі шлях». 2006. № 5–6 (31–32). — С. 3. Рагойша Надзея Іосіфаўна (н. 2.12.1923 г.) — родная сястра К. Рагойшы. Скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут. Усё жыццё да выхаду на пенсію працавала настаўніцай пачатковых класаў у родных Пярэжарах. Цікавасць уяўляюць яе лісты да брата П. І. Рагойшы, пасланыя з Пярэжар на фронт на адрас: «Полевая почта 04074 «П». Рагойшу Пётру Иосифовичу».

Першы ліст, які захаваўся, датуецца 10 студзеня 1945 года: «Дарагі Пеця, прымі ад нас словы найшчырэйшага прывітання

і самыя лепшыя пажаданні ў тваім жыцці. Спяшым саабшчыць, што мы жывы і здаровы, чаго і Табе жадаем, усяго добрага, як найлепшага. Пісьмо Тваё палучылі 9/I.45 г., каторае выслана Табой 15/XII.44 г., за што вельмі дзякуем. Мама з Зінай Балотнікавай ездзілі ў Барысаў другі раз і вас ужо не засталі. Толькі ад таварышаў чулі — яны ўжо выехалі на фронт дабіваць паганага немца. Пеця, Ты пішаш, што выслаў нам з дарогі на фронт 2 пісьмы, але мы іх не палучылі. Грыша ранены, ляжыць у госпіталі ў Маскве. Быў ранены ў нос і верхняе нёба асколкам міны. Раненне, піша нам, ідзе к канцу вылячэння. Грышаў адрас: Москва 48, Эвакуационный госпиталь 4641, 2-ое отделеление, 26 палата. Іван пісаў пісьмы часта, але ад яго цяпер не мелі пісьмаў можа дней дзесятак. Іванаў адрас: п/п 69606 «Х». Антось вучыцца ў гор. Гродне. Яго адрас: гор. Гродно, Ожешковая 22, Бел Гос. Пединститут, 1 курс — физмат. Ну, больш ніякіх навацыяў мы не маем, а што ж касаецца да гаспадаркі, то ўсё ёсць так, як Ты, выходзячы, пакінуў. Затым дасвідання, аставайся жыў-здароў. Жадаем усяго добрага, як найлепшага. З прыветам Твая сям’я — Рагойшы. Яшчэ паздраўляем Цябе з новым 1945 годам».

Другі ліст напісаны ў Пярэжаарах 2 красавіка 1945 г. і пасланы на той самы адрас: «Добры дзень, дарагі Пеця! Шлём мы Табе гарачае прывітанне з Пярэжар. Спяшым саабшчыць, што жывы і здаровы, чаго і Табе жадаем. Пісьмы, высланыя Табою 5/III, 15/III. і 17/III, палучылі ўчора, за што вельмі дзякуем. Грыша ўжо выпісаўся з шпіталя і знаходзіцца ў страі за Масквой. Яго адрас: «Ильино озеро, полевая почта 05903 «Л». Івана, бедняка, ужо не чуваць саўсім, гдзе ён і што з ім сталася, мы гэтага нічога не знаем. А ўсе астальныя на сваіх месцах, як Табе вядома. Пасылкі мы Тваёй не палучылі. Пэўна, ужо не палучым — гэтак доўга яна не ішла. Змітра Міронаў ляжаў у госпіталі ў гор. Горкім, а цяпер паправіўся і знаходзіцца ў нестраявых. Яго адрас: «Горьковская обл., Завейлужский р-н, Староустанский с/совет, Печорки». У нас ужо снег згінуў, толькі месцам дзе ў лажочку пакрысе астаўся. А нават 29/III

быў ужо гром, дні 4-ры было харошай пагоды — як летам, а цяпер пагода зменная.

У нас пагіблі за савецкую радзіму: Стахоўскі Андрэй, Ермаловіч Андрэй, Шунэйка Пётр, Мазура Аляксандр і Мураўскі Антон. А ёсць некаторыя і параненыя.

Пака дасвідання, больш такога пісаць няма чаго. Аставайся жыў, здароў. З прывітаннем мы ўсе, хто астаўся дома. Пішы часцей».

**Уладзімір Курыла. Канстанцін — значыць верны.** — Упершыню — «Ракаўскі шлях». — 2006. — №5–6 (31–32). — С. 4–5. Курыла Уладзімір Фёдаравіч (1923 г. н.) — аднавясковец і сябра К. Рагойшы. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, пасля вайны — медыцынскі інстытут у ЗША.

**Янка Багдановіч. Жменька згадак.** — Упершыню — «Ракаўскі шлях». — 2006. — № 5–6 (31–32). — С. 4. Багдановіч Іван Антонавіч (1906–1990) — сябар і аднакашнік К. Рагойшы па Віленскай беларускай семінарыі. Скончыў Вільнюскі настаўніцкі інстытут. Працаваў ў Вільні (Вільнюсе) у беларускай друкарні імя Ф. Скарыны (1927–1941), удзельнічаў у выданні часопіса «Шлях моладзі», потым настаўнічаў у пачатковых школах сталіцы Літвы (1941–1943, 1945–1967). Як журналіст, выступаў у польскамоўнай вільнюскай газеце «Czerwony sztandar». Аўтар кнігі ўспамінаў «На жыццёвым шляху» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1992).

## Антось Рагойша

**Вячаслаў Рагойша. Дзядзька Антось.** — Артыкул у скарочаным і ў некалькі іншым выглядзе друкаваўся спярша ў выглядзе некралога «Памяці дзядзькі Антося»ў «Ракаўскім шляху» (2007. — № 1 (35). — С. 4), пасля пад назвай «Захавальнік і ахоўнік нашага слова» — у газеце «Наша слова» (2007. — 4 красавіка). Верш асобна публікаваўся ў «Ракаўскім шляху» (2007. — № 2 (36). — С. 1) і ў кнізе: Вячаслаў Рагойша. Полюс цяпла: Вершы. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — С. 138–140.

Эсэ-ўспаміны Антося Рагойшы, за невялікім выключэннем, у розны час публікаваліся ў газеце «Ракаўскі шлях» у рубрыцы «Аповеды дзядзькі Антося». Перадрукоўваюцца з гэтай газеты з некаторымі ўдакладненнямі паводле рукапісаў, якія захоўваюцца ў прыватным архіве ўкладальніка гэтага выдання.

**«З радаслоўнага кораня»**. — Упершыню — кніга «Памяць: Валожынскі раён» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1996. — С. 413–416). У больш поўным выглядзе — «Ракаўскі шлях». — 2006. — № 5–6 (31–32). — С. 7–8.

Да напісанага А. Рагойшам пра «радаслоўны корань» Рагойшаў (па мячы) можна дадаць наступнае (паводле архіўнай даведкі Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі — Фонд 333, воп. 9, спр. 6, 98, 283, 607, 488, а таксама — вусных расказаў Пятра Рагойшы, Надзеі Рагойшы і Антося Рагойшы): Фёдар Рагойша з Пярэжар у канцы 1760-ых гг. ажаніўся з Людвігай Міхайлаўнай Сабалеўскай. У іх нарадзіліся два сыны — Андрэй (1769–?) і Сымон (1770–1815). У Сымона і яго жонкі Марыяны (1775–?) было трое дзяцей — сыны Вікенцій (1798–1852), Сцяпан (1806–?) і дачка Людвіга (1810–?). Сцяпана ў 1830 г. пан здаў у рэкруты. Але ён, паводле сямейных пераказаў, уцёк ад тагачаснай дваццаціпяцігадовай рэкрутчыны недзе пад Баранавічы. Магчыма, там з яго пачалося яшчэ адно адгалінаванне роду Рагойшаў (прозвішча такое сустракаецца паблізу Баранавіч і сёння). Вікенцій, як і ягоныя продкі, былі уніятамі. Але жыццё яго прыпала на час ліквідацыі уніяцкай рэлігіі царскім урадам пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі да Расійскай імперыі. У знак пратэсту супраць гэтай насільнай акцыі Вікенцій запісаўся католікам. З гэтага часу Рагойшы хрысціліся і вянчаліся ў Ракаўскім касцёле. Працаваў Вікенцій віннікам у пана Ратынскага. Ажаніўся ён з Настуляй Іванаўнай, якая нарадзіла яму пяцёра дзяцей: Іосіфа (Восіпа; 1820–?), Сымона (1826–?; у 1852 г. ён быў здадзены ў рэкруты), Фаму (1828–?), Крысю (1830–?) і Томаша. У Восіпа і яго жонкі Ганны Ігнатаўны

было трое дзяцей: дочкі Петрунэля (1848–?), Еўка (1856–?) і сын Пётр (1854–?), які ўзяў замуж дачку Філіповіча з вёскі Варашылава, што каля Заслаўя. Ім Бог паслаў ажно сямёра дзетак — сыноў Іосіфа (Юзю; 1876–1951), Антося (працаваў на тэлеграфе ў Петраградзе), Васіля, Міхася і дачок Антолю (выйшла замуж у Галабурды), Міхаліну (выйшла замуж у Волму) і Стэфку (выйшла замуж у Краснае).

Цікавасць уяўляе «Уставная грамота им. Пережир помещика Т. И. Ратынского за 1862 год», да якой прыкладаецца пайменны спіс сялян гаспадароў з указаннем колькасці зямлі, якая ім належала, і памеру павіннасцяў: «№ 1. Иосиф Викентьев Рогойша, всего земли 14 десятин, в т. ч. 1600 саж. усадебной, 12 дес. пахотной, 1 дес. 800 саж. сенокосной. Повинности, в т. ч. инвентарные годовые — 156 дней мужских и 104 дня женских пригонов, по 16 дней мужских и женских сгонов, 2 руб. оброка; назначаемые временно по положению, в т. ч. издельные: летних — 84 мужских с упряжью и 9 пеших и 65 дней женских, зимних — 56 дней мужских с упряжью и 4 пеших, 42 дня женских; постоянный оброк — 31 руб. 20 коп.» (Фонд 1595, воп. 2, спр. 1770, л. 42 адв. — 43. Дзесяціна — колішняя мера зямельнай плошчы, роўная 2400 кв. сажням, або 1, 09 га.).

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваўся і «Выкупной акт им. Пережир помещика Тита Игнатьева Ратынского от 14 июня 1865 года», да якога прыкладзены пайменны спіс сялян гаспадароў, якія выкупілі зямлю: «№ 1. Иосиф Рогойша, размер выкупаемой земли 13 дес. 1262 саж., в т. ч. 1324 саж. усадебной, 11 дес. 1357 саж. пахотной, 981 саж. сенокосной. Годовой оброк до составления выкупного акта — 31 руб. 20 коп., ежегодный выкупный платеж — 8 руб. 34 3/4 коп., выкупная ссуда — 139 руб. 79 1/6 коп.» (Фонд 1595, воп. 2, спр. 1770, л. 109 адв.—110).

Варта прывесці і выпіску з «Протокола заседания Минского губернского присутствия о разверстании пастбищного сервитута и черезполосных угодий по им. Пережир Минского

уезда и губернии» за 1911 год, дзе сказана: «Представленное Земским Начальником 3-го уч. Минского уезда от 28 января 1911 г. за № 304 производство с двумя добровольными сделками крестьян деревни Пережири Минского уезда с владельцем имения Пережири Ратынским… Из сделок этих видно: из первой, что владелец имения Пережир Евгений Ратынский, с одной стороны, и крестьяне дер. Пережиры Осип Рогойша […] и другие в числе 34 человека, с другой, 11 мая 1911 г. вошли в добровольное соглашение в следующем: аладелец Ратынский за отказ крестьян д. Пережиры от сервитутных прав по им. Пережиры предоставляет в постоянное владение и в собственность их по три десятины на каждый полный надел […] и 1 десятинник (батрацкий) в следующих местах: […] три полосы в «Придатках»: а) полоса в дер. «Потребы», граничащая с землями крестьян Василия Осипова Мазура, Осипа Петрова Рогойша […], б) в дер. «Озерище», граничащим с землями Осипа Рогойша и дорогой, ведущей из м. Раков в м. Ивенец до телеграфного столба […]» (Фонд 1595, воп. 2, спр. 1770, л. 133–134 адв.). Відавочна, «добровольные сделки» пана Ратынскага з сялянамі вёскі Пярэжары адбыліся пасля ягонага беспаспяховага суда з вяскоўцамі з-за сервітутнай пашы сялянскай жывёлы (гл. пра гэта эсэ Антося Рагойшы «Вясковы адвакат»).

З Іосіфа (Юзі) Рагойшы пачынаецца новая гісторыя роду Рагойшаў. Ён, католік, ажаніўся з праваслаўнай Аленай Грынкевіч (Грычынскай; 1891–1953). У царскай Расіі быў закон: калі адзін з бацькоў праваслаўны, то ўсе дзеці хрысцяцца ў царкве, аўтаматычна становяцца праваслаўнымі. Такім чынам, у царкве былі ахрышчаны Пётр, Грыша, Іван, Косця, Надзя і Антось.

За дапамогу ў адшуканні ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі матэрыялаў пра род Рагойшаў выказваю падзяку дырэктару Дэпартамента па архівах і справаводстве пры Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь Адамушку У. І.

*«Брат Іван загінуў на вайне...»* — Гл. пра Івана Іосіфавіча Рагойшу ў эсэ «Хацеў быць юрыстам» і ў каментары да эсэ.

*«Рыгор выгадаваў двух сыноў, Іосіфа і Мішу...»* — Пра Рыгора Іосіфавіча Рагойшу гл. у эсэ «Век пражыў прыстойна» і ў каментары да эсэ. *Міхась Рыгоравіч Рагойша* (1951 г. н.) і *Іосіф Рыгоравіч Рагойша* (1953 г. н.) скончылі Ракаўскую СШ, першы працуе ў родных Пярэжарах на сельгасвытворчасці, другі — у Мінску на аўтабазе. Рыгор Рагойша з'явіўся ініцытарам рэабілітацыі брата Косці. Менавіта за яго подпісам пайшла ў 1990 г. у Пракуратуру Мінскай вобласці заява з просьбай рэабілітаваць брата Кастуся Рагойшу. Вось тэкст таго «Заявления»: «В Прокуратуру Минской области участника Великой Отечественной войны, жителя дер. Пережиры Раковского с/совета Воложинского р-на Рагойши Григория Иосифовича *Заявление.* Прошу реабилитировать посмертно моего брата Рагойшу Константина Иосифовича, 1921 г. рожд., осужденного в 1948 году Минским областным судом на 10 лет тюрьмы как «враг народа». Из всех шестерых детей нашей большой семьи он был, пожалуй, самым способным. Несмотря на бедность, на трудности с учебой в бывшей Западной Белоруссии, где мы жили до 1939 года, Константин окончил 7 классов польской школы, писал стихи и посылал их в белорусские издания в Вильно. За его «писания» поляки однажды посадили отца в тюрьму (Константин был малолетним). После освобождения Западной Белоруссии Константин поступил в Молодечненское педучилище, но через год он перешел в «Вілейскую праўду» литературным сотрудником. В этой областной газете он часто печатал свои стихи и очерки [Недакладнасць: Кастусь Рагойша працаваў літсупрацоўнікам маладзечанскай раённай газеты «Чырвоны сцяг». Да гэтага, назва вілейскай абласной газеты — «Сялянская газета». — *В. Р.*]. Во время войны брат сначала работал на сельском хозяйстве, но потом, спасаясь от вывоза в Германию, поступил в Виленскую учительскую семинарию, которую окончил в 1943 году. Постоянные тревоги, переживания, голод и дру-

гие страдания военного времени привели в конце войны к болезни — шизофрении, от которой брат три месяца лечился в Минске. После войны Константин некоторое время работал в начальной школе в Пережирах, затем — директором Пугачевской восьмилетки (тогда — Радошковичский р-н Минской обл.). Школа его заняла первое место в районе. Одновременно брат занимался заочно в Гродненском пединституте. Все, казалось, складывалось как нельзя лучше. Но в 1948 году, когда он уже осилил три курса института (причем, за два года), его арестовало НКГБ. Судили в Минске. На суд поехали я, старший брат Петр и мать. Но на суд никого не пустили, только под конец, когда Константину дали последнее слово, мне удалось пробраться в зал суда. Он сказал: «Везите меня хоть в болото, только чтобы не в Минске». Он сам не мог стоять на ногах, его держали под руки два солдата. Через некоторое время я поехал в какую-то инстанцию узнать, за что же судили брата. Какой-то капитан, находившийся в комнате, сказал: «Судили на 10 лет за то, что он обругал, и крепко, товарища Сталина». Я и сейчас в эту «ругань» не верю… Сведений о брате долгое время никаких не было. Но летом 1954 года, после смерти Сталина, он, больной и изможденный, вернулся домой. Рассказал, что его отпустили досрочно. Хотел в Белоруссии устроится на работу по специальности, но с клеймом «враг народа» его нигде не брали. Тогда уехал назад, в Иркутскую область. Изредка какое-то время мы получали от него письма из Ангарска. В 1956 или 1957 году из Иркутска он в первый и последний раз прислал мне и моей сестре Надежде по 90 руб., и с тех пор от него не стало никаких известий. В 1965 году на мой запрос в адресное бюро Иркутска ответили, что брат жил в Ангарске по адресу: пос. 6000, общ. 8, кв. 21, выбыл 15.10.1964 г. Из этого мы поняли, что брата нет в живых. Прошу вас сообщить о судьбе моего брата: за что, на сколько лет его судили, где сидел, где умер и похоронен. И, основное, прошу восстановить его доброе имя, поскольку никаким «врагом народа» он не был, ни в каких антинародных акциях не участвовал, к советской

власти враждебно не относился. Я уверен, что его судили по какому-то доносу. Добавлю, что, кроме Константина, никто из нашей семьим к суду не привлекался. Трое из пяти братьев — участники Великой Отечественной войны, брат Иван погиб на фронте в Восточной Пруссии. Сам я на фронте был тяжело ранен, два года пролежал в больнице в Москве, домой вернулся только в 1946 году. 5 октября 1990 г. Г. Рагойша». На гэтую «Заяву» з Пракуратуры Мінскай вобласці прыйшоў ліст-адказ ад 7.12.1990 г., за № 13/90: «Сообщаю, что по Вашему заявлению о реабилитации брата производится проверка. Решение по его делу пока не принято в виду отсутствия части документов и не принятия необходимого постановления высшими органами власти по такой категории дел. Поэтому это дело находится на контроле. О принятом решении Вы будете уведомлены дополнительно. Старший помощник прокурора области Е. В. Шевчик». Пастанова аб рэабілітацыі К. Рагойшы адбылася праз два гады, у сакавіку 1992 года. Даведка пра гэта публікуецца ў дадзеным выданні.

*«Старэйшы брат Пётр..»* — Гл. пра Пятра Іосіфавіча Рагойшу ў эсэ «Светлы след» і ў каметары да эсэ.

*«...літаратуразнаўца Вячаслава Рагойшу».* — Вячаслаў Пятровіч Рагойша (1942 г. н.). Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ. Акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі (Масква). Член Саюза беларускіх пісьменнікаў і Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко.

*«...жонка Вячаслава».* — Таццяна Вячаславаўна Кабржыцкая (1941 г. н.). Скончыла філалагічны факультэт Львоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Івана Франко. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт, дацэнт кафедры славянскіх літаратур БДУ. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў і Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко. За даследаванне і

прапаганду ў Беларусі ўкраінскай літаратуры ўзнагароджана высокай дзяржаўнай узнагародай Украіны — ордэнам Княгіні Вольгі.

*«...філолаг Усевалад».* — Усевалад Вячаслававіч Рагойша (1969 г. н.). Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ.

*«...будучы гісторык Максім».* — Максім Вячаслававіч Рагойша (1972 г. н.). Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Генеральны дырэктар выдавецкай фірмы «Плутас-Маркет».

*«...будучы юрыст Пятрусь».* — Пётр Вячаслававіч Рагойша (1976 г. н.). Скончыў філалагічны (па спецыяльнасці «паланістыка») і юрыдычны факультэты БДУ. Кандыдат філалагічных навук. Загадвае Рэдакцыйным упраўленнем Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

*«Наш з Марыяй Іванаўнай...».* — Марыя Іванаўна Рагойша (1925 г. н.). Жонка А. І. Рагойшы. Скончыла філфак Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Усё жыццё да выхаду на пенсію працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў сярэдніх школах Гродзеншчыны і самога Гродна.

*«...старэйшы сын Аляксандр».* — Аляксандр Антонавіч Рагойша (1951 г. н.). Скончыў хімічны факультэт БДУ. Дацэнт кафедры агульнай хіміі і методыкі выкладання хіміі БДУ.

*«...для другога сына — Генадзя».* — Генадзь Антонавіч Рагойша (1956 г. н.). Скончыў хімічны факультэт БДУ. Кандыдат хімічных навук. Вядучы навуковы супрацоўнік навукова-даследчага Інстытута фізіка-хімічных праблем БДУ.

*«Сястра Надзя...».* — Пра Надзею Іосіфаўну Рагойшу гл. у каментары да яе ўспамінаў «Мая «нянька».

*«Яе дачка Ларыса...».* — Ларыса Сяргееўна Курыла (1950 г. н.). Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры.

*«Старэйшая дачка Валя...».* — Валянціна Сяргееўна Балашчанка (1949 г. н.). Скончыла Маскоўскі інстытут лёгкай прамысловасці. Працавала на вытворчасці, у банкаўскай сістэме.

*«...і сын Віктар».* — Віктар Сяргеевіч Курыла (1952 г. н.). Скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Працаваў на розных адказных пасадах у сельскай гаспадарцы. Цяпер — дырэктар дзіцячага аздараўленчага лагера ў Ракаве.

**«Назвы родныя роднай зямлі».** — «Ракаўскі шлях». — 2002. — № 1 (11). — С. 2. Гэта — першае эсэ А. Рагойшы, надрукаванае ў газеце «Ракаўскі шлях». Яно друкавалася пад назвай «Медзьведка. Гарадзейкі. Рынкава балота» ў рубрыцы «Аповеды дзядзькі Антося» з рэдакцыйнай нататкай: «З гэтага нумара мы пачынаем друкаваць аповеды дзядзькі Антося. Хто ён такі? Няхай пакуль што імя яго застанецца нераскрытым. Зрэшты, ён наш зямляк, у Ракаўскім краі нарадзіўся і вырас. Шмат перажыў, перабачыў, перадумаў, шмат ведае. Нагадвае дзядзьку Антося з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Галоўнае — тое, пра што ён будзе апавядаць, у нашым краі адбывалася на яго вачах або пачута ім ад другіх людзей…».

**«Вясковы адвакат».** — «Ракаўскі шлях». — 2003. — № 1 (17). — С. 4.

**«Сват — усім сватам сват…».** — Друкуецца ўпершыню з рукапісу, які захоўваецца ў прыватным архіве ўкладальніка гэтага выдання.

**«Мая «акліматызацыя» ў Ракаўскай сямігодцы».** — «Ракаўскі шлях». — 2002. — № 2 (12). — С. 2.

**«Пачатак доўгай дарогі ў навуку».** — «Ракаўскі шлях». — 2003. — № 2–3 (18–19). — С. 2.

**«Як бальшавікі мяне вызвалілі».** — Друкуецца ўпершыню з рукапісу, які захоўваецца ў прыватным архіве ўкладальніка гэтага выдання.

**«У час нямецкай акупацыі».** — «Ракаўскі шлях». — 2004. — № 5–6 (24–25). — С. 5 (пад назвай «Як мы хаваліся ад немцаў»).

**«Наш першы, пасляваенны»**. — «Гродзенскі універсітэт». — 2000. — 1 сакавіка. — С. 2.

**«Хацеў быць юрыстам».** — «Ракаўскі шлях». — 2004. — №4 (23). — С. 1 (пад назвай «Брат»). *Брат Іван* — Рагойша Іван Іосіфавіч (7.6.1918–14.1.1945?). Скончыў Ракаўскую польскую сямігодку. Пасля 17 верасня 1939 г. яго прызначылі ў Ракаве, мабыць, першым савецкім участковым міліцыянерам. Імкнучыся атрымаць юрыдычную адукацыю, паступіў у Гродзенскую рэспубліканскую школу міліцыі, вучобу ў якой перапыніла вайна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. 14 студзеня 1945 г. у адным з баёў ва Усходняй Прусіі быў паранены. Відавочна, памёр ад ран. Вось выпіскі з двух архіўных даведак Цэнтральнага архіва Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі (Мінабароны Расіі) — адказ на просьбы ўкладальніка гэтага выдання даведацца пра ваенны лёс Івана Рагойшы:

«18 апреля 2007 г., №8/80894. В книге учета рядового и сержантского состава 164 гвардейского стрелкового полка 55 гвардейской стрелковой дивизии (п/п 69606) за 1944–45 гг. значится: «Кр-ц Рагойжа Иван Иосифович (фамилия так в книге), 1918 г. р., призван 27.7.44 г. Радошковичским РВК, прибыл 18.9.44 г., ранен 14.1.45 г.». Основание: ЦАМО, оп. 62020, д. 4, л. 132. 164 гвардейский стрелковый полк 55 гвардейской стрелковой дивизии с 13 октября 1944 г. по 31 марта 1945 г. входил в состав Действующей армии. Основание: Перечень 5, стр. 183. Зав. архивохранилищем Фомина. Исп. Хомякова»;

«22 августа 2008 г., № 88930. По документам учета безвозвратных потерь сержантов и солдат Советской Армии установлено, что ефрейтор Рагойжа Иван Иосифович, 1918 г. р., уроженец Молодечненской обл,, Радошковичского р-на, д. Пережири, призван в СА Радошковичским РВК, пропал без вести в январе 1945 г. Отец — Рагойжа Иосиф Петрович проживал по месту рождения учтенного. Основание: ЦАМО, дон. 46677с-47 г. Примечание: фамилия учтенного и отца — так в документе… Учтен в 1947 г. Управлением

по учету беззвозвратных потерь сержантов и солдат СА, в связи с заявлением о розыске от отца, так как сведений о его судьбе из в/ч не поступало. Сложная обстановка на фронтах ВОВ 1941–1945 гг. не позволяла точно установить судьбу некоторых военнослужащих, поэтому они были учтены пропавшими без вести. 55 гв. сд обслуживал 444 /61/ медсанбат. В алфавитной книге умерших 444 /61/ мсб за 1945 г., в книге учета умерших за январь–март 1945 г. сведений на Рагойша (Рагойжа) И. И. не имеется. Зав. архивохранилищем Баслядинский. Исп. Хазова».

**«Светлы след».** — «Ракаўскі шлях». — 2002. — № 4 (14). Эсэ прысвечана старэйшаму брату — Пятру Іосіфавічу Рагойшу (12.7.1914–23.10.1985). Закончыўшы Ракаўскую польскую «школу паўшэхну», ён працаваў на ўласнай гаспадарцы, потым служыў у польскай арміі, вучыўся ў «Школе Ральнічай» у Лаздунах (Іўеўскі раён), дзе як лепшы вучань быў пакінуты на пасадзе загадчыка гаспадаркі школы. Вось копія пасведчання П. І. Рагойшы аб заканчэнні ім гэтай навучальнай установы (пераклад з польскай мовы):

Народная Земляробчая Школа ў Лаздунах,

якая належыць да Павятовай Рады ў Валожыне, ваяводства Навагрудскае, павет Валожын. Працягласць навучання 11 месяцаў.

Пасведчанне аб заканчэнні школы

*Рагойша Пётр*, народжаны дня 13 чэрвеня 1914 г. [дата недакладная, на самай справе П. І. Рагойша нарадзіўся 12 ліпеня. — *В. Р.*] у Пярэжарах, гміны Ракаў, павету Маладзечна, жыхар Пярэжараў, закончыў поўны курс навук у Народнай Земляробчай Школе ў Лаздунах, у якой вучыўся з 15 студзеня 1936 г. па 15 снежня 1936 г. У часе навучання ў школе паводзіў сябе *вельмі добра*. Поспехі выявіў наступныя:

Па прадметах агульнаадукацыйных — *дастатковыя,*

Па прадметах спецыяльных:

Землеробства — *добрыя,*

Жывёлагадоўля — *добрыя,*

Садоўніцтва, агародніцтва, пчалярства — *вельмі добрыя,*
На занятках практычных — *вельмі добрыя.*
Дырэктар Школы: (Подпіс)
Педагагічная Рада: (Подпісы)
Школьная камісія: (Подпісы)
№ 175 X/29
Дня 15 снежня 1936 г.

Калі на базе школьнай гаспадаркі арганізавалі адзін з першых у Заходняй Беларусі калгасаў, калгаснікі абралі П. І. Рагойшу сваім старшынёй. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны працаваў старшынёй Выганіцкага сельсавета, затым — ажно да выхаду на пенсію — калгасным бухгалтарам у Ракаве. Пахаваны на Ракаўскіх праваслаўных могілках.

*«Валянціна, Антось прыехаў!»* — Маецца на ўвазе Валянціна Антонаўна Рагойша (з роду Качановічаў; 30.11.1917–10.1.2003), жонка П. І. Рагойшы. Нарадзілася ў в. Круплі цяперашняга Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Да вайны скончыла «Школу ральнічу» ў мястэчку Ражанка на Гродзеншчыне. Шлюбам П. І. Рагойша і В. А. Качановіч пабраліся ў 1940 г. Пасля вайны да выхаду на пенсію працавала ў калгасе «Ракаўскі». Пахавана на праваслаўных могілках у Ракаве.

**«Век пражыў прыстойна».** — Друкуецца ўпершыню з рукапісу, які захоўваецца ў прыватным архіве ўкладальніка гэтага выдання. *Грыша* — родны брат аўтара ўспамінаў Рыгор Іосіфавіч Рагойша (6.5.1916–3.11.2002). Скончыў Ракаўскую польскую сямігодку. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, на якой быў цяжка паранены. Лячыўся ў вайсковым шпіталі ў Маскве, у Інстытуце Скліфасоўскага. Нейкі час пасля вайны выкладаў у пачатковай школе, затым усё жыццё працаваў у сельскай гаспадарцы ў родных Пярэжарах. Там жа на вясковых могілках і пахаваны.

Захавалася яго пісьмо, пасланае 25 студзеня 1945 г. свайму брату Пятру з маскоўскага шпіталя («Москва 48. Э/Г 4641, 20-е отд., 26 пал.»): «Здравствуй, дорогой Петя! Шлю Тебе горячий привет и пожелание всего наилучшего. Я сейчас на-

хожусь в Москве в госпитале. Ранен был 25 октября 1944 г. в Восточной Пруссии, но уже скоро выйду с госпиталя. С дому письма часто получал и мои письма тоже, наверно, все получили. От Ивана письмо получил месяц тому и больше нет. Я ему несколько раз посылал.

Петя, сейчас в Москве гремят салюты ежедневно за славную победу, за Ваш большой труд на фронтах. Напиши мне в письме, где Ты сейчас находишься, в какой стране воюешь, кто со знакомых есть с Тобой и т. д. Описывай побольше.

Затем желаю Тебе всего наилучшего. С приветом Г. Рагойша. 25.1.45».

**«Навучанне ў Гродзенскім педінстытуце (дакументальныя сведчанні)»**. — Матэрыялы ўзяты з асабовай справы А. І. Рагойшы, якая захоўваецца ў архіўных фондах Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы (былога педінстытута). За іх адшуканне — вялікі дзякуй прафесару кафедры беларускай літаратуры гэтага універсітэта, доктару філалагічных навук І. В. Жуку.

## З успамінаў пра Антося Рагойшу

**Антось Ал. Рагойша. Мой дзядуля**. — Успаміны Антося Аляксандравіча Рагойшы (1988 г. н.) — студэнта гістарычнага факультэта БДУ, унука Антося Іосіфавіча Рагойшы — напісаны спецыяльна для гэтага выдання. У іх аснове — не толькі асабістыя згадкі, але і аповеды бабулі Марыі Іванаўны Рагойшы (1925 г. н.), а таксама бацькі Аляксандра Антонавіча Рагойшы (1951 г. н.), дацэнта хімфака БДУ.

*В. П. Рагойша*

# ЗМЕСТ

## КАСТУСЬ РАГОЙША

*Вячаслаў Рагойша.*
Дзядзька Косця . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5

**Вершы**
* * * Пад пакацістай гарою... . . . . . . . . . . .13
Граніты . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .13
Загудзелі калаўроты . . . . . . . . . . . . . . . . .14
Зіма . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .15
Мінулае . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .16
* * * Прыждалі светлай дзён пары... . . . . . . .17
Нёман . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .17
Старонка родная мая . . . . . . . . . . . . . . . .18
Ленін. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .19
Нашаму кандыдату т. Бярнацкаму. . . . . . . .20
Калгасны шлях . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .20
Каб жыццё зарой квітнела . . . . . . . . . . . . .21
Прывітанне рэспублікам братнім . . . . . . . .22
17 верасня . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .22
Зробім краіну пышным садам . . . . . . . . . . .23
Наступ на балоты . . . . . . . . . . . . . . . . . . .24
Змяніўся твар вёскі . . . . . . . . . . . . . . . . .25
Захапляецца сэрца прыволлем. . . . . . . . . .27
Раскрываем тарфяныя нетры . . . . . . . . . . .28
Нівы зеленню пакрываюцца . . . . . . . . . . . .29
Мы да новай ідзем перамогі . . . . . . . . . . .31
Асушым балоты . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .32
Іншай прагі не знаю . . . . . . . . . . . . . . . . .34
Жыве Беларусь!. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .35
Автобиография . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .37
Ліст да брата Пятра Рагойшы ад 9.11.1948 г. . . . . . . . .38
Ліст да брата Антося Рагойшы ад 14.2.1955 г. . . . . . . . .39

З «протоколов допроса обвиняемого
Рагойша Константина Иосифовича» . . . . . . . . . . .40
Определение . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .49
Справка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .51

**З успамінаў пра Кастуся Рагойшу**
*Надзея Рагойша.*
Мая «нянька» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .52
*Уладзімір Курыла.*
Канстанцін — значыць верны . . . . . . . . . . . . . . .59
*Янка Багдановіч.*
Жменька згадак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .64

**АНТОСЬ РАГОЙША**

*Вячаслаў Рагойша.*
Дзядзька Антось . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .69

**Эсэ, успаміны, дакументы**
З радаслоўнага кораня . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .74
Назвы родныя роднай зямлі . . . . . . . . . . . . . . . .81
Вясковы адвакат . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .85
Сват — усім сватам сват. . . . . . . . . . . . . . . . . . .87
Мая «акліматызацыя» ў Ракаўскай сямігодцы . . . . .89
Пачатак доўгай дарогі ў навуку . . . . . . . . . . . . .92
Як бальшавікі мяне вызвалілі . . . . . . . . . . . . . .94
У час нямецкай акупацыі . . . . . . . . . . . . . . . . .96
Наш першы, пасляваенны . . . . . . . . . . . . . . . . .98
Хацеў быць юрыстам. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 102
Светлы след . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 104
Век пражыў прыстойна . . . . . . . . . . . . . . . . . . 108
Навучанне ў Гродзенскім педінстытуце
*(дакументальныя сведчанні)*. . . . . . . . . . . . . . . . 111
Заява . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 111
Аўтабіяграфія . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 112

Весткі аб паводзінах і посьпехах вучняў
Вялейскае Настаўніцкае Сэмінарыі . . . . . . 113
Выписка из зачетной книжки
*(без диплома недействительна)* . . . . . . . 114
Характеристика . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 115

**З успамінаў пра Антося Рагойшу**
*Антось Ал. Рагойша*.
Мой дзядуля. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 116

*Вячаслаў Рагойша*.
Каментар . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 131

*На першай старонцы вокладкі:*

Родныя браты Кастусь і Антось Рагойшы. 1954 г.

*На апошняй старонцы вокладкі:*

Антось Рагойша і яго жонка Марыя Іванаўна (стаяць у другім радзе злева) з трыма пакаленнямі роду Рагойшаў. У першым радзе ў цэнтры – Вячаслаў Рагойша з жонкай Таццянай Кабржыцкай. У верхнім радзе (злева направа) іх сыны: Пётр з жонкай Ілонай, Усевалад і Максім. У ніжнім радзе (злева направа): Эла (жонка Максіма) з сынам Станіславам і дачкой Елізаветай, Антось (сын Усевалада), Дамініка (дачка Пятра) і Наташа (жонка Усевалада) з сынам Максімільянам. Ракаў, 2004 г.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Кастусь Рагойша, Антось Рагойша

**НАМ СНЯЦЦА СНЫ ПРА БЕЛАРУСЬ**

Вершы, эсэ, успаміны

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Вячаслаў Рагойша*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 20.11.2008. Фармат 84x108 $^1/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Гарнітура Times. Ум. друк. арк. 7,98.
Ул.-выд. арк. 4,76. Наклад 200 ас. Зак. 1328.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.